# АБ МОВЕ СЛУЦКАГА ЕВАНГЕЛЛЯ

## Графіка-арфаграфічныя рысы Слуцкага Евангелля

**Графічныя рысы Слуцкага Евангелля.** Слуцкае Евангелле напісана ўставам.

У тэксце зафіксаваны літары **а, б, в, г, д, є, ж, ѕ, з, і, и, ї, к, л, м, н, о, о** (графічна звужаная), **п, р, с, т, оу, ѹ, ф, ѡ, Ѡ** (графічна шырокая), **х, ц, ч, ш, щ, ъ, ы, ь, ѣ, ю, ꙗ, ѧ, ѫ, ѯ, ѱ, ѳ, ѵ.**

Літары напісаны старанна, вытанчана, знаходзяцца блізка адна ад адной. Гарызантальны штрых некаторых з іх (**г, б, д, т, ъ, ѣ, ѳ**) па баках заканчваецца трохвугольнымі засечкамі. Літары **ж, х, ѵ, ѵ** таксама маюць трохвугольную засечку справа зверху. Часам у вертыкальных лініях (**и, н, п, р, ш**) назіраецца ледзь прыкметнае скругленне.

Гук [*а*] пасля цвёрдых зычных і ў пачатку слова абазначаецца літарай **а**: **оужасаахѫ сѧ** 99*, **аще** 151, **аминь** 157б. Графема **ѧ** ўжываецца пасля літар, якія абазначаюць мяккія зычныя гукі: **ѡгнѧ** 1б, **ослѧти** 2б, **оучити сѧ** 3б, **оучтлѧ** 3б, **просѧщемоу** 16, **коупѧть** 36, **сѣдѧи** 73, **ѡсѣнѧа** 95; графема **ꙗ** – пасля літар, якія абазначаюць галосныя гукі, а таксама ў пачатку слова на месцы спалучэння [*ja*]: **ꙗзвины** 21б, **оуꙗзвльше** 174б. Адзначаны выпадкі варыянтных напісанняў з **ѧ** і **ꙗ** ў пачатку слова: **ꙗзыкъ** 56, **ꙗзыкѡ**^ms 47б – **ѧзыци** 157, **ѧзыкь** 219б, **ꙗзвоу** 237б – **ѧзвы** 151, **всѧкоу ꙗзю** 24б – **ѧзѧми** 78. Аднак напісанні з пачатковай літарай **ѧ** менш частотныя.

Гук [*е*] передаецца літарамі **є** (шырокая), є (графічна звужаная) і **ѣ**. Літара **є** (шырокая), якая перадае ётаваны гук, пішацца пераважна ў пачатку слова і пасля галосных, є (звужаная) – пасля зычных: **єгда же** 17, **лицемѣри** 17б, **архиіерѣи** 40, **къ горѣ єлеѡньстѣи** 48б. Аднак спарадычна сустракаюцца варыянтныя напісанні: **єлои** 113 – **єлѡї** 113.

Гук [*і*] абазначаецца графемамі **ї, и** і **ѵ**. Па традыцыі **ї** ўжываецца перад галоснымі, а **и** – пасля зычных: **пити** 47б, **помышленїа** 134. Але адно і тое ж слова можа мець па некалькі графічных варыянтаў, што звязана, хутчэй за ўсё, з імкненнем аўтара захоўваць суразмернасць радкоў у рукапісе: **ар**^s**хїиерее** 61, **їеремию** 40, **татие** 17б – **татїе** 17б, **ї иоан**^s**на** 40б – **и їоан**^s**на** 86б, **їсъ** 173 – **иса** 64.

Літара **ѵ** для абазначэння гука [*і*] спарадычна ўжываецца ў словах іншамоўнага паходжання: **вѵфлеемь** 10, **смѵрноу** 10, **мѡѵсѣови** 41, **сѵра**

---

* Тут і далей указаны аркуш з тэксту Слуцкага Евангелля, на якім зафіксаваны прыклад.

92, тѵрьскы 91б, мѵроносіца^м 114б. Зрэдку ў запазычаных словах ѵ передае гук [в]: еѵ^г^ліє 24.

Графема ı ўжываецца толькі з лікавым значэннем: ві, аі.

Гук [о] передаецца літарамі о (графічна звужаная), о (графічна шырокая), ѡ і ѡ (графічна шырокая). Літара ѡ звычайна ўжываецца ў пачатку слова, у канчатку -ѡ^м назоўнікаў у формах давальнага склону множнага ліку і творнага склону адзіночнага ліку, заўсёды ў прыназоўніку і прыстаўцы ѡ^т: ѡсмыи на десѧть 3, къ ѡвца^мѕ 38, възѕпи гласѡ^мѕ велиє^мѕ 85, рѣ^х ѹчн҃кѡ^м 96, ѡ^т кръве 66, ѡ^ттоудѫ 38. Як правіла, ѡ пішацца з высокай сярэдзінай, хаця можна ўбачыць больш размашыстае яе напісанне са скарочанай сярэдзінай (ѡ графічна шырокая): ѡбрѧщете 19, їѡрдана 130, сѡнмище 130б, ѡни же 135б. Выкарыстанне о звужанай і о шырокай у Слуцкім Евангеллі вольнае.

Ужываецца ў помніку так званае "вочнае о" (у формах адзіночнага ліку слова око о пішацца з адной кропкай у сярэдзіне): ꙩко за ꙩко 16. Такое ж напісанне выяўлена ў словах ꙩбьемлють 19б, ꙩгнь 19б, ꙩни 46б. У слове очи о мае дзве кропкі ў сярэдзіне: ꙫчи 48б. У слове овца пішацца о з коскай у сярэдзіне: ꙩвца 215б. З выявай крыжа featured рознай канфігурацыі ў сярэдзіне о сустракаецца ў словах тыпу ꚙкр^с^тъ 124, ꚙкр^с^тъ 87б. Графічна звужаная о заўсёды ўжываецца як элемент дыграфа оу: роукѫ 126б, оуповающи^мѕ 169б.

Гук [у] передаецца дыграфам оу і літарамі ѹ, ѫ: зѹбъ за зоубъ 16, ѹзрѣ 77, кѫп^ѕцоу 34б, ѡ^ттоудѫ 38, госпѡ^дствѫють 48, оучн҃кѡ^мѕ 89б – ѹчн҃кѡ^м 96. У канцы радка сустракаецца дыграф асобага выгляду: у радку пішацца о, а над радком ставіцца верхняя частка знака ^ѵ: высокꙋ 12б, въше^дшꙋ 96б, чашꙋ 109, грѧдꙋ 114б.

У Слуцкім Евангеллі літара ѫ ўжываецца вельмі непаслядоўна. Звычайна яна замяняецца ў тэксце дыграфам оу. Так, напрыклад, традыцыйнае напісанне рѫкоу з ѫ нам сустрэлася 2 разы (80б, 116), а напісанняў з оу ў корані роук- выяўлена 50; напісанняў пѫт- і поут- зафіксавана адпаведна 4 і 58; адзінкавую фіксацыю мае традыцыйнае напісанне -рѫг-: порѫгаша сѧ 112б (пры пороуганъ 10б, пороугаша сѧ 66б, пороугают сѧ 100). Корань голоуб- (ст.-слав. голѫбь) увогуле прадстаўлены толькі з оу: голоубї 4, голоубь 12, голоубїє 25б. Назіраецца і адваротная з'ява – ужыванне літары ѫ на месцы оу: кѫп^ѕцоу 34б (выяўлена адзінкавая фіксацыя побач з традыцыйнымі напісаннямі коуп-).

Графема **ы** пішацца як спалучэнне **ь** і **і**.

Літара **в** мае некалькі графічных варыянтаў: **виж$^{д}$ь бо в$^{ѕ}$ коних** 5б, **въста$^{ѻ}$** 185.

Першапачаткова літары **з** і **ѕ** абазначалі розныя гукі: адпаведна [*z*’] і [*d*’*z*’]. У Слуцкім Евангеллі правільнае выкарыстанне **ѕ** зафіксавана ў словах **ѕмїа** 4, **ѕлословити** 91, **ѕло** 183, **кнѧѕь** 228б і вытворных ад іх, якія, аднак, у шэрагу выпадкаў напісаны таксама праз літару **з**: **злѣ** 41б, **кнѧ$^{з}$** 161б, **злодѣи** 233. Падобныя паралельныя напісанні сведчаць аб функцыянальным неадрозненні названых літар, якое пачало назірацца ў ранніх старaславянскіх помніках і знайшло працяг і замацаванне ў царкоўнаславянскіх тэкстах [205, 35].

Сярэдняя частка графемы **м** звычайна завостраная і не выступае за радок. Выпадкі напісання **м** іншага выгляду (са скругленай пятлёй) сустракаюцца рэдка: **Мноѕи** 20, **смоковница** 49б.

У літары **н** паясок крыху нахілены ў правы бок, але бывае ён ужо і гарызантальны: **ничтѡ** 133, **речь нань** 135б, **вънидє** 138б.

Літара **т** у канцы радка часам, магчыма, з мэтай эканоміі месца, графічна відазмяняецца (нагадвае лічбу 7) і як бы ўзнімаецца над радком: **прїи7и** 36б, **обладаю7ь** 48.

Гук [*ф*] перадаецца літарамі **ф** і **ѳ**, адзначаны выпадкі іх змяшэння пры напісанні аднаго і таго ж слова: **ѳомоу** 81б, **голгоѳа** 234б, **їѡсифъ** 126б – **їѡси$^{ѳ}$** 184б, **матѳеови** 73 – **ѡ$^{т}$ ма$^{т}$фѣа** 250 – **ѡ$^{т}$ ма$^{т}$ѳѣѧ** 249б.

Напісанне літар **х, ц, щ** вылучаецца істотным выхадам за межы радка тонкіх “хвастоў”.

Графема **ч** мае выгляд аднабаковай несіметрычнай (часам скругленай) чашы: **чєсо** 27б. Сустракаюцца выпадкі напісання названай графемы ў выглядзе чашы і ў выглядзе дзвюх рысачак, якія разыходзяцца ад прамой (расшчэпам): **оучнїа** 2, **Чл҃къ нѣкыи** 50б.

Спалучэнне [кс] у словах грэчаскага паходжання абазначаецца літарай **ѯ**: **въ алеѯан$^{д}$рїи** 72б.

Графема **ѱ** перадае спалучэнне [пс]: **са$^{м}$ѱона** 244б. Адзначаны выпадкі паралельнага ўжывання літары **ѱ** і спалучэння літар **пс**: **нѣ$^{с}$ добро ѡтѧти хлѣба чѧдѡ$^{мѕ}$ и поврѣщи ѱѡ$^{м}$, она же рече, еи г҃и, ибо и ѱи ꙗдѧть ѡ$^{т}$ кроупиць падоующих ѡт трапезы господїи свои$^{х}$** 38 – **пси приходѧщє, облизаахꙋ гнои єго** 166б; **ѱалѡ$^{м}$скы$^{х}$** 176 – **псалмѣ$^{х}$** 187.

У групах зычных і на канцы слоў часта ўжываецца надрадковы знак ^s^ (паерык), які стаіць звычайна на месцы **ъ** ці **ь**: **вѣчˢныи** 45б, **исˢпиета** 47б–48, **изˢшеᴬше** 51б.

У Слуцкім Евангеллі сустракаюцца і іншыя надрадковыя знакі (часам ледзь прыкметныя), адны з іх падобны да маленькай коскі, іншыя – да кропкі. Шырока ўжываюцца спірытусы (псіла і дасія) – знакі прыдыхання. Псіла – вынасны знак у выглядзе маленькай коскі ’ – ставіцца ў пачатку слова над літарамі, якія абазначаюць галосныя, і над злучнікам **и**: **и’зыде** 13б, **и’ възмша** 36, **є’же** 43б, **ꙗ’ко** 45. Дасія перадае пераважна толькі [*j*]: **їюдѣистѣй** 9б, **плачоущей** 13б, **заповѣдей** 14б, **тъй** 16б, **твой** 17. Над канцавымі літарамі, якія абазначаюць галосныя, звычайна ставіцца знак у выглядзе рысачкі з нахілам у левы бок (варыя): **ємоу̀** 19, **добро̀** 19б, **болмщаа̀** 21, **єго̀** 21б.

Маленькая круглая дужка (камора) сустракаецца пераважна над аднаскладовымі словамі, якія заканчваюцца на **о**, **м**, **а**: **что̑** 16б, **тл̑м** 17б, **она̑** 24.

У канцы аднаскладовых слоў над галоснымі часта ставіцца знак ̏ (кендзема): **ты̏** 12, **вы̏** 14, **мы̏** 17, **бѣ̏** 20, **двѣ̏** 204. Часам ён сустракаецца на месцы гука [*j*]: **въ то̏ дн҃ъ** 52б, **нѣкы̏** 161, **грᴬды̏** 197б. Кендзема ў выглядзе дзвюх кропачак заўсёды ўжываецца над іжыцай (**ѵ**), калі яна абазначае гук [*i*]: **архисѷнагоговѣ** 2, **вавѷлоньское** 8б, **єгѷпетъ** 10б, **кѷтове** 31, **кѷринеиска** 66б.

Практычна над кожным словам ставіцца знак націску ´: **възлюби́ши** 16, **нача́ша** 28б, **изы́ди** 96, **посла́вшаго** 148, **за́повѣᴬⁿ** 184б.

У рукапісе выяўлены цітлы некалькіх тыпаў. Пераважаюць скарачэнні слоў пад цітлай, якая мае выгляд хвалістай лініі: **ст҃моу** 97, **хс҃** 105, **оц҃а** 150, **смр҃ти** 182б. Такая цітла ставіцца таксама і над літарамі для абазначэння ліку: **а҃** – 1, **в҃** – 2 і г.д. Літары, якія абазначаюць тысячы, маюць злева знізу двойчы перакрэслены хвосцік: ҂**а҃** – 1000.

Найбольш распаўсюджаныя скарочаныя напісанні слоў пад цітлай у Слуцкім Евангеллі наступныя: **б҃ъ**, **бж҃їи**, **бл҃го**, **бл҃говѣстїє**, **бл҃гсви**, **бл҃гнъ**, **бл҃готворити**, **гл҃ати**, **гл҃ъ**, **гн҃ъ**, **г҃ь**, **дв҃дъ**, **дн҃ь**, **д҃ша**, **дх҃ъ**, **їс҃ъ**, **їу҃**, **млс҃ть**, **мр҃їа**, **нб҃о**, **ѡц҃ъ**, **смр҃ть**, **сн҃ъ**, **сп҃сти**, **оучн҃къ**, **оучт҃ль**, **цр҃ь**, **цр҃квныи**, **хв҃а**, **хр҃ъ**, **чл҃къ**.

Радзей для скарачэння слоў і абазначэння ліку ўжываецца цітла ў выглядзе гарызантальнай прамой рыскі з засечкамі па баках: **блженˢных** 2, **в луц**, **є** 2.

У табліцы прыведзена лікавае значэнне літар:

| | адзінкі | дзесяткі | сотні | тысячы |
|---|---|---|---|---|
| 1 | а | ї | ρ | ҂а |
| 2 | в | к | с | ҂в |
| 3 | г | л | т | |
| 4 | д | м | ѵ | |
| 5 | є | н | ф | |
| 6 | ѕ | ѯ | х | |
| 7 | з | о | ѱ | |
| 8 | и | п | ѡ | |
| 9 | ѳ | ч | ц | |

У Слуцкім Евангеллі над радком выносяцца літары **б, в, г, д, ж, з, к, л, м, н, п, ρ, с, т, ѳ, х, ц, ч, ш, щ**: **соу**$^{б}$ 11, **єѵ**$^{г}$**лїє** 19, **оутаи**$^{л}$ 28б, **видѣ**$^{ш}$ 32б, **ирѡ**$^{д}$ 35, **ѡ**$^{н}$ **жє рє**$^{ч}$ 36, **събЛажнѧє**$^{тѕ}$ 43, **ко**$^{ц}$ 50, **цρ**$^{с}$**тво** 50б, **сє**$^{п}$ 57б, **мє**$^{нѕ}$**ши**$^{х}$ 60б, **и**$^{мѕ}$ 66, **ма**$^{ѳ}$ 71, **ꙗ**$^{к}$ 103, **ꙗко**$^{ж}$ 153, **въ**$^{з}$**ложити** 175, **просвѣщ** 193, а таксама **а, о, ѹ, ѧ**, вельмі рэдка – **ы, ю**: **пρ**$^{о}$**ρк**$^{ы}$ 39, **окρасиш**$^{а}$ 58б, **тво**$^{а}$ 97б, **дом**$^{ѹ}$ 149, **пам**$^{ѧ}$**ть** 245б, **жєно**$^{ю}$ 125. Па традыцыі адны вынасныя літары зверху пакрываюцца цітлай (мае выгляд круглай дугі), а другія выносяцца без цітлы. Вынасная **в** пад круглай цітлай часта набывае выгляд квадрата: **въста**$^{в}$ 185, **ваρа**$^{в}$**вѹ** 65б. Вынасная **д** пішацца размашыста, з укарочанымі элементамі і сама выконвае ролю цітлы. Вынасная **т** шырокая, з укарочанымі элементамі: **боудє**$^{т}$ 84, **вѣ**$^{тѕ}$**ви** 84. Скарапісную форму маюць вынасныя літары **ж, м, ρ**: **в ма** 2; **пєтроу жє** 72б, **єгда жє** 84; **дѡ**$^{м}$ 107б, **своє**$^{м}$ 124, **о нє**$^{м}$ 130б. Відазмяняюцца ў канцы радка вынасныя графемы **є** (па форме нагадвае грэчаскую літару ξ) і **а** (прымае скарапісную форму): **ѡтвѣщ**$^{а}$**/въ** 89б, **зн**$^{а}$**/мєнїѧ** 93, **ащ**$^{ξ}$/ 97, **въ пρ**$^{ξ}$**/дѣлы їоудѣискыѧ** 98.

Часта выносяцца склады **до, ди, ша, ши**: **наρѡ**$^{ди}$ 29б, **въни**$^{до}$**ша** 58б, **оукρа**$^{до}$**шѧ** 69, **пѡ**$^{до}$**б**$^{ѕ}$**но** 73, **хѡ**$^{ди}$**ть** 83б, **ρа**$^{ди}$ 94б, **живє**$^{ши}$ 193б, **ꙗдо**$^{ша}$ 206, **бы**$^{ша}$ 216.

Найбольш распаўсюджаныя напісанні слоў з вынаснымі літарамі ў Слуцкім Евангеллі наступныя: **ап**$^{с}$**лъ, бл**$^{с}$**вєнъ, вл**$^{д}$**ка, гл**$^{в}$**, д**$^{в}$**дъ, єѵ**$^{г}$**є, єѵ**$^{г}$**лїє, єѵ**$^{г}$**листъ, кρ**$^{с}$**тити, кρ**$^{с}$**тль, кρ**$^{с}$**тъ, м**$^{д}$**ρость, м**$^{д}$**ρъ, моу**$^{ж}$**ство, нб**$^{с}$**ныи, пρѣм**$^{д}$**ρыи, пρ**$^{о}$**ρкъ, сρ**$^{д}$**цє, цρ**$^{с}$**твїє, цρ**$^{с}$**тво, ч**$^{с}$**ть.**

У канцы радка сустракаюцца лігатуры, заснаваныя на кірылічным прынцыпе злучэння дзвюх мачт у адну: **гρж**$^{д}$**є** 9, **ѣ** 33б, **лоукавьсвїа** 91б).

Для Слуцкага Евангелля характэрна злітнае напісанне слоў. Перанос звычайна праводзіцца па складах без адпаведнага знака: **лѣни//выи** 59б, **ѡ**$^{т}$**пѹ//ститє** 237б.

З радковых знакаў у помніку выяўлены кропка, коска, кропка з коскай, "сцішыца" (адна, дзве або тры кропкі з хвалістай перакрэсленай рыскай побач): **аминь глю вамь, не погоубить мьзды своеа. чти пак;** 27, **книга рw^д ства іу хва, сна двдва.** ⁂ 6.

**Арфаграфічныя асаблівасці.** Асноўным правапісным прынцыпам у Слуцкім Евангеллі з'яўляецца этымалагічна-марфалагічны. Шэраг моўных з'яў сведчыць пра другі паўднёваславянскі ўплыў. Рысы старабеларускай мовы фіксуюцца спарадычна.

У Слуцкім Евангеллі назіраецца правільнае ўжыванне літары **ѣ**: **на пѣсцѣ** 20, **опрѣсночныи** 61б, **прилѣжно** 163б. Пры гэтым даволі частотным у помніку з'яўляецца змяшэнне літар **ѣ** і **є** пры напісанні аднаго слова (словаформы, аднакаранёвыя словы), параўн.: **погрѣбение** 61, **погрѣбати** 21б – **погребеніє** 108, **пwгребьсти** 23б, **ѹмрѣть** 104 – **не оумреть** 119, **рѣкы** 20 – **река** 138, **бѣсноующюю са** 2 – **доухь бесень** 116, **срѣтеніє** 220б – **сретѣніє** 58. Адзначаны выпадкі напісання **ѣ** на месцы **є**: **бесѣда** 64б, **бесѣдовати** 142б, але **бѣсѣдоуеть** 5. Даследчыкі заўважаюць, што "руския кніжнікі часта пісалі **є** замест **ѣ** пры перадачы стараславянскага **рѣ** адпаведна ўсходнеславянскаму *ере*", а напісанні з **ле** адпаведна ўсходнеславянскаму *оло* сустракаюцца радзей [209, ч. 1, 265]. У Слуцкім Евангеллі выяўлены напісанні **по брегоу** 22, 143б – **по брѣгоу** 85б, **при брѣзѣ** 238, **пред** 8 – **прѣд** 16б, але толькі **плѣнене** 177б.

Маюць месца выпадкі ўжывання **ѣ** на месцы **а**: **дивлѣхоу са** 30 – **дивлахоу са** 20; **нед^ѕ. мѣспжс** 111 – **нед^ѕ. маспоус** 60; **паражоу пастырѣ** 62 – **пораждоу пастыра** 109.

У Слуцкім Евангеллі паслядоўна захоўваецца спалучэнне [*je*] у пачатку слова: **единороднаго** 192б, **единѣхь** 5б, **единь** 5, **при езѣре** 132б, **езера** 142б.

Перад пачатковым [*а*] у мовах усходніх і заходніх славян развіўся зычны [*j*]; у паўднёваславянскіх мовах гэта з'ява назіраецца непаслядоўна. Так, у стараславянскіх помніках выяўляюцца напісанні: **агнецъ**, **азъ**, **ако**, **аже**, але: **авити** і **іавити** [148, 161]. У Слуцкім Евангеллі адзначаюцца напісанні з пачатковай літарай **а** ў гэтай пазіцыі: **азъ прішедъ исцѣлю** 20б, **агнецъ** 193б. Аднак паслядоўна ўжываюцца словы **іако**, **іаже** (**аже**), а таксама формы дзеяслова **іавити** і аднакаранёвых слоў (**іавлаеть** 1, **іавить** 4, **іавленіє** 83б).

Агульным для ўсходнеславянскіх моў стаў пераход пачатковага спалучэння [*ju*] у [*u*], у стараславянскай мове і іншых славянскіх мовах гэтага пераходу не было. У Слуцкім Евангеллі пачатковая літара **ю** зафіксавана ў словах **южьскаа** 30б, **юности** 46, **въ главоу юг^ѕлоу** 51, **юнъци** 51б, **юноша** 110б. Спарадычна сустракаюцца паралельныя напісанні з пачатковымі **ю** і **оу** (**ѫ**): **юзылищ** 27, **юзылищи** 27, **wт юзы**

160 – оуѕы 143б (1 фіксацыя), южемь желѣзномъ 85 – ужи 85. Формы слова оутро і аднакаранёвых прадстаўлены выключна з оу ў пачатку: оутро 39, оутре въ пѣщь въмѣтаемо 18б, оутрънїи 18б.

Для Слуцкага Евангелля характэрныя няпоўнагалосныя напісанні: власы главы 140б, вранъ 156б, градовъ 89, злато 10, класы 28б.

Пачатковыя спалучэнні *or, *ol перад зычнымі перададзены праз ра, ла: равн^ѕы" 47, разоумныхъ 28б, расти 33, двѣстѣ лактїи 238б.

Спалучэнне *tj адлюстроўваецца праз літару щ: ѡтвѣщавь 12, на свѣщнїцѣ 14, хощеть 1б, просвѣщахоу сѧ 3б. Спалучэнні *kt, *gt перад галоснымі пярэдняга рада таксама перадаюцца праз щ: мощи възиратї 73б, нощь 62, пещера 219. На месцы спалучэння *dj паслядоўна адзначаецца ўжыванне жд: ноуждоу 182б, не ѡбиждоу 47, ѡдѣжда 18, рождены^х 27б, соуждѧ 210б, въ четврътоую же сьтраждоу 36б. Літара ж у гэтай пазіцыі сустракаецца спарадычна, параўн.: пораждоу пастырѧ 109 – паражоу пастырѣ 62, хождааше 13б – хожаше 219б.

Ужыванне рэдукаваных у Слуцкім Евангеллі характарызуецца высокай варыянтнасцю. У рукапісе шырока прадстаўлена мена ь і ъ ў сярэдзіне слоў (у розных словах суадносіны паміж варыянтнымі напісаннямі з ь або ъ розныя): до врьха 195 (1 фіксацыя з ь) – връхоу 10, влъци 19б – вькъ 215б, влънами 36б – вльнами 21б, капрънаоум^ѕ 42 – капрьнаум^ѕ 96б, прьвых 30 – прьвѣе 50б, трьнїа 19б – трънїа 66б. Змяшэнне ь і ъ назіраецца і на канцы слоў: ꙗзыкъ на ꙗзыкь 56, с҃нь 100б – с҃нъ 105, живь 12 – живъ 68, хїтѡнъ 235 – хитонь 235.

Пашыраны выпадкі пропуску рэдукаваных: всею 53 – въсею 104б, вниде 49 – въниде 49, сходѧщоу 200б – съходѧщь 12.

Выяўлены напісанні з е і о на месцы ь і ъ адпаведна: конец 9б, въшед 23б, шедше 29б (напісанні з ь не зафіксаваны), изъ сонмища 77б (пры на сънмищихъ 78), сотникь 113б (пры сътника 114). Зафіксаваны ъ на месцы о: о кънчинѣ 117 – конец 123.

Спалучэнні плаўных і рэдукаваных паміж зычнымі ў каранях слоў перадаюцца ў рукапісе неаднастайна. У спалучэннях *trъt, *trьt, *tlъt, *tlьt нярэдка ъ, ь перадюцца праз о, е адпаведна, параўн.: кровъ праведна 55, ѡт кръве авелѧ до крове захарїа 55, крестита сѧ 48, до креста 249б, слезами 140б – съ сльзами 96.

У спалучэннях *tъrt, *tьrt, *tъlt, *tьlt пераважаюць старaславянскія напісанні ръ, рь, лъ, ль: вькъ 215б, влъци 19б, грълиичища 126, ѕрьноу гороушичноу 33б. Напісанні тыпу до вер^ѕхоу 131б, растерзаа 143б, тор^ѕжища 90 сустракаюцца толькі спарадычна. Выяўлены адзінкавыя выпадкі ўжывання о на месцы ъ у прыстаўках і прыназоўніках: во домꙋ 211б, да собꙋдет сѧ писанїе 235б; изыде ї҃съ во гоурꙋ 136 (пры

**Изыде въ городу** 13б). Двойчы зафіксавана форма **четврът-**: **четврътовлас** 145б, **въ четврътоую же сьтраждоу** 36б пры звычайных для помніка напісаннях **четверт-**: **четвертовлас** 249. Відавочна, па аналогіі з гэтай з'явай узнікла напісанне **вльбоудоу** 46 (ст.-слав. **вельбѫдъ**) побач з традыцыйнымі **велбѫдоу** 99, **велбоужди** 76б. Цікавасць уяўляе напісанне **бльш-**, якое фіксуецца ў рукапісе паралельна з традыцыйным **больш-**: **каа заповѣд бльши ес въ законѣ** 53, **бльша** 225б – **больша знаменіа** 208б, **болше** 227.

У Слуцкім Евангеллі пераважаюць архаічныя напісанні **гы, кы, хы**: **дроугыи** 6, **книгы** 6, **многы** 11б, **сапогы** 11б, **погыбнет** 15–15б; **толикых** 4б, **еллиньскыи** 4б, **вся пръвосщнникы и книжникы людськыа** 9б, **пакы** 12б, **въ мѣхы вѣтхы** 23б, **въсхыщають** 27б, **глоухыа** 92б, **хытростію** 117б. Напісанні з **и**, па нашых назіраннях, носяць спарадычны характар, прычым напісанні **ки, хи** сустракаюцца часцей за напісанні **ги**: **гиблющее** 205, **въ мякъки ризы** 27б, **паки** 44б, **въ стыі великіи чек** 246. Варыянты ў напісанні выяўлены ў межах адной старонкі: **расхитити** 30 – **расхытить** 30.

У рукапісе адлюстравана асіміляцыя па глухасці на мяжы прыназоўніка-прыстаўкі на [*з*] і наступнага слова, якое пачыналася глухім зычным гукам, параўн.: **изсыпана** 14, **изшедъ** 22, **изсѣченъ** 114, **без сѣмене** 118б – **исшед** 135б, **ис корабля** 36б, **с тобою** 199б, **бес плода** 33. Прыклады аглушэння зафіксаваны і ў сярэдзіне слова, параўн.: **въ корабль вълѣзти** 31б – **вълѣсти въ корабль** 36.

На месцы спалучэння прыставачнага [*з*] і каранёвага [*ж*] паслядоўна выступае напісанне **жд**: **üжд**ивш**оу** 164, у аналагічных спалучэннях [*зц*] і [*зч*] маюць варыянтнае афармленне: **исцѣли** 38б, **ицѣліти** 131, **ицѣлити ся** 133б, **безчестенъ** 103 – **бесчаденъ** 118б.

Пасля канцавога [*з*] прыставак перад наступным плаўным [*р*] часта ўжываецца **д**: **раздроушеніе** 20, **раздрѣшено** 40, **въздрасть** 214, але: **възрастеть** 84, **възрастоу своемоу** 156б.

Першапачаткова незалежна ад свайго становішча ў слове шыпячыя гукі і [*ц'*] былі толькі мяккія. Выпадкі іх зацвярдзення маюць месца ў пісьмовых помніках XIV ст. [100, 152–153]. У стараславянскай мове мяккасць шыпячых і [*ц'*] графічна не перадавалася. Даследчыкі стараславянскай мовы адзначаюць, што "названыя мяккія зычныя ў спалучэнні з галоснымі, магчыма, першапачаткова мелі пэўныя абмежаванні. Яны не маглі ўжывацца перад галоснымі [*о*], [*ъ*], [*ы*], [*ě*] (ѣ), акрамя зычнага [*ц'*], які мог стаяць перад [*ě*] (ѣ): **цѣсарь, цѣлити**" [166, 88]. Аднак ва ўсіх стараславянскіх пісьмовых помніках, якія дайшлі да нас, сустракаюцца напісанні з **а, оу, ѫ** [209, ч. 1, 325].

У Слуцкім Евангеллі пераважаюць напісанні з оу: мрежоу 13, моужоу 20, положоу 53, помажоуть 114; ал҃чоущеи 13б–14, праведничоу 27, рекшоу 78б, чашоу 27; гл҃ющоу 23б, имоущоу 43, съкровищоу 34; житницоу 11б, златицоу 52. Напісанні з ю прадстаўлены ў значна меншай колькасці: извожю 233б, моужю 20, скажю 138; притчю 32б, чюдиша 22; д҃шю 40б; бѣсноующюю сѧ 2, гл҃ющю 31б; житницю 129.

Напісанні літар а, ѧ пасля шыпячых і ц у Слуцкім Евангеллі таксама характарызуюцца варыянтнасцю, параўн.: бѣжати 128, жатва 24б, мрежа 13б, моужа 147, стоужаютъ 81, оужасоша сѧ 77б; врача 79б, ѡбычаи 98, ѡтрочати 126, печали 83б, скон҃чание 34б; въпрошающих 117, написаша 6, рѣкоша 173; грѧдоуща 11, ал҃чюща 60, болѧщаа 90, съкровища 17б; разлоучаеть ов҃ца ѡт козлищь 60, цатоу 175 – въжѧдати сѧ 205б, възлежѧ 23, стѣжѧнїа 46; зачѧло 76, ключѧ 40, оучѧ 24, чѧс 28б; слышашѧ 215, оукрадошѧ 69; лежащѧ 236б, на соудищѧ 66; многы вдовицѧ 131б, три мсцѧ 123б, овцѧ и волы 195б, мышцѧ 222, видѣ сопцѧ 23б.

Двойчы зафіксавана напісанне ы пасля ж: л҃жых 19б, оужы 143б. Выпадкаў ужывання ы пасля ш, ч, щ намі не выяўлена. Напісанні ы і и пасля ц характарызуюцца варыянтнасцю: съ старцы 174 – съ старци 111б, елицы 81– елици 87б.

Спарадычна фіксуецца о на месцы е пасля шыпячых, што сведчыць пра іх цвёрдае вымаўленне, параўн.: имѹщемоу 59б – имоущомоу 59б, къ пославшемѫ мѧ 208б – пославшомѹ мѧ 202б, къ пославъшомоу мѧ 228.

Як адлюстраванне зацвярдзення [*р*] можна кваліфікаваць напісанні обращетъ ю 26б; лазароу 219.

Як сведчанне наяўнасці прыстаўнога [*г*] у мове перапісчыка тэксту можна разглядаць напісанне генварѧ 28б, адзначанае, аднак, не ў самім кананічным тэксце, а ў паказальніку набажэнскага чытання. А.М. Булыка называе некалькі запазычанняў, ужытых у старабеларускай пісьменнасці з прыстаўным [*г*]: геремеѡ, генварем, генѹарѧ [111, 92–94]. А.А. Крывіцкі адзначае ўжыванне прыстаўнога [*г*] у гаворках, якія ўваходзяць у склад паўднёва-заходняй дыялектнай разнавіднасці [178, 176–177].

У Слуцкім Евангеллі звычайнымі з'яўляюцца этымалагічна-марфалагічныя напісанні з о. Намі выяўлена некалькі выпадкаў адлюстравання акання: паражоу пастырѣ 62 (параўн.: пораждоу пастырѧ 109), оутапаахоу 85б, мѵро се не продано быс. на трех стѣх пѣнѧзь. и дана ницим 220.

Выпадкаў адлюстравання на пісьме дзекання, цекання, пераходу [*у*] у [*ў*] у Слуцкім Евангеллі намі не выяўлена.

Значнае ўздзеянне на пісьменнасць усходніх славян аказаў другі паўднёваславянскі ўплыў, які пачаўся ў канцы XIV ст., а асабліва праявіўся ў XV ст. У свой час А.І. Сабалеўскі пісаў, што калі параўнаць усходнеславянскія рукапісы (адны каля паловы XIV ст., другія каля паловы XV ст.), можна заўважыць значную розніцу паміж імі ва ўсіх адносінах [212, 147]. У галіне арфаграфіі ён адзначае ў рукапісах другой групы наяўнасць юса вялікага, напісанне **а** замест **ѧ** (**своа, спасениа**), **ь** замест **ъ** на канцы слоў (пры **ъ** замест **ь** або **є** ў сярэдзіне), напісанні тыпу **връхъ, тръгъ** і інш. [212, 149]. У Слуцкім Евангеллі адзначаюцца названыя рысы (некаторыя з іх разглядаліся вышэй). Непаслядоўнасцю характарызуецца ўжыванне **а** на месцы **ѧ**: **инаа, ѡкааніи, раскааніи, соущаа, проповѣдаа, сѣаи**, але: **проповѣдаѧ, пръваѧ, црковнаѧ, нбснаѧ, сѣѧи**.

## Марфалагічныя рысы Слуцкага Евангелля

**Сістэма скланення назоўнікаў.** У Слуцкім Евангеллі зафіксаваны склонавыя формы назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў адзіночным, множным і парным ліку. Склонавыя формы назоўнікаў характарызуюцца значнай колькасцю варыянтаў.

**Адзіночны лік.** У назоўным склоне назоўнікі мужчынскага роду выступаюць з нулявым канчаткам: **съходѧщь ꙗко голоубь** 12; **пристоупль к немꙋ искоуситель** 12; **пріидеть сн҃ъ чл҃чьскыи** 26. Канчатак **-а** маюць назоўнікі мужчынскага роду з былой асновай на *-a/-ja*: **юноша нѣкыи пристоупи къ іс҃оу** 45б; **да боудеть вам слоуга** 48. Імя евангеліста Марка прадстаўлена ў форме назоўнага склону з канчаткам **-о**: **бѣ оубо съи марко, петроу оуч҃нкъ** 72б; **ꙗко марко съписа бл҃говѣстие** 72б. Я.Ф. Карскі адзначыў, што падобныя ўтварэнні, якія ўзніклі пад уплывам слоў ніякага роду, старажытныя па сваім паходжанні, сустракаюцца не толькі ў старажытных помніках усходніх славян, але і ў іншых славянскіх мовах [160, вып. 2, 120–121]. Аднак, як сцвярджаюць даследчыкі, у старабеларускай рэлігійнай пісьменнасці яны ўжываліся даволі рэдка [115, 15].

Назоўнікі ніякага роду ў назоўным склоне зафіксаваны з традыцыйным канчаткам **-о/-є**: **не можеть древо добро плѡд ѕѡлъ творити ни древо ѕло, плъд добръ творити** 19б; **тоу и срдце ваше боудет** 157. Назоўнік **царствіє** прадстаўлены варыянтнымі напісаннямі (заканчваецца на **-іє** і **-о**): **приближи сѧ цр҃ствіє бж҃ие** 77; **аще цр҃ство на сѧ раздѣлит сѧ, не может стати цр҃ство то** 82. Канчатак **-ѧ** ў назоўным склоне маюць назоўнікі ніякага роду з былой асновай на *n* і *t*:

**имѧ еи елисаветь** 121б; **врѣмѧ ваше всегда готово ес** 207б; **Отрочаж҃ растѧше и крѣплѧше сѧ дх҃ѡм** 125.

Назоўнікі жаночага роду ў назоўным склоне зафіксаваны з канчаткам **-а/-ѧ**: **вѣра твоѧ спсе тѧ** 86б; **тлѧ тьлить** 17б; з нулявым канчаткам: **нѣста два, нъ плоть едина** 98; **жалость домоу твоего снѣсть мѧ** 195. Назоўнікі жаночага роду з былой асновай на зычны выступаюць у архаічнай форме: **дъщи моѧ на кончинѣ есть** 86; **се бо рече, мати твоѧ** 190. Зафіксавана таксама архаічнае ўжыванне назоўнікаў жаночага роду на **-ыни**: **марїа магдалыни прїиде заутра** 236; **пристоупи къ немоу едїна рабыни** 64б.

У родным склоне назоўнікі мужчынскага роду ўжываюцца з канчаткам **-а/-ѧ** (канчатак былых асноў на *-ŏ/-jŏ*): **мьзды не имате ѡт ѡц҃а вашего** 16б; **не творить плода добра** 11б; **не трѣбоують здравїи врачѧ** 134б; **женѧи сѧ поущеною ѡт моужа** 17б; **съ вышнѧго краа до нижьнѧго** 67б. З традыцыйнымі канчаткам **-оу** зафіксаваны назоўнікі **домъ** і **волъ** (канчатак былой асновы на *-ŭ*): **изшед іс҃ъ из домоу** 31б; **не ѡтрѣшает ли своего волоу или осла ѡт ꙗслеи** 159б. Назоўнік **сынъ** у родным склоне мае канчатак **-а**: **образ и смѡтренїа сн҃а бж҃їа** 1; **възвахъ сн҃а моего** 10б.

Назоўнікі ніякага роду ў родным склоне выступаюць з канчаткам **-а/-ѧ**: **ѡт хв҃а възнесенїа** 5; **проповѣдаѧ еуглїе црствиа** 24; **Не стѧжите ѕлата ни сребра** 25; **бес писаниѧ** 72б. Архаічны канчатак **-е** характэрны для назоўнікаў з былой асновай на зычныя *s, t, n*: **знаменїа съ нб҃се показати им҃** 37; **не оставиша сѣмене** 104; **изсѣченъ ѡт камене** 114. Назоўнік **имѧ** ў родным склоне зафіксаваны толькі з канчаткам **-и**: **боудете ненавидими всѣми имени моего ради** 106–106б. Спарадычна канчатак **-и** ў гэтай пазіцыі мае назоўнік **небо**: **исповедаю ти сѧ оч҃е, гі҃ нб҃си и земли** 28б.

Назоўнікі жаночага роду выступаюць з канчаткам **-ы/-и**: **мьзды не имате ѡт ѡц҃а вашего** 16б; **рыбы просить** 19; **Не стѧжите ѕлата ни сребра, ни мѣди** 25; **съхраних ѡт юности моеѧ** 46. Варыянтнае афармленне характэрна для назоўніка **землѧ**, які зафіксаваны з архаічным канчаткам **-ѧ** і новым **-и**: **приде ѡт конець землѧ** 31; **знашѧ его моужїе землѧ генисарет҃скы** 90 – **вы есте соль земли** 14; **сн҃ъ чл҃чьскыи въ срдци земли** 31. Па назіраннях Я.Ф. Карскага, у старабеларускай мове звычайна ў мяккай разнавіднасці назоўнікаў з былой асновай на *-ā* ўжываецца канчатак **-и**, утвораны па аналогіі з **-ы** цвёрдага скланення [160, вып. 2, 161]. Назоўнікі з былой асновай на *-ŭ* маюць архаічны канчатак **-е**: **исходѧщоу емѫ ѡт цр҃кве** 105б; **ѡт кръве авелѧ праведнагѡ, до крове захарїа** 55. З архаічным канчаткам **-е** і новым **-и** прадстаўлены назоўнікі з

асновай на зычны: **изыде бѣсъ изъ д^s^щере твоеѧ** 92; **се изношахоу ꙋмр҃шаго сн҃а единородна мт҃ри своеи** 139. Форма **дщер-ѧ**, відавочна, з'явілася ў выніку апіскі: **да бѣса иждeнеть из дщерѧ еѧ** 92.

У Слуцкім Евангеллі афармленне назоўнікаў мужчынскага роду ў давальным склоне характарызуецца варыянтнасцю – наяўнасцю канчаткаў -**оу**/-**ю** і -**ови**/-**еви**, што абумоўлена ўзаемадзеяннем (аб'яднаннем) назоўнікаў з былымі асновамі на *-о/-jо* і *-й,* вядомым яшчэ помнікам старaславянскай пісьменнасці [209, ч. 2, 93–94]: **ꙗко къ грѣшноу моужоу вниде** 171б – **къ двѣ оброученѣ и моужеви емоуже имѧ їосиф** 122б; **въсхождоу къ ѡц҃ꙋ моемѫ, и ѡц҃ꙋ вашемоу, и б҃оу моемꙋ, и б҃оу вашемоу** 237 – **бж҃їа бг҃ови** 52б; **пристоупль къ ї҃соу единъ** 104б – **рече къ ї҃сови** 41; **бѣ же оубо марко послѣдователь и оуч҃никь, петроу. лоука же павлоу** 4б – **рече петрови** 40б; **рече петрови** 40б – **бѣ оубо съи марко, петроу оуч҃нкъ** 72б. Ужыванне канчатка -**оу**/-**ю** ў рукапісе не абмежавана семантыкай назоўніка: **аще оубо прїнесеши даръ твои къ олтарю** 15; **иже бо аще речеть братоу своемоу, рака** 14б; **оуже часоу многоу бывшоу, пристоупльше къ немꙋ оуч҃нци его** 89; **шедше р^s^цѣте лисоу томꙋ** 161. У той жа час канчатак -**ови**/-**еви** пашырыны ў назоўніках са значэннем асобы, прычым у некаторых з іх (напрыклад, **моѵ҃сѣи**) выступае як адзіна магчымы: **аще бо быстe вѣровали моѵ҃сѣови** 203б; **мы вѣмы ꙗко моѵ҃сѣови гл҃а б҃ъ** 214б.

Адзначым таксама, што канчатак *-ови/-еви* шырока ўжываўся ў старабеларускай пісьменнасці, у прыватнасці, у назоўніках са значэннем асобы і ва ўласных імёнах. А.І. Жураўскі, аналізуючы мову твораў Францыска Скарыны, заўважыў, што "ў Скарыны па сутнасці ўпершыню ў якасці варыянтнай нормы назоўнікаў асноў на *-о* ў давальным склоне ўжываецца канчатак *-ови/-еви*" [145, 287]. Аднак у іншых рэлігійных старабеларускіх помніках канчатак *-ови/-еви* фіксуецца абмежавана.

Слова **сынъ** у форме давальнага склону ўжываецца пераважна з канчаткам -**оу**; традыцыйны канчатак -**ови** прадстаўлены спарадычна: **осан^s^на сн҃оу двдвоу** 49; **сътвори бракъ сн҃оу своемоу** 51б; але: **тако дас и сн҃ови жївот^s^ имѣти въ собѣ** 202б.

У давальным склоне назоўнікі ніякага роду зафіксаваны з канчаткам -**оу**/-**ю**: **оучими есмы моужьствоу** 4; **по жестосръдию вашемоу повѣлѣ вам^s^** 45. З канчаткам -**оу** прадстаўлены назоўнік ніякага роду з былой асновай на зычны *s* (вынік уздзеяння былых асноў на *-о/-jо*): **Свѣтил^s^никъ тѣлоу ес око** 18.

Назоўнікі жаночага роду ў давальным склоне маюць традыцыйныя канчаткі -**ѣ** і -**и**: **прилѣпит сѧ къ женѣ своеи** 98; **ꙗко земли содомьстѣи ѡтраднѣе боудет** 28; **ꙗви сѧ прѣжде марїи магдалыни** 114б.

Афармленне вінавальнага склону назоўнікаў мужчынскага роду (назваў асоб) адлюстроўвае агульную тэндэнцыю пашырэння форм роднага склону ў функцыі вінавальнага: **предасть же брат брата** 25б; **Иже любить ѿца ли мт҃ре паче мене** 26б. Неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага роду, а таксама назоўнікі ніякага роду маюць традыцыйнае афармленне: м. р.: **възми свои одръ, ї иди въ домъ твои** 19; **не имать остати здѣ камень на камени** 55б; н. р.: **крщаю вы водою въ покаанїе** 11б; **въмѣтающа мрежоу въ море** 13; **повели нам ити въ стадо свиное** 22; **ѡбрѧщета осла привѧзано и ждребѧ съ нимь** 48б; **пилат повелѣ дати тѣлѡ** 68; **иже еда оуслышать слѡво** 83. Варыянтнае афармленне мае ў гэтай пазіцыі назоўнік **неверствїе**: **за невѣрьство ихь** 35 – **за невѣрьствїе ваше** 42.

У вінавальным склоне назоўнікі жаночага роду прадстаўлены: 1) з канчаткам **-оу/-ю**: **въмѣтающа мрежоу въ море** 13; **аще поустить женоу свою** 15б; **изыдостѣ въ поустыню** 27б; **пшеницоу съберите въ житницѫ мою** 33б; **ѕмию подас емоу** 152б; **дати на землю** 158б; 2) з нулявым канчаткам: **вниде въ клѣть свою** 17; **прїидѡх бо разлоучїти чл҃ка на ѿца своег, и дщерь на мт҃рь свою** 26б; **вниде ї҃съ въ цр҃ковъ б҃жию** 49. У назоўніках жаночага роду з былой асновай на зычны таксама адзначаецца канчатак **-е**, наяўнасць якога абумоўлена ўздзеяннем спалучэнняў з родным склонам замест вінавальнага пры асабовых найменнях мужчынскага роду [209, ч. 2, 108]: **любить сн҃а, или дъщере паче мене** 26б; **чьти ѿца твоего и мт҃ре** 99.

У творным склоне назоўнікі мужчынскага і ніякага роду прадстаўлены з канчаткам **-омъ/-емъ**: **съмири сѧ съ братом твоимь** 15; **съ ... ѿцемь ею** 13; **видѣ тещоу, его лежащоу ї огнем жьгомоу** 21; **послю аг҃гла моего пред лицем твоим** 27б; **кротокъ есмь и смѣрень сръдцемь** 28б. У рукапісе назіраецца ўжыванне канчатка **-ѡмъ** і ў формах назоўнікаў мужчынскага і ніякага роду з мяккай асновай: **съ зеведеѡм** 13; **съ мѡѷсѣѡм** 95; **прѣд просвѣщенїѡм** 242б.

Назоўнікі ніякага роду з былой асновай на зычны *n* захоўваюць суфікс **-ен-**: **видѣхѡм нѣкоего именем твоим изгонѧща бѣсы** 97. Назоўнікі з былой асновай на *s* зафіксаваны без суфікса **-ес-**: **съ единѣм окѡм въ животъ внити** 43; **ѡбльстѧть его словѡм** 52; **разоумѣ тѣлѡм** 86.

Назоўнікі жаночага роду маюць традыцыйны канчатак **-ою/-ею**: **крщаю вы водою в покаанїе** 11б; **множицею бо падаеть въ огнь** 41б. Назоўнікі жаночага роду з былой асновай на *-i* і на зычны ўжываюцца з традыцыйным канчаткам **-їю**: **видѣша отроча съ мр҃иею мт҃ерїю его** 10; **коею властию сїа творю** 50; **въсѧка жрътва, солїѫ осолит сѧ** 97б.

У месным склоне назоўнікі мужчынскага, ніякага і жаночага роду

выступаюць з канчаткамі -ѣ і -и (адпаведна з цвёрдай і мяккай асновай): м. р.: **не ѡ хлѣбѣ единѡм҇ живь боудет чл҃кь** 12; **създа храминоу свою на пѣсцѣ** 20; **отидѣ ѡттоудоу въ корабли** 13; **ѡ їоан҇нѣ кр҇стли рече** 41б; н. р.: **имоущи въ чревѣ** 9; **въ ц҇рствїи нб҇снѣмь** 14б; **сѣдѣаше при мори** 31б; ж. р.: **кр҇щахоу сѧ вьси въ їордани рѣцѣ** 76б; **ѡбѣсит сѧ жрьновъ на выи егѡ** 42б. Назоўнікі мужчынскага і жаночага роду, асновы якіх заканчваюцца на **ц**, зафіксаваны з двума канчаткамі -и і -ѣ: м. р.: **о слѣпци** 71б; **о вартимїи слѣпцѣ** 71б; ж. р.: **въ темници** 35б; **на свѣщнїцѣ** 83б; **въ скоудѣлницѣ** 108б.

Традыцыйны канчатак -оу маюць у месным склоне назоўнікі мужчынскага роду з былой асновай на *-ŭ*: **лежить въ домоу ѡслабленъ** 20б; **о с҃ноу зеведѣовоу** 71б; **быс възлежащоу емоу въ домоу** 79б; **ѡ блоуднѡм҇ с҃ноу** 255. Разам з тым зафіксавана форма з канчаткам -ѣ: **ѡ с҃нѣ вдовичи** 11б.

З канчаткам -и (на месцы традыцыйнага -є) зафіксаваны назоўнікі мужчынскага і ніякага роду з былой асновай на зычны, а таксама жаночага роду з былой асновай на *-ū*: **създа храминꙋ свою на камени** 20; **о словеси** 59; **дасть ми сѧ въсѧка власть на н҃беси и на земли** 69б; **ѡ имени твоем҇ из҇гонѧща бѣсы** 148; **въ крови пр҇оркь** 55; **въ ц҇ркви ходѧщꙋ емоу** 102б. Назоўнік **око** мае флексіі -ѣ і -и: **бръвно въ оцѣ твоем** 19 – **бръвна же еже ес въ очеси твоем҇ не чюеши** 137б.

У Слуцкім Евангеллі прадстаўлены традыцыйныя формы клічнага склону мужчынскага, жаночага і ніякага роду: м. р.: **рече емꙋ, оуч҇тлю** 21б; **радуи сѧ ц҇рю їюдѣискыи** 66б; **изыди дꙋше нечистыи ѡт чл҃ка** 85; ж. р.: **дръзаи д҇щи** 144б; **ѡ жено, велїа вѣра твоѧ** 38б; **д҇вце, тебѣ г҃лю, въстани** 87; н. р.: **дръзаи чадо** 22б. Назоўнік **сынъ** ужываецца ў форме клічнага склону з канчаткам былых асноў на *-ŏ/-jŏ:* **пѡмилоуи ны ї҃се с҃не давыдовъ** 24; **чтѡ мнѣ и тебѣ ї҃сѣ с҃не б҃а вышнѧго, заклинаю тѧ б҃гѡм҇ не мꙋчи мене** 85. Традыцыйны канчатак -оу фіксуецца спарадычна: **зваше, с҃ноу двдвь помилоуи мѧ** 100б.

**Множны лік.** Назоўнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне аформлены з дапамогай традыцыйных канчаткаў: 1) -и (у гэтай форме захаваны свісцячыя зычныя ў асновах на заднеязычныя): **вьноутрь же соуть влъци хищ҇ници** 19б; **въслѣд его идѧхоу нарѡди мноѕи** 20б; **м҇ѣси погыбноуть** 23б; **вы дроузи мои есте** 227; 2) -ове: **сынове же ц҇рствїа изгнанї боудоуть въ тьмоу** 21; **свобѡдни соуть с҃нове** 42; 3) -е: **дѣлателе же видѣвъше с҃на, решѧ въ себѣ** 50б; **мнѡѕи мытаре и грѣшьници възлежахоу съ ї҃сѡмь** 79б.

Па ўзору назоўнікаў з былой асновай на *-ĭ* ў стараславянскай мове ўтвараліся формы некаторых назоўнікаў з былой асновай на *-ŏ/-jŏ*. У

Слуцкім Евангеллі адзначана ўжыванне такіх форм, параўн.: **моужи ниневитьстїи въстаноуть на соуд** 153б – **познаша его моужїе землѧ генисарет$^{s}$скы** 90; **пришедша же к немоу. моужие, рѣста** 139б.

Назоўнікі ніякага роду ў назоўным склоне зафіксаваны з канчаткам **-а**: **въстаноуть чѧда на родителѧ** 256. Назоўнікі з асновай на зычны *s* выступаюць з суфіксам **-ес-**: **многа тѣлеса оусопших стыхъ въсташѧ** 67б.

Назоўнікі жаночага роду ў назоўным склоне ўжываюцца з традыцыйнымі канчаткамі: **и сестры его не всѧ ли въ насъ соут** 35; **Бѣхоу же тоу и жены многы** 68; **и птица нбсныа въселиша сѧ въ вѣтвїе его** 160.

У родным склоне назоўнікі мужчынскага роду часта фіксуюцца з нулявым канчаткам: **нецїи ѡт книжникъ, рѣша вь себѣ** 22б; **престоупають преданїа старець** 37; **ѡт врагь нших** 124б; **спсеть люди своа ѡт грѣх ихь** 9. Паралельна ўжываюцца новыя формы з канчаткам **-овъ**: **и пѣши ѡт всѣх градовъ сътїцахоу сѧ тамо** 89; **въ ѡставленїе грѣхѡвъ** 128; **ꙗко ѡвца посрѣд влъковь** 149.

Назоўнікі ніякага і жаночага роду зафіксаваны ў традыцыйных формах: н. р.: **плачꙋщи сѧ чадъ своих** 10б; **ѡт словесъ своих ѡсоудиши сѧ** 30б; **малѣише ес ѡт в$^{s}$сѣх сѣмень** 33б; **ни оць вашь нбсныи оставить вамь съгрѣшенїи ваших** 102б; ж. р.: **не оумывают$^{s}$ бо роукъ своих** 37; **ѱи ꙗдѧть ѡт кроупиць** 38; **снѣдаете домы вдовиць** 54; **прїиде едина ѡт рабынь** 111.

У давальным склоне назоўнікі мужчынскага і ніякага роду ўжываюцца з канчаткам **-омъ/-емъ**: м. р.: **ѡтпоущаете члкѡм$^{s}$ съгрѣшенїа ихь** 17б; **запрѣти вѣтромъ** 21б; **мытаремь дроугь и грѣшникѡм$^{s}$** 28; **ѡткрылъ еси та младен$^{s}$цем$^{s}$** 28б; **всѧ ѡтпоустат$^{s}$ сѧ съгрѣшенїа снѡм$^{s}$ члчьскым** 82; н. р.: **оумѣете даанїа блга даати чадѡм вашимь** 19.

Назоўнікі жаночага роду ў давальным склоне маюць архаічны канчатак **-амъ**: **прїити птицам нбснымь** 33б; **аггль рече женам$^{s}$** 68б. З канчаткам **-амъ** зафіксаваны таксама назоўнікі мужчынскага роду з былой асновай на *-ā*: **рече црь слоугам** 52; **кнземъ своим и тысоущнїкѡм и старѣишинам$^{s}$** 88б.

Назіраецца традыцыйнае ўжыванне назоўнікаў мужчынскага, ніякага і жаночага роду ў форме вінавальнага склону: м. р.: **цѣлꙋете дроугы ваша** 16б; **из$^{s}$гна дꙋхы словѡм$^{s}$** 21; **наоучите въсѧ ꙗзыкы** 69б; **снѣдаете домы вдовиць** 54; **тръжникѡм разсыпа пѣнѧзѧ** 195б; н. р.: **ѡтпоущаете члкѡм$^{s}$ съгрѣшенїа ихь** 17б; **всѧкь слышаи словеса моѧ си** 20; ж. р.: **въ мѧкъки ризы облъчена** 27б; **отиде въ страны тѵрьскыа** 38; **повѣлѣ вам$^{s}$ поустити жены ваша** 45; **посли ны въ свинїѧ** 85.

У творным склоне назоўнікі мужчынскага роду прадстаўлены ў архаічных формах: **възлежахоу съ їсомъ и съ оучнкы его** 23; **почто съ**

мытари и грѣшникы оучтль вашь ꙗсьть и пьеть 23; оставльша ѿца своегѡ зеведеа въ корабли съ наемникы 77; треми днми създати ю 64.

Пад уплывам назоўнікаў з былой асновай на -*і* канчатак -ьми з'явіўся ў формах творнага склону назоўнікаў з былой асновай на зычны: слово оутвръждающоу, послѣдствоующиими знаменьми 115.

Назоўнікі жаночага роду ў творным склоне выступаюць з традыцыйнымі канчаткамі: ни помѣтаите бисеръ вашиҳ пред свиньꙗми, да не попероуть иҳ ногами своими 19; дръжавоу над стрстьми въсприемь 118.

У месным склоне назоўнікі мужчынскага роду зафіксаваны з канчаткам -охъ (былых асноў на -*и*) і -ѣхъ (былых асноў на -*о*): въ домѡҳ црскыхь соут 27б; нача проповѣдати въ десяти градѣҳ 85б.

Назоўнікі ніякага роду з былой асновай на -*о* ў месным склоне прадстаўлены з традыцыйнымі канчаткамі -ѣхъ/-ихъ: поꙗсъ оусмѣнь о чрѣслѣхь своиҳ 11; възвѣстиша въ градѣ и въ селѣҳ 85б; бѣ проповѣдаа на сънмищиҳ 78; въ съкровищиҳ 57. Назоўнікі ніякага роду з былой асновай на зычны прадстаўлены з канчаткам -ехъ (у старaславянскай мове яны выступалі з канчаткам -ьхъ): мьзда ваша многа на нбсеҳ 14; оужасаахж са о словесеҳ его 99.

Назоўнікі жаночага роду ў месным склоне зафіксаваны з канчаткамі -ахъ/-ахъ (былых асноў на -*а*): приходать к вам въ одеждаҳ ѡвчахъ 19б; въ притчаҳ глю имь 32; бѣ въ поустынаҳ 125; -ехъ (былых асноў на -*і*): въ окрстныҳ селѣҳ и весехъ 89; ѡ извѣствованыҳ въ нас вещехь 121.

**Парны лік.** У Слуцкім Евангеллі прадстаўлены традыцыйныя склонавыя формы назоўнікаў мужчынскага, ніякага і жаночага роду ў парным ліку: Н.–В.: м. р.: по немь идоста два слѣпца 24; распаша съ нимь два разбоиника 67; прѣбыс тоу два дни 200; н. р.: нарече има именѣ 81б; ж. р.: помаза нозѣ 220; възложивши на ню роуце 159б; обѣ рыбѣ раздѣли 89б; не двѣ ли птици цѣните са единомоу ассарїоу 26; Р.–М.: м. р.: негодоваша ѡ обою братоу 48; ꙗко двою члкоу свѣдтельство истинно ес 210б; ж. р.: О пати хлѣбѣхъ. и двою рыбоу 2б; въ сїю обою заповѣдию, весь закон и пророци висать 53; Д.–Тв.: м. р.: никтоже можеть двѣма господинома работати 18; н. р.: поклониша са на колѣноу прѣд ним 66б; ж. р.: силы таковы роукама его бываютъ 87; припаде къ ногама его 92.

Назоўнікі око, оухо скланяюцца ў парным ліку, як назоўнікі з былой асновай на -*і* [209, ч. 2, 108]: Н.–В.: въложи пръсты своа въ оуши его 92б; имѣми оуши слышати 141б; Р.–М.: положи мнѣ на очїю 213б. Аднак паралельна ўжываюцца формы, характэрныя і іншым назоўнікам з асновай

на зычны *s*: **двѣ оцѣ имоущѧ** 97б.

**Сістэма скланення прыметнікаў**. Паводле лексічнага значэння кароткія (іменныя) і поўныя (членныя) прыметнікі, ужытыя ў Слуцкім Евангеллі, падзяляюцца на якасныя, адносныя, прыналежныя: **добрыи рабѣ бл҃гыи и вѣрныи** 59; **приставлѧеть на ризоу вет$^{s}$хоу** 135; **вѧзахꙋ его оужы желѣзны** 143б; **и веде его въ ѥрслмь. и постави его на крилѣ црквнѣмь** 130б; **оуслыша елисаве҇ѳ цѣлование мрїинѡ** 123; **теща же симонова бѣ одръжима ѡгнемь велїимь** 132б.

Словазмяненне кароткіх прыметнікаў было ідэнтычным са змяненнем назоўнікаў: яны набывалі канчаткі тых назоўнікаў, з якімі былі звязаны сувяззю дапасавання. Прыметнікі, што спалучаліся з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду, атрымлівалі склонавыя канчаткі назоўнікаў з былой асновай на *-o/-jo*, прыметнікі, ужытыя з назоўнікамі жаночага роду, мелі склонавыя флексіі былых асноў на *-a/-ja*. Напрыклад, адз. л.: м. р.: Н.: **ты ли еси црь їоудѣискь** 111б; Р.: **преложи же се їѡанъ ѡт еврѣиска ꙗзыка на еллиньскыи** 4б; **и блюдѣте сѧ ѡт кваса фарисѣиска и сад$^{s}$доукѣиска** 39б; В.: **хощете ли поущѫ вам црѧ їоудѣиска** 112; **о имоущем бѣса глоуха** 116б; Тв.: **гл҃сѡм великѡм възва** 219; М.: **И бѣ въ сон$^{s}$мищи ихъ чл҃къ въ доусѣ нечистѣ** 77б; н. р.: Н.: **аще оубо боудеть око твое просто, все тѣло твое свѣтло боудеть** 18; ж. р.: Н.: **пропасть велика оутвръди сѧ** 167; **близь бѣ пасха їоудѣиска** 193б; В.: **приставлѧеть на ризоу вет$^{s}$хоу** 135; мн. л.: Н.: **троуси велици по мѣста, и глади, и мори боудоут** 177; Д.: **тысоущнїкѡм и старѣишинам$^{s}$ галїлѣїскам$^{s}$** 90; В.: **оучаще оучн҃иѧ, заповѣди чл҃чьскы** 37б; **изыдосте видѣти, чл҃ка ли въ мѧкъки ризы облъчена** 27б; **не зови дроугъ своих, ни братїа твоѧ, ни рожденїа твоего, ни съсѣды богаты** 161б–162; Тв.: **бѣ же ї написанїе написано над нимь, книгами ел$^{s}$лїньсками, и рим$^{s}$сками, ї еврѣисками** 183б.

Кароткія прыметнікі выступаюць у Слуцкім Евангеллі ў дзвюх сінтаксічных функцыях. Найбольшай ужывальнасцю адрозніваліся кароткія прыметнікі ў прэдыкатыўнай функцыі: **боудеть мъзда ваша многа** 137; **Пѡдобенъ ес чл҃коу създав$^{s}$шоу храминꙋ на земли безъ оснѡванїа** 138; **и се соут$^{s}$ послѣднїи, иже боудоуть пръвїи, и соуть пръвї иже бꙋдоуть послѣд$^{s}$ни** 160б. У такім выпадку яны абазначалі прыкмету ў яе “энергічным праяўленні, як вынік акта думкі, як істотную рысу прадмета-дзейніка, лагічна выдзеленую, найбольш важную ў пэўны момант ці ў пэўных абставінах, а значыць, непастаянную, чымсьці абмежаваную” [151, 52].

Як азначэнні кароткія прыметнікі функцыянавалі ў тэксце ў тых выпадках, калі ўказанне на пэўную прыкмету або ўласцівасць асобы, прадмета не вымагала падкрэслівання яго вядомасці, спецыфічнасці: **бѣсы многы из$^{s}$гна** 78; **бѣ тоу чл҃къ соухѫ имыї роукоу** 80б; **ꙗко зрьно горѫшично, еже егда всѣано боудеть на земли** 84.

У скланенні поўных прыметнікаў мужчынскага роду роднага склону ў адзіночным ліку дамінуючым з'яўляецца сцягнуты канчатак -аго (-ѧго): **не творите домоу ѡца моего, дѡмоу коупльнаго** 195б; **аще не снѣсте плоти сна члчскаго** 206; **се ес кръвь моѧ новаго завѣта** 109; **прѣбыли оубо быша до днешнѧго дне** 28; **раздра сѧ на двое, съ вышнѧго краа до нижьнѧго** 67б. Канчатак -ого адзначаецца спарадычна ў паказальніках богаслужэбных чытанняў: **пнед, а, нед, по н, стого дха, ищи напрѣди, глав**, бе 13; **иже въ стых ѡца нашег їѡанна златустого** 243б.

Прыметнікі жаночага роду роднага склону адзіночнага ліку выступаюць з канчаткам -ыѧ (-ыа): **иже бѣхоу пришли ѡт всѧкоѧ веси галилеискыѧ и їоудеискыа. и ѡт їерслмьскыа** 133б; **иже не ѡт крови, нї ѡт волѧ плѡтскыѧ, ни ѡт волѧ моужьскыа, нъ ѡт ба рѡдїша сѧ** 192б.

У назоўным склоне множнага ліку прыметнікі адзначаюцца з дыферэнцыраванымі родавымі канчаткамі: **доуси нечистїи егда видѧхоу его, припадахꙋ къ немоу** 81 (м. р.); **птица нбсныа въселиша сѧ въ вѣтвїе его** 160 (ж. р.). У вінавальным склоне гэта сістэма парушаецца некаторай колькасцю уніфікаваных канчаткаў: флексія -ыѧ (-ыа) ужываецца ў прыметніках як жаночага роду, так мужчынскага і ніякага, аб чым сведчаць прыклады: **шедше въ окрстныа веси и села** 145б; **възрѣвѕ же видѣвь мѣтающаа въ храмѕ на бдѧщїа имѣнїа дары своѧ богатыѧ** 176; **и показа емоу всѧ црствїа вселеныѧ** 130.

Нясцягнуты канчатак -ыихъ адзначаецца ў формах роднага склону множнага ліку: **скажи нам притчоу плѣвель селныих** 34; **о исцѣлевшиих ѡт разѕличѕныих недоугь** 116; **снъ члчьскыи, не прїиде дшь члчьскыих погоубитї, нъ спсти** 148б. Аднак выпадкі яго фіксацыі не характарызуюцца частотнасцю. Перавага сцягнутых форм можа быць растлумачана стратай інтэрвакальнага *j*, "якая прывяла да асіміляцыі суседніх галосных, а потым і да іх сцяжэння". Некаторыя змены абумоўлены ўзаемадзеяннем поўных форм прыметнікаў з формамі неасабовых займеннікаў [166, 173].

Прыметнікі з асновай на заднеязычны ў назоўным, творным, клічным склонах адзіночнага ліку (мужчынскі род), а таксама ў родным, давальным, творным, месным склонах множнага ліку маюць флексіі -ыи,

-ымъ, -ыхъ, -ыми: сн҃ъ же чл҃чьскыи҅. не имать где главоу пѡдклонити 21б; написа еѵглїе. Євреискымь гл҃сѡм[s] 4б; Бѣ съ ї҃смъ галїлѣискым[s] 64б; рече емоу гдь его. добрыи рабѣ бл҃гыи и вѣрныи 59; гл҃а ем 8 доуше нѣмыи и глхыи 96; седмь дроугых доухѡв горших себе 153б; и извлѣче мрѣжю на землю. плън велико рыбъ 238б; он[s] же рече к ним[s]. ꙗко и дроугымь градѡм[s] бл҃говѣстити ми пѡдобаеть цртвие бж҃їе 132б; ѡтжг[s]чают срдца ваша, обьꙗдениемь и пїаньствѡм, и печал[s]ми житѣискыми 178; въ домѡх црскыхь соут 27б; двдъ гл҃ет въ книгах ѱалѡмскых 176.

Пры склоназмяненні прыметнікаў з асновай на г, к, х перад и і ѣ заднеязычныя чаргуюцца са свісцячымі з, ц, с. Яскравым пацвярджэннем гэтага з'яўляецца склоназмяненне прыметніка многїи: по ї҃сѣ идѣахоу нарѡди мнози 8б; мнозѣх птиць оун[s]ши есте вы 155б; Идахоуж[s] с ним нарѡди мнози 162б; не по мнозѣх дн҃ѣхь събравь все мнїи сн҃ъ 164.

У некаторых склонах адзіночнага і множнага ліку ў поўных прыметніках суфікс -ск- перад и і ѣ змяняецца на -ст-: събрашас старцї людстїи 181б; по прѣселѣнїи же вавѵ́лоньстѣм 8б; проповѣдаа въ поустыни їюдѣистѣи гл҃а 11; Сѣдящоу же емоу на горѣ елеѡньстѣи 55б; о морьстѣм хожденїи 188; въстав ѡт мр҃твых, на мори тиверїадьстѣм 238. Адзначанае чаргаванне таксама ўласціва кароткім прыметнікам: о квасѣ фарисеистѣ 2б; скончают ся писанаа пррокы о сн҃ѣ чл҃чьстѣ 171.

Поўныя прыметнікі пераважаюць каля ўжытых у вакатыве назоўнікаў: гл҃а емоу, рабе лоукавыи, вcь долгъ ѡнъ ѡтпоустихь тобѣ 44б; горе вам[s] вожди слѣпїи 54; радоуи ся цр҃ю їюдѣискыи 112б; Изыди дшe нечистыи ѡт чл҃ка 85, аднак у гэтай пазіцыі могуць выступаць і кароткія прыметнікі: ѡ родѣ невѣрень 96.

Прыметнікі божїи, велїи маюць некаторыя асаблівасці ў склоназмяненні. Напрыклад, гэтыя прыметнікі ніякага роду ў вінавальным склоне адзіночнага ліку заканчваюцца на -є: сътвори чрежденїе велїе левїи емоу въ домоу своемь 134б; у мужчынскім і ніякім родзе адзіночнага ліку ў родным склоне – -ꙗ: вамь ес дано вѣдѣти таины цртвия бж҃ия 142; егда мр҃твїи слышать глас сн҃а бж҃ия 202б; у давальным – -ж: и не оу бѣ прїшелъ к ним ї҃съ, мореж[s] вѣтроу велїж дыхающ, въстааше 204б; у творным – -имъ: възъ[s]пи гласѡм велїимъ гл҃я 131б; теща же симонова бѣ одръжима ѡгнемь велїимь 132. З'яўленне варыянта -емъ, верагодна, абумоўлена ўплывам скланення назоўнікаў: възъ[s]пи ї҃съ гл҃сѡм велием 113; дасть имь ѡбласть чадѡм бж҃ием быти вѣроующим въ имя егѡ 192б. У месным склоне для гэтых прыметнікаў паказальным з'яўляецца канчатак -и: егда ес пїж ново въ

црствїи бжїи 109. Дадзеныя прыметнікі жаночага роду прадстаўлены ў родным склоне з канчаткам -ѧ, вінавальным – з канчаткам -ю, месным – з канчаткам -и: нъ разоумѣх вы ꙗко любве бжїѧ не имате в собѣ 203; се бѡ блговѣствоую вам радость велїю 125б; сътвори вечрю велию, и зва многы 162; тъи вама покажет горницѹ велїю постланнѫ 179; реч, сїа болѣзнь, нѣс къ смрти. нъ ѡ славѣ бжїи 217б.

Поўныя прыметнікі ў Слуцкім Евангеллі выступаюць пераважна як дапасаваныя азначэнні: прїиде снъ члчскыи 123; не ѡ хлѣбѣ единѡм живъ боудет члкъ 130. Звяртае на сябе ўвагу субстантывацыя членных прыметнікаў, у такім разе яны функцыянуюць як дзейнікі або дапаўненні: слѣпїи прозирають, и хромїи ходѧть, прокаженїи очищают сѧ, и глоусїи слышать, мрътвїи въстають, и нищїи благовѣстоуют 27; тъ въскрсе ѡт мртвых 35; ꙗко оутаил есї сїѧ ѡт прѣмдрыхъ и разоумных 150. Спарадычна поўныя прыметнікі выступаюць у складзе састаўнога іменнага выказніка: и се соут послѣднїи, иже боудоуть пръвїи, и соуть пръвї иже бѹдоуть послѣдни 160б.

Асноўным сродкам утварэння вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў у аналізуемым тэксце выступаў суфікс -ѣиш-: тъгда идеть и поимет съ собою седмь инѣхь доуховъ лютѣишихь 31; ꙗко простъ же и кротокъ, и блгонравнѣишїи, и ꙗко чстъ срдцемь 189б; члкъ нѣкыи имѣ два сна. и реч юнѣишїи снъ ею ѡцѹ 164. Утвораныя з дапамогай гэтага словаўтваральнага сродку прыметнікі мужчынскага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку фіксуюцца таксама з канчаткам -ѣи: бѣ же снъ его старѣи на селѣ 164б.

Вышэйшая ступень параўнання прыметнікаў малыи, великїи, добрыи, благїи, злыи прадстаўлена суплетыўнымі асновамі: събравь все мнїи снъ 164б; аще кто хощеть старѣи быти, да боудеть въсѣх меншїи и всѣм слоуга 97; ꙗко хс егда прїидет, еда болша знаменїа сътворит 208б; нѣс рабь болїи га своег, ни посланникь болїи пославшаго его 223б; приемлеть пославшагѡ мѧ. иже бо мнїи ес всѣх вас, сьи ес вѧщьшїи 148; не вы ли паче лоучши ихь есте 18; колми паче вы есте лоучьши птиць 156б; мнозѣх птиць оуншии есте вы 155б; и бывают послѣднѧꙗ члкоу томѹ, горша пръвыхь 153б; тогда идет и поиметь седмь дроугых доухѡв горшихь себе 153–153б. Вышэйшая ступень параўнання прыметніка многїи перадаецца лексемай множаи: въ них же бышѧ множаишаа силы его 28; множаишїи же народи. постилаахоу ризы своа по поути 48б–49.

Найвышэйшая ступень параўнання прыметнікаў выражана ў Слуцкім Евангеллі апісальным спосабам. У адных выпадках яна прэзентуецца спалучэннем займенніка весь у форме роднага склону множнага ліку (всѣхъ) і прыметнікам у вышэйшай ступені параўнання:

егда же възрастеть. более всѣхь ѕелїи ес 33б; приемлеть послав[s]шагѡ мѧ, иже бо мнїи ес всѣх вас, сьи ес вѧщьшїи 148; ѿць мои иже дас мнѣ, болїи всѣх ес 216б. У другіх – прыслоўем меры і ступені ѕѣло і прыметнікам: възрадоваша сѧ радостїю велїею ѕѣло 10; и бѣ раздроушенїе еа велїе ѕѣло 20; бѣ бо богат ѕѣло 170б. Значэнне найвышэйшай ступені параўнання перадаецца таксама і формай вышэйшай ступені параўнання з суфіксам -ѣиш-. У такім выпадку дыферэнцыяцыя паміж прыметнікам у вышэйшай і найвышэйшай ступені вызначаецца ў кантэксце. Так, прыметнік у вышэйшай ступені параўнання ўказвае на ступень праяўлення якасці асобы або прадмета ў параўнанні з той жа якасцю другой асобы або другога прадмета: тъгда идеть и поимет[s] съ собою седмь инѣхь доуховъ лютѣиших 31. Прыметнік у найвышэйшай ступені параўнання вылучае асобу або прадмет з шэрага аднолькавых або блізкіх асоб ці прадметаў: мните ли ꙗко галїлеане сїи, грѣшнѣиши пач всѣх галилѣанъ бѣаша 156; моудрѣиши паче сн҃овъ свѣта въ родѣ сьвоемь соут[s] 165б.

**Сістэма скланення займеннікаў. Асабовыя займеннікі.** У скланенні займеннікаў 1-й і 2-й асобы адзначаюцца: 1) суплетывізм асноў ва ўскосных склонах адзіночнага, множнага і парнага ліку (азъ – мене, ты – тебе і г. д.); 2) наяўнасць энклітычных форм давальнага склону адзіночнага ліку (ми, ти: азъ ти повелѣваю 96; всѧко речете ми прит[s]чю сїю 131), вінавальнага склону адзіночнага (мѧ, тѧ: ѡнъ мѧ прославить 228б; соудїѧ тѧ предасть слоузѣ 158б) і множнага ліку (пѡмилоуи ны ї҃се 24; елици аще не пьрїимоут[s] вы 87б); 3) паралельнае ўжыванне ў давальным і месным склонах форм тебѣ і тобѣ: Д.: г҃и, аще ты еси повели ми прїити кь тебѣ по водам 36б – аминь г҃лю тобѣ 62б; М.: чтѡ г҃лешии ѡ тебѣ самѡм 193 – аз[s] же молих сѧ ѡ тобѣ 179б.

Афармленне ўскосных склонаў займеннікаў 3-й асобы залежала ад наяўнасці або адсутнасці пры іх прыназоўнікаў. У выпадках ужывання займеннікаў пасля прыназоўнікаў утвараецца форма з пачатковай н, пры ўжыванні займеннікаў без прыназоўнікаў пачатковая н адсутнічае.

Адзіночны лік:

| | | | |
|---|---|---|---|
| м. р. | Р. | его, него | глас его слышиши 196б; из него ж[s] изыдоша бѣси 144; |
| | Д. | емоу, немоу | рече емѫ 105б; вси людїе, идѧхѫ к немоу 209б; |
| | В. | его, нь | молаше его бѣсновавыи 85б; наньже б҃говоли д҃ша моѧ 9б; |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | Тв. | имь | да спасет сѧ имь миръ 197; |
| | М. | немъ | по нем идоша 180; |
| ж. р. | Р. | еѧ, неѧ | прикосьноу сѧ роуцѣ еѧ 21; дѣтотворить ѡт неѧ 118б; |
| | Д. | еи, неи | и пѡвелѣ дати еи ꙗсти 145; прїиде къ неи 49б; |
| | В. | ю, ню | въ соуботоу исцѣлї ю ї҃съ 159б; възложиши на ню роуцѣ 86; |
| | Тв. | ею, нею | ї иже кленет сѧ цр҃квїю, кленет сѧ ею 54б; прѣбыстьжѕ мрїамь съ нею ꙗко три мсцѧ 123б; |
| | М. | неи | молиша его ѡ неи 132; |
| н. р. | В. | е | положи е въ новѣмь своемь гробѣ 68. |

У множным і парным ліку займеннікі 3-й асобы маюць традыцыйныя склонавыя формы: мн. л.: Н.: они: они же рекоша емоу 9б; Р.: ихъ, нихъ: срдце их ѡкаменено 90; един ѡт них 67б; Д.: имъ: дас имъ власть на доусехь нечисьтыхь 24б; В.: ѧ, ихъ: тꙑ оучаше ѧ на сънмищих 130б; ицѣлѧше ꙗ 132; възведе их на гороу высокоу 41; Тв.: ими, ними: коупиша ими село 65; ꙗвишѧс прѣд ними 185; М.: нихъ: ѡ нихже рече їоуда 188; парны л.: Н.: она: ѡна же рѣста емоу 100; Р.: ею, нею: чл҃къ нѣкыи имѣ два с҃на, и реч юнѣишїи ею ѡц҃ꙋ 164; видѣ два кораблѧ стоꙗща при езерѣ. рыбарїе же ѡтшедше ѡт нею 132б, Д.–Тв.: има, нима: бѣ повиноуꙗ сѧ їма 127б; рече къ нїма 127б; сънидe съ нима 127б.

Склонавая парадыгма зваротнага займенніка себе прадстаўлена ў наступным выглядзе: Р.: себе: многы народы окрестъ себе повелѣ ити на ѡнъ пол 21б; Д.: себѣ, собѣ: чтѡ стѣзаете сѧ къ себѣ 95б; коупѧт собѣ хлѣбы 89; В.: себе, сѧ: поиметь седмь дроугых доухѡв горшихь себе 153–153б; възлюбиши ближнѧго своего ꙗко сам сѧ 150б; Тв.: собою: аще любовь имате междоу собою 224б; М.: себѣ, собѣ: не имоуть коренїа въ себѣ 83б; гл҃ати въ собѣ 158б.

**Неасабовыя займеннікі.** Прыналежныя займеннікі змяняюцца па мяккай разнавіднасці займеннікавага скланення: Н.: м. р.: соуд мои истенень ес 210б; вѣсть бо ѡц҃ь вашь нб҃сныи 17; ж. р.: се бо ес кровь моѧ 62; вѣра твоа сп҃се тѧ 23б; н. р.: врѣмѧ мое легко ес 28б; врѣмѧ ваше всегда готово ес 207б.

Ва ўскосных склонах (за выключэннем вінавальнага) прыналежныя займеннікі мужчынскага і ніякага роду маюць аднолькавыя канчаткі: Р.: -его: м. р.: въ цр҃ствїи ѡц҃а моег 62; н. р.: дадите намѕ ѡт масла вашего 58б; Д.: -емоу: м. р.: г҃оу б҃оу твоемоу поклониши сѧ 12б; н. р.: їродъ рождествоу своемꙋ вечерю творѧше 88б; В.: м. р.: -и, -его: глас

мои оуслышатъ 21б; чьти ѡца твоего и мтре 99; н. р.: -є: И пришед въ ѡчьствїє свое оучаше ихъ 35; Тв.: -имъ: м. р.: съмири сѧ съ братом твоимь 15; н. р.: прѣд лицѣмь твоимь 76; М.: -емъ: м. р.: въ домоу своемъ 35; н. р.: о стадѣ своемъ 125б.

Займеннік свои спарадычна ўжываецца ў форме меснага склону адзіночнага ліку з канчаткам -имь: їсъ же реч имь, нѣс прркъ без чьсти, тъкмо въ ѡчьствїи своимь, и въ домоу своемъ 35. Гэты канчатак пашыраўся пад уплывам форм творнага склону. Для параўнання адзначым, што ў старабеларускай літаратурна-пісьмовай мове такія формы былі "адзіным адступленнем ад традыцыі ў скланенні прыналежных займеннікаў мужчынскага і ніякага роду" [115, 128].

Прыналежныя займеннікі жаночага роду ва ўскосных склонах ужыты з наступнымі канчаткамі: Р.: -еѧ: прѣтькнеши ѡ камень ногы твоеа 12б; власи главы вашеѧ 155б; Д.: -еи: припадаю твоеи блгсти 1; В.: -ю: ризоу твою възѧти 16; Тв.: -ею: възлюбиши га ба твоего всѣм срдцемь твоим. и всею дшею своею 53; М.: -еи: на трапезѣ моеи 179б.

Формы множнага ліку назоўнага склону прыналежных займеннікаў маюць родавую дыферэнцыяцыю – займеннікі мужчынскага роду ўжываюцца з канчаткам -и, канчатак -ѧ характэрны для займеннікаў жаночага і ніякага роду: Н.: м. р.: въистиноу ѹчнци мои боудете 211б; ж. р.: Овцѧ моѧ гласа моего слышѧть 216б; н. р.: словеса же моѧ. не мимоидоуть 57б. Ва ўскосных склонах выяўлены аднолькавыя для ўсіх трох родаў канчаткі: Р.: -ихъ: м. р.: ѡтмщенїе избранных своих 169б; ж. р.: ктѡ прикъсноу сѧ ризах моихь 86б; н. р.: постыдит сѧ мене, и моих словесъ 146б; Д.: -имъ: м. р.: ꙗкоже и мы оставлѧемь длъжникѡм нашимъ 17; ж. р.: обрѧщете покои дшамь вашим 28б; н. р.: не вѣрова словесемь моимь 122; В.: -ѧ: м. р.: призва своѧ рабы 58б; ж. р.: повѣлѣ вам поустити жены ваша 45; н. р.: въздадѧть емоу плоды въ врѣмена своѧ 51; Тв.: -ими: м. р.: сътворити млсть съ ѡцы нашими 124б; М. -ихъ: м. р.: Не стѧжите ѕлата ни сребра, ни мѣди при поасѣхь вашихь 25; н. р.: в срдцихъ своихъ 22б.

У рукапісе зафіксаваны традыцыйныя формы парнага ліку прыналежных займеннікаў: цѣлованїа твоего въ оушїю моею 123б; нинѣ же съкры сѧ ѡт ѡчїю твоею 173б; положоу врагы твоа пѡдножїе ногама твоима 53.

Азначальны займеннік всѧкъ у адзіночным ліку назоўнага і вінавальнага склонаў усіх трох родаў мае кароткія формы, а ў іншых склонах – поўныя: Н.: ꙗко всѧкъ иже възрить на женоу съ похотию 15; всѧка гора и холъмъ смѣрит сѧ 128; всѧко древо добро. плоды

добры творить 19б; Д.: ибѡ и сами ѡставлꙗемˢ всꙗкомоу длъжникоу нашемоу 152; В.: цѣлити всꙗк недоугъ 24б.

Пытальна-адносныя займеннікі кто, что маюць традыцыйныя склонавыя формы: Н.: кто есть ѡт вас члвекъ 19; что ес притˢча сїа 142; Р.: не имоуть бо чесо ꙗсти 89б; Д.: Комꙋ оупѡдоблю члкы рода сего 140; чесомꙋ оуподобим црствїе бжие 84; В.: кого хощете ѡт ѡбою ѡтпоущоу вамˢ 65б; что ꙗсте или чтѡ пиете 18; Тв.: егда званъ боудеши кымˢ на бракъ 161б; аще кого чимь ѡбидѣх 172; М.: аще соль ѡбоуаеть, в чемь осолит сꙗ 163.

Займенік кыи прадстаўлены наступным чынам: адз. л.: Н.: м. р.: кыи црь идыи къ иномоу црю 163; ж. р.: каа вамˢ хвала ес 137; Р.: м. р.: коего дха еста вы 148б; Д.: м. р.: коемоу твориши слоужбоу 248б; В.: н. р.: кое знаменїе ꙗвлꙗеши нам 195б; Тв.: ж. р.: коею смртїю хотꙗше оумрѣти 221б; мн. л.: Р.: царїе земстїи, ѡт кыих приемлють дани 42; Д.: стымˢ изˢбранˢнымь, коимˢ ес писано апсль ї еѵглїе 248–248б; М.: вˢ коихъ не едїногласоують 5б.

Няпэўныя і адмоўныя займеннікі скланяюцца па ўзору пытальна-адносных: прикъсноу сꙗ мнѣ нѣкто 144б; нищим да нѣчто дас 224; кнзь нѣкыи пришед кланꙗше сꙗ 23б; И се жена нѣкаа ... пришедши 86; призва два нѣкаа ѡт оучнкъ своих 139б; никьтоже может принити ко мнѣ 20б; ничтоже боле ѡтповелѣнˢнаго вам творите 128б; ничьсож не творю 211; никомоуже ничесоже рѣша 114б; никогѡжˢ обидитѣ 128б; ничимˢже менˢши еси въ влдкахъ їоудовах 9б; никыижˢ бо рабъ может двѣма господˢма работати 166; видите ꙗко никаꙗжˢ пльза ес 221; никоеꙗжˢ обрѣтаю вины въ члцѣ семˢ 182;

Звяртаюць на сябе ўвагу канчаткі множнага ліку роднага склону займенніка нѣкыи: -ыих і -оих: глемо бѣ ѡт нѣкыих 145б; ѡт великыа недлꙗ пасхы разве нѣкоих трех днеї 249б.

**Сістэма скланення лічэбнікаў.** Лікі ў Слуцкім Евангеллі абазначаюцца лічэбнікамі, а таксама традыцыйна літарамі-лічбамі. Для адрознення літар-лічбаў выкарыстоўваецца цітла, якая ставіцца над літарай (або спалучэннем літар) з лікавым значэннем: глава а҃ 8; ї исплъниша, в҃ı кошꙗ оукроух 204. Зафіксаваны спалучэнні лічэбнікаў і літар з лікавым значэннем для перадачы лікаў другога дзесятка: единомоу на ї҃ 114б. У межах аднаго аркуша выяўлена паралельнае ўжыванне падобнага спалучэння і лічэбніка: Съзвавˢ же ѡба на .і. оучнка своꙗ 145 – созва їсъ оба на десꙗтꙋчнка 145.

У рукапісе зафіксаваны наступныя простыя лічэбнікі: **єдинъ, два, три, четыре, пѧть, шесть, седмь, осмь, девѧть, десѧть, сто, тысоуща (тысѧща).**

Лічэбнік **єдинъ (єдино, єдина)** скланяецца па займеннікавым скланенні (як займеннік **тъ, то, та**), дапасуецца да назоўніка ў родзе, ліку і склоне: адз. л.: Н.: м. р.: **да погыбнеть єдинь оудъ твоихъ** 15–15б; **тъгда боудета два на селѣ, єдинъ поемлет сѧ** 57б; н. р.: **єдино оубо лице пωдоб<sup>s</sup>но львж** 73; ж. р.: **єдїна чрьта не прѣидеть** 14б; Р.: н. р.: **въпрошоу вы и азъ єдїного словесе** 174; Д.: м. р.: **не двѣ ли птици цѣните сѧ единомоу ас<sup>s</sup>сарїоу** 26; **ꙗко оунѣе єс единомоу чл҃коу ѹмрѣти за люди** 232; В.: н. р.: **кто єс ωт вас чл҃кь, иже имат овчѧ єдино** 29; **въпрошоу вы и азъ словω єдино** 50; ж. р.: **иже аще оубо разорит єдиноу заповѣден сихъ малых** 14б; Тв.: м. р.: **сами єдинѣм пръстωм вашим<sup>s</sup>** 154б; н. р.: **добрѣ ти єс съ єдинѣмь окωм вънити въ црствїе бж҃їе** 97б; М.: м. р.: **о єдинωм<sup>s</sup> грѣшнїцѣ кающем сѧ** 163б. Варыянтнае афармленне адзначана ў форме вінавальнага склону мужчынскага роду: **єдинаго сн҃а имѣ възлюбленнаго своего** 103 – **не остави мене єдиного ωц҃ь** 211.

Лічэбнікі **два** і **оба** таксама скланяюцца па займеннікавым скланенні (як займеннік **тъ**), але маюць толькі формы парнага ліку: Н.–В.: м. р.: **прѣбыс тоу два дн҃и** 200; **боудета оба въ плоть єдїноу, ꙗкоже к томоу нѣста два, нъ плоть єдина** 45; н. р.: **двѣ оцѣ имоущж** 43; ж. р.: **двѣ мѣлющи въ жрънвах** 57б; **прием<sup>s</sup> же пѧт<sup>s</sup> хлѣбъ и обѣ рыбѣ** 146; Р.–М.: м. р.: **при оустѣхъ двою или трех свѣдтелїи** 43б; **негодоваша ω обою братоу** 48; ж. р.: **о пѧти хлѣбѣхъ и двою рыбоу** 2б; **въ сїю обою заповѣдию, весь закωн и прорци висѧть** 53; Д.–Тв.: м. р.: **никтоже можеть двѣма господинома работати** 18; **не пѧт<sup>s</sup> ли птиць цѣнит сѧ пѣнѧзема двѣма** 155б; ж. р.: **бѣхѹ же тоу водоноси камени шесть, лежаще по ωчїщенїю їоудѣискоу, въмѣстѧщем по двѣма или трем мѣрамь** 195. Іменная форма Р.–М. **двоу** ўжыта адзін раз: **по три десѧт и двоу лѣтех** 5.

У Слуцкім Евангеллі зафіксаваны наступныя склонавыя формы лічэбнікаў **три** і **четыри**: Р.: **развѣ нѣкоих трех днеї** 249б; **ꙗже ни єдинь ωт иных трїехь єvглїстъ** 188б; **събероут<sup>s</sup> изб<sup>s</sup>ран<sup>s</sup>ныа єго ωт четырех вѣтръ** 57; Д.: **бѣхѹ же тоу водоноси камени ... въмѣстѧщем по двѣма или трем мѣрамь** 195; **в тоиж ден, праздноуем, трем<sup>s</sup> ст҃лемь** 243б; **четырем добродѣтелем** 4; В.: **даждь ми възаимы, три хлѣбы** 152; **сътворимь зде три сѣни** 41; **єгда бо видиши сихъ четырех, не съшедших сѧ** 5б; **сътвориша четыри части** 235; Тв.: **ты ли треми дн҃ьми въздвигнеши ю** 195б; **прїидошѧ къ немоу носѧще ωслаблена жилами, носима четыр<sup>s</sup>ми** 78б–79; М.: **съкры въ моучных сатѣхь трих** 33б. У старaславянскай мове гэтыя лічэбнікі мелі ў назоўным склоне

формы **триїє** (**трыїє**) і **четыре** ў мужчынскім родзе і формы **три** і **четыри** ў ніякім і жаночым родзе. У Слуцкім Евангеллі архаічная форма **трїє** мае абмежаванае ўжыванне, параўн.: **бѣ їона въ чревѣ кїтове три дни и три нощи** 31; **боудет^s бо ѡтселѣ, пѧт^s въ единѡм^s домоу раздѣлени, трїє на два, и два на три** 158б. Форма **четыре** мае адзінкавую фіксацыю пры назоўніках мужчынскага і ніякага роду, параўн.: **Понеже четыре обьдръжни дх̑ове, и четыре еvглїа всюдоу дышюще нетлѣнне** 1; **четыри соуть еvглїа** 1; **Четыри оубо соут еvглисти** 4б. У рукапісе не зафіксаваны старажытныя формы роднага склону **трии** (**трьи**) і **четырь**; тут паслядоўна ўжываюцца формы **трехъ, четырехъ** (формы меснага склону). У давальным склоне лічэбнікі **три** і **четыри** маюць канчатак **-емъ**: **тремъ, четыремъ**; лічэбнік **три** мае канчатак з **-е-** і ў творным склоне: **треми**.

Лічэбнікі **пѧть, шесть, седмь, осмь** ужываюцца ў адзіночным ліку, у традыцыйнай форме выступаюць у назоўным і вінавальным склонах: **не пѧт^s ли птиць цѣнит сѧ пѣнѧзема двѣма** 155б; **дасть пѧт^s талантъ** 59; **шесть днїи ес, въ нѧже достоить дѣлати** 159б; **бѣаше же въ нас седмь, братїа** 52б; **из неѧже седмь бѣсовь изыде** 141б; **Быс же по словесехь сих ѩко днїи, осмь** 147. У творным склоне зафіксавана старажытная форма **пѧтїю**: **тыи боуди над пѧтїю градовь** 172б.

У родным і месным склонах назіраецца варыянтнае афармленне гэтых лічэбнікаў: **о пѧти хлѣбѣхъ** 2б; **по ѡсми лѣтех хв̑а възнесенїа** 4б; **ѡт пѧтїи хлѣвь** 204; **о пѧтих хлѣбѣх** 71; **ѡ пѧтих хлѣбѣх** 116б; **о пѧтих хлѣбех** 188; **въ пѧтих днех показоуѧ** 250; **по дн̑ех шестїих** 40б; **ѡ седмих хлѣбѣхъ** 71б; **в недлѧх седмих** 249б; **котораго ѡт седмихь боудет жена** 52б; **по лѣтѣхъ, осмихъ хв̑а възнесенїа** 69б. Назіранні паказалі, што ў рукапісе ў гэтых лічэбніках новы канчатак **-ихъ** пераважае над традыцыйным канчаткам **-и**. Я.Ф. Карскі заўважыў, што “ўжо рана ў беларускай мове ўсе лічэбнікі, якія належалі некалі да асноў на *-і* … звычайна ў спалучэннях з назвамі адушаўлёных назоўнікаў пачалі змяняцца … па множным ліку, часам з некаторымі слядамі парнага” [160, вып. 2, 247]. Ён жа прыводзіць прыклад: *боуде^т по четырьнадесѧти^х сте^х лете^х по х^с вѣ нарожденїи* [160, вып. 2, 247].

Найменні лікаў другога дзесятка складаюцца з трох слоў: назвы ліку, прыназоўніка **на** і лічэбніка **десѧть** у адзіночным ліку. Назоўнікі пры лічэбніках другога дзесятка дапасуюцца да назваў адзінак. Пры скланенні лічэбнікаў другога дзесятка звычайна змяняецца па склонах першая частка, другая застаецца нязменнай: Н.: **ѡт авраама до дв̑да родове четыри на десѧте** 9; **се жена кръвоточїва два на десѧт^s лѣтъ** 23б; Р.: **єдинъ ѡт обою на десѧте** 61б; **о избранїи двою на десѧт апслъ** 71;

Д.: заповѣдаꙗ обѣма на десѧт оучн҃ікома своима 27; В.: созва іс҃ъ оба на десѧт ȣчн҃ка 145; Тв.: възлежеаше съ обѣма на десѧте оученикома 61б; М.: сѧдете и вы на двою на десѧте прстолоу 46б.

Назвы дзесяткаў ад 20 да 90 складаюцца з назваў лікаў ад 2 да 9 і назвы лічбы 10: Н.: възъвратиша же сѧ седмь десѧт съ радостїю гл҃юще 150; Р.: того быти ѿт седмь десѧтих апслъ 117б; В.: бѣ же тоу нѣкыи чл҃кь, трї десѧт ї осмь лѣт имыи в недоузѣ своемь 201; Тв.: єдинь бѣ длъженъ пѧтїю сѡт динарїи, дроугыж пѧтю десѧт 140б–141; М.: радует сѧ о неи паче неже о девѧт десѧтих и девѧт не заблоуждьшїихь 43; посадите их на коупы по пѧти десѧт 146.

Лічэбнік сто, які скланяўся па аналогіі з назоўнікамі з былой асновай на *-о*, зафіксаваны ў назоўным, вінавальным і месным склонах: аще боудеть некоемоу чл҃коу сто ѡвець 43; бѣ длъжень емоу, сто пѣнѧзь 44; о сто ѡвец притча 117.

Пры скланенні лічэбнікаў, якія абазначаюць сотні, змяняюцца абедзве часткі: двѣма стома пѣнѧзь хлѣби не довлѣют имь 204 (Тв., парны л.); чесѡ ради мїро се не продано быс, на трех стѣх пѣнѧзь 220 (М., мн. л.); єдинь бѣ длъженъ пѧтїю сѡт динарїи 140б (Тв., адз. л. пѧтїю і Р., мн. л. ад сто).

Словы тысоуща (тысѧща) і тьма ’безліч’ змяняюцца па ўзору скланення назоўнікаў з былой асновай на *-а*: бѣахоу же ꙗдшеи, ꙗко четыре тысѫща 93; прїасте. гл҃аша емоу, в҃і. егдаж седмь въ четыре тысѫщи 93б; бѣахоу бо моужии ꙗко пѧт тысоущь 146; пѧть хлѣбы пѧтим тысоущам 39б; срѣсти съ десѧтию тысѧщь 163; градоущаго съ двѣма десѧтма тысѧщма нань 163; приведоша емоу єдинаго длъжника тъмою талантъ 44. У рукапісе мы выявілі 12 прыкладаў напісання кораня тысоущ- (тысѫщ-) і 2 прыклады тысѧщ-. А.Я. Супрун адзначыў, што “формы з каранёвым ѫ і ѧ характэрны розным стараславянскім помнікам… Мяркуюць, што аснова з ѧ ўсходняя, усходнебалгарская.., а аснова з ѫ звязана з заходняй, македонскай традыцыяй, яна адлюстравалася ў сербскахарвацкіх помніках” [222, 13].

Парадкавыя лічэбнікі характарызуюцца тымі ж склонавымі формамі, што і прыметнікі. Утвараюцца парадкавыя лічэбнікі ад колькасных: адз. л.: Н.: м. р.: пръвыи ожень сѧ, оумрѣт 52б; бѣ же час ꙗко десѧтыи 194; остави женоу свою братү своемоу, такожде и вторыи, и третїи 52б; Бѣ же час шестыи 184; н. р.: се же написание пръвое быс 125; второе знаменїе сътвори іс҃ъ 201; ж. р.: пръваꙗ въсѣх заповѣдїи 104б; си есть пръваа и большаа заповѣдь, втораа же пѡдобна еи 53; Р.: м. р.: повели ȣбо оутвердити гръбъ, до третїаго дн҃е 68–68б; тма быс по всеи земли. до часа девѧтаго 113; н. р.: до стрстного еѵглїа пръваго 249б;

ж. р.: боудет[s] послѣд[s]ним лесть, горша пръвыѧ 68б; Д.: м. р.: гл҃ше пръвомоу, колицем[s] дльжень еси господиноу моемꙋ 165б; В.: м. р.: въ пръвыиж[s] дн҃ь опрѣсночныи, пристоупиша оучн҃ци і҃сві 61б; изшед въ шестыи и девѧты" чѧс 46б; въ час седмыи, остави его огнь 201; ж. р.: аще прїидет[s] въ второую страждоу, либо въ третїю страждоу прїидеть 157б; М.: м. р.: ѡ девѧтем[s] же часѣ 67; ж. р.: ѡ четвер[s]тѣи стражди нощнѣи 90; мн. л.: Н.: мнѡѕи же бꙋдоуть пръви, послѣднїи, и послѣднїи, пръвїи 46б; Р.: призови дѣлателѣ и даждь имь мьздѫ начень ѡт послѣдних, до пръвыхь 47; боудоут послѣдним чл҃кои томоу гръша прьвыхь 31б.

**Сістэма спражэння дзеясловаў.** *Дзеясловы цяперашняга часу* абазначаюць у Слуцкім Евангеллі як дзеянне, якое адбываецца ў момант гутаркі (оучт҃лю, хощемь ѡт тебе знаменїе видѣти 31), так і пастаяннае дзеянне, якое не мае часавага абмежавання (сказанїе како чтоут сѧ еvглїа 50). Асабовыя формы цяперашняга часу ўтвораны шляхам далучэння да асноў дзеясловаў галоўным чынам незакончанага трывання асабовых канчаткаў:

| *асоба* | *адз. л.* | *парны л.* | *мн. л.* |
|---|---|---|---|
| **1-я** | -ю, -ѫ, -оу | -евѣ; -ивѣ | -емь, -ем[s]; -имь, -им[s] |
| **2-я** | -еши; -иши | -ета; -ита | -ете; -ите |
| **3-я** | -еть, -ет; -ить, -итъ | -ете; -ите | -ѫтъ, -ют[s], -ють, -ѫт[s], -ют, -ют, -ать, -ѧть |

Адз. л.: 1-я ас.: хощоу же ї семоу послѣднемоу дати 47; азъ вам[s] гл҃ю коею властию сїа творю 50;; 2-я ас.: бръвна же еже ес въ очеси твоем[s] не чюеши 137б; 3-я ас.: се цр҃ь твои грѧдеть тебѣ кротокъ 48б; кленет сѧ престолѡм бж҃їимь 54б; посрѣд же вас с тоитъ. егоже вы не вѣсте 193; парны л.: 2-я ас.: и гл҃а има і҃с, вѣроуета ли ꙗко могоу се сътворити 24; не вѣста сѧ чесо просита. можета ли пити чѧшѫ юже азъ пїю 100; мн. л.: 1-я ас.: боим[s] сѧ народа въси бо имоуть їѡан[s]на ꙗко пр҃рка 50; рече емоу, ты ли еси грѧдыи, или иного чаемь 27; 2-я ас.: реч, чтѡ мѧ искоушаете лицемѣри, покажите ми златицоу кин[s]соньноую 52; реч гь что мѧ зовете, гі гі 138; 3-я ас.: ни въжагают[s] свѣтилника и поставлѧють его под споудомъ 14; чьтѫт[s] мѧ, оучаше оученїа заповѣди чл҃чьскы 91; ꙗже слышита и видита, слѣпїи прозирають, и хромїи ходѧть, прокаженїи

**очищают сѧ, и глоусїи слышать, мрътвїи въстають, и нищїи бл҃говѣстоуют** 27. Трэба заўважыць, што ў 3-яй асобе адзіночнага і множнага ліку паказальным з'яўляецца канчатак з канцавым мяккім **-ть**. Наяўная варыянтнасць асабовых канчаткаў абумоўлена неаднастайным выкарыстаннем графічных сродкаў для перадачы пэўнага гука.

Спражэнне нетэматычных дзеясловаў (**быти, дати, вѣдѣти, ꙗсти, имати**) у цэлым адпавядае нормам царкоўнаславянскай мовы: **и гл҃а емѹ, сїа всѧ тебѣ дамь** 12б; **лоуна не дасть свѣта своего** 57; **и не дасте ми ꙗсти** 60; **Достоитѕ ли кинѕсонъ кесареви дати, или ни, дамы, или не дамы** 103б; **прѣд всѣми гл҃ѧ, не вѣмь чтѡ гл҃еши** 64б; **дъндежѕ ꙗмь и пїю и потѡм ꙗси и пїеши ты** 167б; **почтѡ с мытари ї грѣшникы ꙗсть и пиеть** 79б; **кр҃щение же имамь** 158; **имамѕ бо пѧть братїѧ** 167; **единого ѡц҃а имамы б҃а** 212; **ꙗко же и мы едино есмы** 231. Звяртаюць на сябе ўвагу формы 3-яй асобы адзіночнага ліку без канчатка **-ть**: **и дас виноград инѣм** 105б.

*Будучы просты час* прэзентуюць прыставачныя дзеясловы закончанага трывання цяперашняга часу, таму па сваіх канчатках формы будачага простага цалкам суадносяцца з канчаткамі дзеясловаў цяперашняга часу: адз. л.: 1-я ас.: **и рече има грѧдета по мне и сътворю вы ловца ч҃лком** 13; **помолю сѧ тамо, и поемъ петра, и оба сн҃а зеведеѡва** 62б; 2-я ас.: **наречеши имѧ емоу їѡанѕнь** 121б; 3-я ас.: **а иже сътворить и наоучить, сьи велїи наречет сѧ въ цр҃ствїи нб҃снѣмь** 14б; **а иже ѿвръжет сѧ мене пред ч҃лкы, ѿвръгоу сѧ его ї азъ пред ѡц҃емь моимѕ иже на нб҃сехъ** 26б; парны л.: 1-я ас.: **и к немоу прїидевѣ, и обитель оу него сътворивѣ** 226; мн. л.: 2-я ас.: **не вънидете въ цр҃ствїе нб҃сное** 14б; 3-я ас.: **и заплюют его, и бивше оубиють его, и въ третїи дн҃ь въскр҃снеть** 171; **ꙗко тїи б҃а оузрѧть** 189б.

Даволі актыўна будучы просты час выражаўся з дапамогай дзеяслова **быти**: **тако боудеть и пришествїе сн҃а ч҃лчьскаго** 57; **боудет въ немь источникь воды текѹща въ живѡт вѣчныи** 199; **не такѡжѕ боудетъ въ вас нъ ижѕ аще хощеть въ вас вѧщѕшїи быти, да боудеть вам слоуга** 100б; **въистиноу ѹч҃нци мои боудете** 211б; **боудѫть трѫси по мѣстам, и бѹдѫть глади и мѧтежи** 106. Падобнае афармленне будучага часу назіраецца ў тых кантэкстах, у якіх увага акцэнтуецца іменна на пэўных асобах, з'явах, прадметах.

У якасці дапаможных дзеясловаў у будучым складаным I часе выступалі дзеясловы **имати, хотѣти, начѧти**. Так, з дапамогай дзеяслова **имати** выражаўся намер ажыццявіць пэўнае дзеянне або перадавалася абавязковасць выканання дзеяння: **тако и сн҃ъ ч҃лчьскыи имать пострадти ѿ них** 41б; **ꙗко не иматѕ прѣити рѡд сън** 178. Лексема

**хотѣти** надавала дзеяслову дадатковае адценне неабходнасці, павіннасці: **оучитлю, хощемь ѡт тебе знаменїе видѣти** 31; **сам бо вѣдаше что хощеть сътворити** 204. Дзеяслоў **начати** выражаў у складзе будучага складанага І часу фазіснасць – пачатак дзеяння, якое перадаваў асноўны дзеяслоў: **тъгда начнете глати** 160б; **вси видѧщеї начноуть роугати сѧ емоу глще** 163б.

Сістэма *прошлага часу* дзеяслова прадстаўлена формамі аорыста, імперфекта, перфекта, плюсквамперфекта.

У аналізуемым тэксце прадстаўлены сігматычны *аорыст*, утвораны ад асноў інфінітыва (на зычны і на галосны), да якіх далучаўся суфікс -**с**- і асабовыя канчаткі. У 1-й асобе адзіночнага, парнага і множнага ліку **с** чаргаваўся з **х**, у 3-й асобе множнага ліку – з **ш**. Нязменным заставаўся суфікс перад канчаткамі 2-й асобы множнага ліку і 2-й і 3-й асоб парнага ліку. У 2-й і 3-й асобах адзіночнага ліку аорыст выражаўся чыстай асновай дзеяслова. Напрыклад, адз. л.: 3-я ас.: **И се законѕникь нѣкыи въста искоушаа его глѧ** 150б; **ѿцинникь нѣкыи съхождаше поутемь тѣмѕ; и видѣвь его мимѡиде** 151; парны л.: 3-я ас.: **она же рѣста им, ꙗкожѕ заповѣда има їсъ, и оставиша ѧ, и приведоста ждрѣбѧ къ їсви** 1 01; **шедша же и обрѣтоста ꙗкоже рече има, ї оуготоваста пасхоу** 179; мн. л.: 1-я ас.: **исполниша сѧ страха глще, ꙗко видѣхомъ преславнаа днсь** 134; 2-я ас.: **Чтѡ мыслите въ себѣ маловѣри, ꙗко хлѣбы не възѧсте** 39б; 3-я ас.: **пасоущїи же свинїѧ, бѣжаша, и възвѣстиша въ градѣ и въ селѣх** 85б. Звяртае на сябе ўвагу паралельнае функцыянаванне форм аорыста дзеяслова **рещи** для выражэння аднаго і таго ж граматычнага значэння адпаведна ў 1-й асобе адзіночнага ліку, 2-й асобе парнага ліку і 3-й асобе множнага ліку: **рѣх нѣсмь азь хс** 197б – **рекѡх вамь и не вѣроуете** 196б; **ѡтвѣщастаж имь родителѣ его и рѣста** 214 – **си рекоста родителѣ его** 214; **рекоша апсли гви, приложи намѕ вѣроу** 167б – **и рѣша к немоу, ѹчтлю, запрѣти оучнкѡмѕ своимь** 173б. Дзеясловы **начати, поꙗти, обвити** ў 3-й асобе адзіночнага ліку фіксуюцца з канчаткам -**тъ**: **ѡттолѣ начатъ їс проповѣдати и глати. покаите сѧ** 13; **сьи пристоупль къ пилатоу, проси тѣло їсво, и сѕнемь е, обвитъ плащаницею, ї положи е въ гробѣ** 184б; **тъгдаж пилат поꙗтъ їса и би его** 233б.

Прадстаўленыя ў *імперфекце* дзеясловы ўтвораны ад асноў інфінітыва з дапамогай суфіксаў -**ѧх**- і -**х**-, выбар якіх залежаў ад якасці канцавога гука асновы інфінітыва. Пры гэтым у суфіксе імперфекта адлюстравана чаргаванне **х**//**с**//**ш**. Так, **ш** мае месца ў 2-й і 3-й асобах адзіночнага ліку, **с** – у 2-й і 3-й асобах парнага ліку і ў 2-й асобе множнага ліку. Напрыклад, адз. л.: 1-я ас.: **и дроугыи рече женоу поѧх** 162; 3-я ас.: **хождаше їсъ въ соуботы сквозѣ сѣанїа** 28б; **и камень лежаше на неи**

219; мн. л.: 1-я ас.: **ꙗко мы слышахом его глющa** 110б; **пискахомъ вам и не плмсасте. рыдахwм вамь и не плакасте** 140; 3-я ас.: **пріаша тръсть и біахоу по главе его** 66б; **и мжжіе дръжащеи іса, роугаахж сѧ** 181б. У некаторых кантэкстах назіраецца выкарыстанне нясцягнутых і сцягнутых форм імперфекта, нярэдка паралельна функцыянуюць нясцягнутыя і сцягнутыя формы, утвораныя ад адной і той жа інфінітыўнай асновы: **и облобызааше нозе его и мазаше мїрwм** 140б; **желаше насытити чрево свое wт рожець** 164; **желааше насытити сѧ wт кроупиць падающихь wт трапезы** 166б.

*Перфект* уяўляе сабой аналітычную форму прошлага часу, утвораную шляхам спалучэння дапаможнага дзеяслова **быти** ў цяперашнім часе з дзеепрыметнікам прошлага часу ад асноўнага дзеяслова закончанага і незакончанага трывання. Названы прошлы час ілюструецца наступнымі асабовымі формамі ў адзіночным ліку: 2-я ас.: **еже еси оуготовалъ пред лицем всехь людіи** 126б; **и съсца ꙗж еси съсалъ** 153б; **и на распоутїи наших оучилъ еси** 160б; 3-я ас.: **ꙗкоже и снъ свої единородныи далъ есть да всѧкь вероумии вонь, не пwгыбнеть** 197; у множным ліку: 3-я ас.: **гла имь ослабеють на пѹти, мнози бо wт них издалече пришли соуть** 92б; **да оувесть каковоу коуплю сжт сътворили** 172. З прыкладаў відаць, што дзеяслоўная звязка не мае строга акрэсленай пазіцыі: яна можа знаходзіцца як у прэпазіцыі, так і ў постпазіцыі да дзеепрыметніка. Выпадкі апушчэння дапаможнага дзеяслова ў перфекце Слуцкага Евангелля сустракаюцца, аднак частотнасцю не вызначаюцца. Адзначана ўжыванне перфекта ў сказах з простай мовай з мэтай пазбегнуць няправільнай перадачы сэнсу выказвання, паколькі словы аўтара ўтрымлівалі дзеяслоў у форме аорыста: **реша емоу, ги, не доброе ли семѧ сеаль еси на селе своемь** 33.

*Дзеясловы ў плюсквамперфекце* адзначаюцца галоўным чынам у дадзеных сказах для перадачы дзеяння, якое папярэднічае дзеянню, выражанаму дзеясловам галоўнага сказа: **и беахѹ седѧщеи фарисеи, и законноучителїе, иже бехоу пришли wт всѧкоѧ веси галилеискыѧ и їоудеискыа, и wт їерслмьскыа** 133б; **ꙗко брат твои сьи, мртвъ бе и оживе, ї изгыблъ бе и обрете сѧ** 165. Спосаб афармлення дзеясловаў у гэтым аналітычным прошлым часе традыцыйны: дапаможны дзеяслоў **быти**, які змяняецца па асобах і ліках, у аорысце (імперфекце) і дзеепрыметнік на **-л**, якому ўласціва змяненне па родах і ліках.

*Дзеясловы ўмоўнага ладу*, утвораныя пры дапамозе аорыста дзеяслова **быти** і сэнсавага дзеепрыметніка на **-л**, перадаюць дзеянне, магчымае толькі пры пэўных умовах або абставінах: **ꙗко аще бы ведлъ домоу влдка, въ коую страждоу тать пріидет бдеlъ оубо бы, и не бы**

**далъ пωдкопати храма своего** 57б; **им^s же снъ чл҃чьскыи прѣдасть сѧ, добро бы было емоу, аще сѧ не бы родилъ чл҃къ тъи** 62. Паказальнымі рысамі ў функцыянаванні форм дзеясловаў умоўнага ладу ў Слуцкім Евангеллі трэба лічыць іх наяўнасць ва ўмоўных канструкцыях са злучнікам **аще** (**ωтвѣща ІС҃ъ и рече еи, аще бы вѣдала даръ бж҃іи, и кто ес гл҃ѧи ти даждь ми пити, ты бы просила оу него, и далъ бы ти водоу живоу** 198б), а таксама не строга зафіксаванае становішча дапаможнага дзеяслова ў адносінах да дзеепрыметніка на -л-, і нават у межах аднаго кантэксту: **сьи аще бы былъ прорκъ, вѣдѣл^s бы кто и какова жена прікасает сѧ емь** 140б.

*Дзеясловы загаднага ладу* выражаюць пабуджэнне выканаць пэўнае дзеянне. У Слуцкім Евангеллі пабуджэнне можа абазначаць загад (**запрѣти емоу ІС҃ъ гл҃ѧ, прѣмлъчи ї изыди из^s него** 132), просьбу (**гн҃и, спс҃и ны погыбаемь** 21б), заклік (**и гл҃ѧ имь, идем^s въ ближьнѧѩ веси и грады** 78) і пад. У тэксце адлюстраваны як простыя, так і складаныя формы дзеясловаў загаднага ладу. Так, простая форма загаднага ладу прадстаўлена галоўным чынам дзеясловамі 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку, радзей парнага: **възми свое ї иди** 100; **потωм гл҃а ѳомѣ, принеси пръстъ твои сѣмо** 237б; **радуите сѧ и веселите сѧ ѩко мьзда ваша многа на нб҃сех** 14; **не мьните ѩко прїидох разорити закона или прорκы** 14б; **и рече има грѧдѣта по мнѣ и сътворю вы ловца чл҃ком** 13. Нетэматычныя дзеясловы **дати, ѩсти**, дзеяслоў **видѣти** ў 2-й асобе адзіночнага ліку маюць формы **даждь, ѩждь, вижь**, паколькі ў іх утварэнні выкарыстоўваўся суфікс *-jь-*: **молѧхꙋ его ꙋчн҃ици гл҃юще, равви ѩждь** 199б; **и рећть емоу, дроуже даждь ми възаимы, три хлѣбы** 152; **гл҃а к немꙋ жена, гн҃и, даждь ми сїю водоу** 199; **вижь роуцѣ моï** 237б. З дапамогай дзеясловаў 1-й асобы множнага ліку выражаецца пабуджэнне да сумеснага дзеяння, выканаўцамі якога можа быць як адзін, так і некалькі чалавек, а таксама той, хто гаворыць: **и гл҃а имь, идем^s въ ближьнѧѩ веси и грады** 78; **потωм же гл҃а оучн҃кωм, идѣмь въ їоудѣю** 217б. Форма загаднага ладу дзеяслова **быти** ўтворана з дапамогай суфікса **-и-**: **бж҃е млстивь боуди мнѣ грѣшникꙋ** 170; **реч же и томоу, и ты боуди над пѧтїю градовь** 172б. Складаная форма загаднага ладу прэзентуецца часціцай **да** і сэнсавым дзеясловам 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга часу: **да събоудет сѧ речноe прорκы** 11; **да не прѣдасть тебе съперник соудии** 15; **да творѧть вам чл҃ци ї вы творите им^s такожде** 137.

У Слуцкім Евангеллі прадстаўлены *кароткія і поўныя дзеепрыметнікі залежнага і незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу*. Іх утварэнне і функцыянаванне ў тэксце не вызначаецца асаблівасцямі. Так, кароткія дзеепрыметнікі цяперашняга часу

незалежнага стану паходзілі ад асноў дзеясловаў цяперашняга часу, да якіх далучаліся суфіксы -ꙋщ- (-ющ-), -ѧщ- (-ащ-), адсюль у назоўным склоне адзіночнага ліку адзначаюцца формы тыпу **несꙋщъ, хвалѧщъ** і **несы, хвалѧ** (мужчынскі род), **несꙋщи, хвалѧщи** (жаночы род), **несꙋще, хвалѧще** (ніякі род). Кароткія дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвораны ад асновы інфінітыва пры дапамозе суфіксаў **-ъш-** (**-ьш-**) і **-въш-**, напрыклад, **несшъ, слышавшъ, хвалившъ** і **несъ, слышавъ, хваливъ** (мужчынскі род), **несши, слышавши, хваливши** (жаночы род), **несше, слышавше, хваливше** (ніякі род). Напрыклад, у адзіночным ліку: Н.: **бѣ же тоу ... дрꙋгаа мр҃іа сѣдѧщи прѧмо гробоу** 68; **и се жена въ градѣ ꙗжѕ бѣ грѣшница. и оувѣдвши ꙗко възлежитѕ въ храминѣ фарисѣовѣ. принесши алавастръ мѵра. и ставши при ногоу егѡ създади, плачющи сѧ, начат мочити ноѕѣ его слезами** 140б; Д.: **исходѧщоу емоу ѡт ерихона, по немѕ иде нарѡд многь** 48; В.: **и видѣ дх҃ъ бж҃іи съходѧщь ꙗко голоубь, и грѧдоущь нань** 12; **видѣ тещоу, его лежащоу і огнем жьгомоу** 21; **віде ч҃лка на мытници сѣдѧща** 79б; **ꙋзрѣша і҃са ходѧща по морю, и близь корабла бывша ꙋбоꙗша сѧ** 204б; мн. л.: Н.: **Ч҃лци же видѣвше знаменіе еже сътвори і҃съ, гл҃ахоу** 204б; **иоудѣи же оубо соущіи с нею въ домоу и оутѣшающе ю, видѣвше марію** 218б; Д.: **и многѡмѕ лъжесъвѣдѕтелемѕ пристоупльшемѕ, не обрѣтоша** 64; **пріӹедше оукрадоша егѡ намѕ спѧщемь** 69; В.: **обрѣте их спѧща і гл҃а петрови** 53; парны л.: Тв.: **се въсходѧщема вама въ град** 178б.

Поўныя дзеепрыметнікі ўтвораны шляхам далучэння да кароткіх указальных займеннікаў, напрыклад, **несыи, хвалѧи; несшіи, слышавшіи, хвалившіи** (мужчынскі род), **несꙋщаѧ, хвалѧщаѧ; несшаѧ, слышавшаѧ, хвалившаѧ** (жаночы род), **несꙋщее, хвалѧщее; несшее, слышавшее, хвалившее** (ніякі род). Напрыклад, у адзіночным ліку: Н.: **ꙗко всѧкь ѡтпоущаꙗи женоу свою** 15б; **мытарь издалече стоѧи** 170; Р.: **сказа вамь бѣжати ѡт грѧдоущаго гнѣва** 11б; **дъндеж възгл҃асиша родителѣ того прозрѣвшаго** 214; Д.: **всѧкѡмоу же просѧщемоу оу тебе, даи** 137; В.: **хлѣбъ нашь насоущныи, даждь намъ днес** 17; **обрѣтѡша болѧщаго раба** 139; М.: **нъ ѡ всѧкѡм гл҃ѣ исходѧщіимь из оустъ бж҃іихь** 12; у множным ліку: Н: **и бѣахꙋ сѣдѧщеи фарисѣи, и законноучителіе** 133б; **жены въшедшаа с ним ѡт галілѣѧ** 184б; Д.: **дѣтищемѕ сѣдѧщіимѕ на тръжищих, и възѕглашающиимѕ** 27б; В.: **видиши сихь четырех, не съшедших сѧ, ниже сѣдших дроугъ съ**

дроугомь 5б; М.: о исцѣлевшиих ѡт раз^s лич^s ныих недоугь 116; нъ и ѡ всѣх вѣроующиих словесемь их в^s мѧ 231.

Адзначаныя ў тэксце дзеепрыметнікі тыпу оставль, ѡставльше ілюструюць старажытны спосаб утварэння дзеепрыметнікаў прошлага часу, які заключаўся ў тым, што тэматычны галосны асновы інфінітыва -и перад суфіксам дзеепрыметніка -ъш- пераходзіў у *j*, у выніку чаго ўзнікла чаргаванне в//вл: тъгда оставль народы, прїиде въ дѡм і͠съ 33б; она же абїе оставльша корабль и о͠ца своег 13б. Дзеепрыметнікі наченше і распеньше ўтвораны ад дзеясловаў з асновай на насавы зычны шляхам далучэння суфікса -ьш-, пры гэтым насавы галосны асновы чаргуецца са спалучэннем ен: распеньше же его, раздѣлиша ризы его 66б; исхождаахоу единь по единомоу, наченше ѡт старець и до послѣднихь 210.

Кароткія дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу, адзначаныя ў Слуцкім Евангеллі, утвораны ад асноў дзеясловаў незакончанага трывання цяперашняга часу пры дапамозе суфікса -м-, таму ў назоўным склоне адзіночнага ліку адзначаюцца формы тыпу несомъ, хвалимъ (мужчынскі род), несома, хвалима (жаночы род), несомо, хвалимо (ніякі род). Ва ўтварэнні кароткіх дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу ўдзельнічаюць суфіксы -н-, -ен-, -т-, якія далучаліся да асновы інфінітыва. Выбар суфікса знаходзіўся ў залежнасці ад якасці канцавога гука ўтваральнай асновы [166, 213–214], таму адзначаюцца формы тыпу възнесенъ, оубитъ (мужчынскі род), възнесена, оубита (жаночы род), възнесено, оубито (ніякі род). Напрыклад, у адзіночным ліку: Н.: тръсть ли вѣтрѡм^s колеблем 27б; аще азь възнесенъ боудѫ ѡт землѧ 221б; с͠псена быс жена ѡт часа того 23б; теща же симонова бѣ одръжима ѡгнемь велїимь 132; Р.: они же даша емоу рыбы печены часть и ѡт бчелъ сѡт 186б–187; Д.: много посьтрадати ѡт старець, ї архиїерѣи, и книжникъ и оубиеноу быти 40; В.: видѣ тещоу, его лежащоу ї огнем жьгомоу 21; ѡбрѧщета oслѧ привѧзано 48б; изыде въ нарицаемо крaниевѡ мѣсто 234б; у множным ліку: Н.: боудете ненавидими въсѣми ꙗзыкы имени моего ради 56; петръж^s и соущаа съ ним^s. бѣахоу ѡтѧгчени сномъ 147.

Поўныя формы дзеепрыметнікаў залежнага стану цяперашняга і прошлага часу ўзыходзяць да кароткіх, да якіх далучаны ўказальныя займеннікі и, ꙗ, е: несомыи, хвалимыи; възнесеныи, оубитыи (мужчынскі род), несомаꙗ, хвалимаꙗ, възнесенаꙗ, оубитаꙗ (жаночы род), несомое, хвалимое; възнесеное, оубитое (ніякі род). Напрыклад, у

адзіночным ліку: Н.: **бѣ же нарицаемыи варав^с^ва съ ковникы своими свѧзань** 112; **марїа нарицаемаа магдалыни. из неѧже седмь бѣсовь изыде. и ан^с^на жена хоузаньнѧ** 141б; Р.: **видѣ два брата, симона нарицаемаго петра** 13; Д.: **чтѡ оубо сътворю їс҃у нарицаемомоу хо҃у** 66; **сїи мѣць шестыи ес еи нарицаемѣи неплоды** 123; В.: **И быс по сем^с^ идѣаше въ град нарицаемыи наинь** 139; **прїиде с ними їс҃ъ въ весь нарицаемоую геѳ^с^симани** 62б; **егда оузрите мръзость запоустѣнїа, реченѹю данїилѡм^с^ прркѡмь** 56б; **егда прїидоша на мѣсто нарицаемое кранїево** 183; **їс҃ъ же авїе слышавъ слово глемое** 86б; М.: **пришед въсели сѧ въ градѣ нарицаемѣмь назареѳ** 11; **нощиюж^с^ исходѧ въдворѧшес въ горѣ нарицаемѣї елеонь** 178–178б; у множным ліку: М.: **ѡ извѣствованых въ нас вещехь** 121.

## Сінтаксічныя рысы Слуцкага Евангелля

**Сувязь кампанентаў у словазлучэннях.** У тэксце Слуцкага Евангелля найбольш пашыраны словазлучэнні, галоўны і залежны кампаненты якіх аб'ядноўваюцца пры дапамозе відаў гіпатаксічнай сувязі – дапасавання і кіравання.

Пры дапасаванні да галоўнага слова, прадстаўленага часцей назоўнікамі, радзей – субстантываванымі часцінамі мовы, у якасці залежнага слова фіксуюцца прыметнікі, дзеепрыметнікі, займеннікі, лічэбнікі: **дрѣво добро, плода зла** 137б; **златомъ црк҃внымъ** 54; **въ геенноу огненоую** 97б; **врѣмѧ ваше всегда готово ес** 207б; **плѡд въсходѧць** 83; **дрѹгаа мр҃їа сѣдѧщи** 68; **пѡдобни ч҃лкѡмь чающем^с^ га҃ своего** 157б; **видѣша бѣсновав^s^шаго сѧ сѣдѧща** 85б. Сустракаюцца выпадкі дапасавання да назоўніка мужчынскага роду ў назоўным або вінавальным склоне множнага ліку прыметніка (дзеепрыметніка) у форме жаночага роду множнага ліку: **тысоущникь и слоугы їоудѣискыѧ** 232. Г.А. Хабургаеў адзначаў, што пры ўжыванні ў адзіночным ліку ўлічваўся рэальны пол асобы, аднак "у множным ліку, калі ўказвалася на сукупнасць асоб і пры гэтым думка пра рэальны пол кожнага, хто ўваходзіў у гэту сукупнасць, адсутнічала, дапасуемыя словы выкарыстоўваліся пры гэтых жа імёнах з канчаткамі множнага ліку жаночага роду" [232, 369].

Сярод канструкцый, звязаных кіраваннем, адзначаюцца прыдзеяслоўныя і прыйменныя спалучэнні, якія ў выпадку ўскладнення іх прыназоўнікам адносяцца да прыназоўнікавых, у выпадку яго адсутнасці – беспрыназоўнікавых.

Родны прыдзеяслоўны ў тэксце ілюструюць як беспрыназоўнікавыя, так і прыназоўнікавыя канструкцыі: **три краты ѡтвръжеши сѧ мене** 62б; **въскрсе ѡт мртвыхь** 35; **и блюдѣте сѧ ѡт кваса фарисѣиска и садѕдоукѣиска** 39б (перадаецца значэнне аддзялення); **ѡт страха възопиша** 36б (перадаецца значэнне прычыны). Родны прыйменны беспрыназоўнікавы выражаў пасесіўныя адносіны: **колико наємникъ оц҃а моєго изъобилоүют хлѣби** 164; **призвавь єдинаго къждѡ длъжникь гѡспѡдина своєго** 165б; а таксама ўжываўся пры назоўніках, якія абазначалі колькасць чаго-небудзь: **принесши алавастръ мѵра** 140б; **даждь ми достоиноую часть имѣнїа** 164. Пры дзеясловах з адмоўем **нє** родны беспрыназоўнікавы функцыянаваў як прамое дапаўненне: **нє творить плода добра** 11б; **видиши соучєць, иже єсть въ ѡчєси брата твоєго. бръвна же єже єс въ очєси твоємѕ нє чюєши** 137б.

Родны прыйменны з прыназоўнікам **ѡтъ** указваў на матэрыял, з якога зроблены прадмет: **їѡанѕнь имѣаше ризоу свою ѡт власъ велѕбоуждь** 11. Распаўсюджанне ў тэксце атрымаў так званы родны раздзяляльны, канструкцыя, у якой галоўнае слова вылучае частку з мноства асоб або аднародных прадметаў, выражаных назоўнікам або субстантываванай часцінай мовы ў родным склоне: **Тъгда ѡтвѣщаша нѣцїи ѡт кѕнижник и фарисѣи гл҃юще** 30б; **єдинъ ѡт пррокъ** 88.

Давальны прыдзеяслоўны прыназоўнікавы і беспрыназоўнікавы выражаў кірунак дзеяння або ўказваў на адрасата дзеяння: **припаде рєка храминѣ тъ"** 138; **прїнесєши даръ твои къ олтарю** 15; **приємь іс҃ъ хлѣбь и блсвивь, прѣломи, и дааше оучн҃кѡм своимь** 62. Пры дзеясловах маўлення назоўнік або займеннік у давальным склоне ўказвалі на аб’ект, якому адрасавана выказванне: **речеж ѳома гл҃емыи близнець ѹчн҃кѡм** 218; **ѡтвѣща іс҃ъ и рече єи** 198б. Давальны прыйменны прыназоўнікавы фіксуецца радзей, яго асноўнае значэнне – значэнне прыналежнасці: **бѣ же оубо марко послѣдователь и оучн҃къ, петроу** 4б.

Вінавальны прыдзеяслоўны беспрыназоўнікавы звычайна функцыянаваў як прамое дапаўненне: **ѹзрѣ їакова зеведеова, и їоанѕна брата єго** 77; **видѣх сатаноу ꙗко млънїю съ нбсе съпадѕша** 150; **обѧза строупы єго** 151. Вінавальны прыдзеяслоўны прыназоўнікавы выкарыстаны для ўказання часу, калі адбывалася дзеянне, і кірунку руху: **Въ то врѣмѧ иде іс҃ въ соуботы сквозѣ сѣанїа** 28б; **доухъ изведе єго въ поустыню** 76б.

У прыкладзе **нє пѧтѕ ли птиць цѣнит сѧ пѣнѧзема двѣма** 155б назоўнік у творным склоне выражае значэнне кошту. Таксама ў тэксце зафіксаваны творны беспрыназоўнікавы са значэннем прычыны: **колико наємникъ оц҃а моєго изъобилоүют хлѣби, азѕ же гладѡм гыблю** 164.

Творны прыдзеяслоўны прыназоўнікавы ўжыты для абазначэння прадмета, з дапамогай якога ажыццяўляецца дзеянне: **камениемь побиваа посланыꙗ къ немоу** 161; **нъ единъ ѡт воинъ копиом ребра емоу прободѣ** 235б.

У прыдзеяслоўных прыназоўнікавых спалучэннях з месным склонам выкарыстоўваецца прыназоўнік **по**, агульнае значэнне канструкцыі з ім – значэнне руху за кім-небудзь: **и ѡбращь сѧ идоущемоу по нем^s народоу** 139; **бѣ же андрѣа брат сїмона петра, единъ ѡт обою слышавьшою ѡт їоанна, и пѡ нем шедшою** 194. Месны прыдзеяслоўны прыназоўнікавы актыўна функцыянуе для абазначэння месца дзеяння: **бѣ же тоу стадо свинїи много пасомѡ во горѣ** 143б; **быс глад крѣпокъ на странѣ тъї** 164.

**Тыпы простых сказаў.** У Слуцкім Евангеллі пераважаюць апавядальныя сказы, у якіх вядзецца гаворка пра той ці іншы факт рэчаіснасці: **тъи в^sлѣзе въ корабль и оучнци его** 142б; **И прѣидоша въ странѹ гадариньскоу** 143; **Въ тъи днь пристоупиша нѣцїи ѡт фарїсѣи** 160б.

Выяўленне клічных, пабуджальных, пытальных сказаў грунтуецца на граматычных крытэрыях.

Так, звароткі і выклічнікі з'яўляюцца паказчыкамі клічных сказаў: **гла ослаблен^sномоу, чадо, ѡтпоущають ти сѧ грѣси твои** 79; **глаше бѡ емоу. изыди дѹше нечистыи ѡт члка** 85; **ѡтвѣща емоу недоужьныи, еи гй, члка не имам да егда възмоутит сѧ вода** 201б; **гла емоу, еи гй, ты вѣси ꙗко любл̂ю тѧ** 239. Г.А. Хабургаеў рэкамендуе лічыць лексему **горе** ў сказах тыпу **Горе же вам^s книгочїѧ и фарисѣе лицемѣри, ꙗко снѣдаете домы вдовиць** 54 таксама выклічнікам [232, 405] і прыводзіць сведчанне з Супрасльскага летапісу, у якім слова **горе** ўзмацняецца выклічнікам **оу**.

У пабуджальных сказах, якія выражаюць просьбу, загад, пажаданне, параду, заклік да сумеснага дзеяння, асноўным граматычным паказчыкам выступаюць дзеясловы загаднага ладу, прадстаўленыя простымі формамі – дзеясловамі 2-й асобы адзіночнага і множнага ліку, дзеясловамі 1-й асобы множнага ліку – і складанымі – спалучэннем часціцы **да** і сэнсавага дзеяслова цяперашняга часу (для 3-й асобы): **възми свое ї иди, хощоу же ї семоу послѣднемоу дати** 47; **начатъ їс проповѣдати и глати, покаите сѧ, приближи бо сѧ црстѡ нбсное** 13; **потѡм же гла оучнкѡм, идѣмь** 217б; **да творѧть вамъ члци и вы творите имь такожде** 4; **да събоудет сѧ речное ѡт га прркомь** 10б. Пабуджальнае адценне набывалі безасабовыя сказы, у якіх утрымлівалася забарона якога-небудзь дзеяння: **не достоит ти имѣти еѧ** 35; **и не достоит^s ти в^sзѧти одра своего** 201б.

Найбольш яскравымі паказчыкамі пытальных сказаў у Слуцкім Евангеллі з'яўляюцца: часціца **ли**: **речеж**ˢ **емоу петръ, гн̃и, къ нам**ˢ **ли прїтчю сїю гл̃еши, или къ всѣм** 157б; **не авие ли истръгнеть его въ дн̃ь соуботныи** 161б; пытальныя займеннікі: **гл̃а имь, что зде стоите весь дн̃ь празьдни** 47; **и въпросиша его оучн̃ици его, гл̃юще, рав**ˢ**ви, кто съгрѣши, сьи ли, или родителѣ его** 213; **въпроси его, каа ес първаѧ въсѣх заповѣдїи** 104б; прыслоўі тыпу **где, колико** і пад.: **и въпроси их, колико имате хлѣбъ** 93; **въпрошааше ѡт них, где хс̃ раждает сѧ** 9б. Як правіла, часціца **ли** мела месца ў тых сказах, якія патрабавалі агульнага станоўчага або адмоўнага адказу (так – не); калі ж пытанне ставілася да асобнага члена сказа і патрабаваўся канкрэтны адказ, ужываліся пытальныя займеннікі і прыслоўі. У пытальных сказах з дадатковым адценнем сумнення ці здзіўлення магла выкарыстоўвацца таксама часціца **еда**: **еда могоуть сн̃ве брач**ˢ**нїи плакати** 23; **еда азъ есмь рав**ˢ**ви** 62. Такія пытальныя сказы патрабавалі адмоўнага адказу, аб гэтым сведчыць прыклад з аналізуемага тэксту: **еда и ты оучн̃къ еси чл̃ка сего, гл̃а ѡнь, нѣсмь** 232.

**Канструкцыі з другім вінавальным склонам** – асаблівасць царкоўнаславянскай мовы. У іх склад уваходзіў назоўнік або іншая субстантываваная часціна мовы, што ўказвала на змест дзеяння і ў вінавальным склоне звязвалася з другой іменнай часцінай мовы, на якую распаўсюджвалася гэта дзеянне. Канструкцыі з другім вінавальным мелі месца пры пераходных дзеясловах. Пры дзеясловах са значэннем 'рабіць каго кім' прамое дапаўненне звычайна выражалася займеннікам, а другі вінавальны – назоўнікам: **рече има грѧдѣта по мнѣ и сътворю вы ловца чл̃ком** 13; **он**ˢ **же реч емоу, чл̃че, кто мѧ постави соудїю, или дѣлителѧ над вами** 156. Пры дзеясловах зроку, дзеясловах адчування прамое дапаўненне прадстаўлена, як правіла, назоўнікам, другі вінавальны – дзеепрыметнікам: **видѣ тещоу, его лежащоу ї огнем жьгомоу** 21; **ѡбрѧщета ослѧ привѧзано** 48б; **видѣша огнь лежащь, и рыбоу на нем лежащоу и хлѣбь** 238б.

**Спосабы выражэння галоўных членаў сказа.** У рэалізацыі сродкаў граматычнага выражэння галоўных і даданых членаў сказа ў мове Слуцкага Евангелля праяўляецца прынцып агульнаславянскай сінтаксічнай універсальнасці.

Дзейнік – галоўны член сказа, граматычна незалежны ад іншых членаў сказа, выражаны назоўным склонам:

*назоўнікаў*: **агг̃ли пристоупиша и слоужаахоу емоу** 12б; *займеннікаў*: **кто есть ѡт вас чл̃векъ** 19; **прикъсноу сѧ мнѣ нѣкто** 144б; **да вси вѣроу имоут емоу** 192; **ѡн же реч имь** 199б;

субстантываваных парадкавых і колькасных лічэбнікаў: **пръвыи ожень сѧ, оумрѣт** 52б; **бѣстаж^s праведна ѡба прѣд бгѡм^s** 121б; субстантываваных поўных прыметнікаў: **слѣпїи прозираютъ, хромїи ходѧтъ, прокаженїи очищают сѧ, и глоусїи слышатъ, и мрътвїи въстаютъ, и нищїи блгвѣстоуют^s** 27; субстантываваных поўных дзеепрыметнікаў залежнага і незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу: **не требоуютъ здравїи врача, нъ болѧщїи** 23; **блжени плачоущеи, ꙗко тїи оутѣшат сѧ** 13б; а таксама колькасна-іменнымі спалучэннямі ў назоўным склоне: **по немь идоста два слѣпца** 24; **сѧдета сїа оба сна моѧ** 47б; **Члка два в^sнидоста въ црковь помолити сѧ, единь фарисѣи, и дроугыи мытарь** 169б; спалучэннем лічэбніка **единъ** або займенніка **нѣкыи** з назоўнікамі, займеннікамі ў форме роднага склону з прыназоўнікам **ѡтъ**: **въпроси единъ ѡт нихь** 53; **бѣхоу же нѣцїи ѡт книжникъ тоу сѣдѧще** 79. Трэба адзначыць, што наяўнасць дзейніка, выражанага асабовым займеннікам, у аналізуемым тэксце назіраецца не заўсёды (**и въслѣд^s тебе идохѡм^s** 46; **что хощеши да сътворю тебѣ, слѣпыи же гла емоу, ꙋчтлю, да прозрю, їсъ же реч емоу, иди, вѣра твоѧ спсе тѧ** 101), паколькі асоба выражалася формай дзеяслова, які выконваў функцыю выказніка. Аднак асабовыя займеннікі абавязковыя тады, “калі гаворачаму (аўтару) было неабходна асабліва падкрэсліць дзейную асобу, г. зн. тады, калі, акрамя выражэння граматычнага значэння (указання на асобу), займеннік надзяляўся яшчэ і пэўнай сэнсавай нагрузкай” [232, 396]: **азъ оубо кр щаю вы водою въ покаанїе** 11б; **выж^s есте свѣдтеле сим^s** 187.

Просты дзеяслоўны выказнік прадстаўлены дзеясловамі абвеснага ладу

цяперашняга часу: **ни азъ глю вам^s, коею властїю сїа творю** (1-я ас. адз. л.) 174; **шедша възвѣстита їоаннови** (2-я ас. парны л.) 27; **боим^s сѧ народа въси бо имоуть їѡан^sна ꙗко пророка** 50 (1-я ас. мн. л., 3-я ас. мн. л.);

прошлага часу 1) аорыста: **двдъ же цръ роди соломона, ѡт оуриевы. соломон^s же роди ровоама** (3-я ас. адз. л.) 8б; 2) імперфекта: **хождаше їсъ въ соуботы сквозѣ сѣанїа** (3-я ас. адз. л.) 135; **болѧща искаховѣ тебе** (1-я ас. парны л.) 127б; 3) перфекта: **мнѣ их далъ еси, и слово твое съхраниша** (2-я ас. адз. л.) 230; **ославѣютъ на пꙋти, мнози бо ѡт них из^sдалече пришли соуть** (3-я ас. мн. л.) 92б; 4) плюсквамперфекта: **прїстоупи къ їсви цѣловати его, се бо бѣ знаменїе даль им** (3-я ас. адз. л.) 180б; **бѣахꙋ сѣдѧщеи фарисѣи, и законноучителїе. иже бѣахоу пришли ѡт всѧкоѧ веси галилеискыѧ и їоудеискыа. и ѡт їерслмьскыа** (3-я ас. мн. л.) 133б;

будучага часу: **помолю сѧ тамо** (1-я ас. адз. л.) 62б; **наречеши имѧ емоу їѡан^s^нь** (2-я ас. адз. л.) 121б; **соудїа тебе прѣдасть слоузѣ и в^s^ темницоу въвръжет^s^ тѧ** (3-я ас. адз. л.) 15;

загаднага ладу: **вънемьлите, и блюдѣте сѧ ѿ кваса фарисѣиска и сад^s^доукѣиска** (2-я ас. мн. л.) 39б; **да не прѣдасть тебе съперник соудии** (3-я ас. адз. л.) 15; **да творѧть вамъ ч҃лци и вы творите имь такожде** (3-я ас. мн. л.) 4;

умоўнага ладу: **сьи аще бы былъ пророкъ. вѣдѣл^s^ бы кто и какова жена прїкасает сѧ емь** 140б (3-я ас. адз. л.) 198б; **аще мѧ бысте знали, и ѡ҃ца моего знали бысте** (2-я ас. мн. л.) 225.

Састаўныя іменныя выказнікі ўтрымлівалі ў сабе дзеяслоў **быти** ў якасці незнамянальнай звязкі. У якасці іменнай часткі выказніка такога тыпу выступалі

назоўнікі: **азъ ч҃лкъ есмь** 20б; **в^s^си же вы братїа есте** 53б;

кароткія прыметнікі: **пѡдобенъ ес ч҃лкоу създав^s^шоу храминѹ на земли безъ оснѡванїа** 138; **Ч҃лкъ же нѣкыи бѣ богат^s^** 166б. Спарадычна фіксуюцца ў якасці састаўнога іменнага выказніка поўныя прыметнікі: **и се соут^s^ послѣднїи, иже боудоуть пръвїи, и соуть пръвї иже бѹдоуть послѣд^s^ни** 160б;

займеннікі: **и вса моѧ твоѧ соут^s^** 165;

лічэбнікі: **четыри соуть ев҃глїа** 1; **Четыри оубо соут ев҃листи** 4б;

кароткія дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу: **Тъгда ї҃ѵ възведень быс д҃хомь въ поусьтыню** 12; **петръж^s^ и соущаа съ ним^s^. бѣахоу ѿтѧгчени сномъ** 147.

У тэксце зафіксаваны састаўныя іменныя выказнікі без дзеяслоўнай звязкі: **д҃хъ бо бъдръ, пьлот^s^ же немощ^s^на** 63; **никтож^s^ б҃лгь, тъкмо едїнъ б҃ъ** 98б; **всѣх же родовъ, ѿ авраама до д҃вда родове четыри на десѧте** 9. Як правіла, іменная частка выказніка ўжывалася ў форме назоўнага склону (назоўны прэдыкатыўны). Наяўнасць або адсутнасць звязкі, выражанай дзеясловам **быти** ў форме цяперашняга часу, у складзе састаўнога іменнага выказніка Г.А. Хабургаеў абгрунтоўвае значэннем цяперашняга часу. Звязка можа адсутнічаць, калі выказнік указвае на пазачасавае дзеянне ці стан, уласцівы для суб'екта пастаянна, у выпадку рэалізацыі выказнікам дзеяння ці стану, што супадаюць з момантам гутаркі, дзеяслоўная звязка з'яўляецца абавязковай [232, 398].

**Каардынацыя дзейніка і выказніка.** У большасці выпадкаў сказы ў Слуцкім Евангеллі вызначаюцца адпаведнай скаардынаванасцю ў ліку і родзе ў межах прэдыкатыўнага цэнтра, дзе дзейнік у адзіночным, парным або множным ліку патрабуе адпаведнага ліку ад выказніка, а пэўныя родавыя формы суб'екта вызначаюць род прэдыката: **въниде въ їерслимь**

**і҃съ въ цр҃квь, и съглѧдавь въсѧ** 101б; **ꙗкоже и сн҃ъ свої єдинородныи далъ єсть** 197; **отроковица нѣс оумрьла** 87; **слышаахоу книжꙿници и архиїєрѣє, и їскахоу како єго погоубѧть, боꙗхоу бо сѧ єго** 102; **възꙿвратиша сѧ пастырїє, славѧще и хвалѧще ба҃** 126. Дзейнік са значэннем парнасці каардынуецца з выказнікам, як правіла, у парным ліку: **по немь идоста два слѣпца** 24; **чл҃ка два вꙿнидоста въ цр҃ковь помолити сѧ** 169б.

У выпадку выражэння займеннікам ніякага роду дзейніка і іменнай часткі састаўнога іменнага выказніка дзеяслоўная звязка ў апошнім прадстаўлена дзеясловам **быти** ў форме множнага ліку: **и всѧ моѧ твоѧ соутꙿ** 165.

Адметнай рысай дапасавання царкоўнаславянскай мовы з'яўлялася дапасаваннне па сэнсу з рэальным значэннем, а не з граматычнай формай назоўніка. Яно прэзентуецца ў Слуцкім Евангеллі прыкладамі, у якіх дзейнікі, прадстаўленыя зборнымі назоўнікамі, што абазначалі сукупнасць асоб, каардынаваліся з выказнікамі ў множным ліку: **и сънидоша сѧ пакы нарѡд къ немоу** 98. У прыведзеным выразе зборны назоўнік **народъ** характарызуецца формай адзіночнага ліку, аднак дзеяслоў, ужыты ў форме аорыста множнага ліку, паказвае на семантыку назоўніка 'людзі'. Прыклад **град изыде въ срѣтенїє і҃сови, и видѣвꙿше єго, молиша** 22 ілюструе пры дзейніку, выражаным назоўнікам **градъ** са значэннем 'сукупнасць асоб, жыхароў' наяўнасць выказнікаў, выражаных дзеясловамі адзіночнага і множнага ліку, пры гэтым першы адпавядае граматычнай форме назоўніка, другі падкрэслівае яго рэальнае значэнне.

**Спосабы выражэння даданых членаў сказа.** Даданыя члены сказа ў Слуцкім Евангеллі служаць для выражэння непрэдыкатыўных адносін – атрыбутыўных, аб'ектных і адвербіяльных.

У складзе азначэнняў вылучаюцца дапасаваныя і недапасаваныя азначэнні. У адносінах да азначаемага слова дапасаванае азначэнне звычайна займае кантактнае постпазіцыйнае становішча.

Дапасаваныя азначэнні ў Слуцкім Евангеллі прадстаўлены якаснымі і адноснымі поўнымі і кароткімі прыметнікамі, прыналежнымі прыметнікамі: **не имѣаше глоубины земныѧ** 82б; **ꙗко зрьно горжшично, еже егда въсѣано боудеть на земли** 84; **стадо свино велїє пасомѡ** 85; **на моѷсеовѣ сѣдалищи, сѣдоша книжꙿници и фарисеѣ** 53б; **тъщажꙿ симонова лежааше огнем жегома** 77б; прыналежнымі, указальнымі, азначальнымі, няпэўнымі займеннікамі: **рече оуч҃нкѡмꙿ своимꙿ** 81; **възми одръ твои** 201б; **такожде же и левитъ бывь на томь мѣсте** 151; **чл҃къ нѣкыи съхождаше ѡт їерслма въ їєрихѡн** 151; **хлѣбь нашь насоущныи, подаван нам на всѧкъ дн҃ь** 152; парадкавымі

лічэбнікамі: **въ третїи днь въскреснеть** 47б; **бѣ же час ꙗко десмтыи** 194; поўнымі і кароткімі дзеепрыметнікамі залежнага і незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу: **сказа вамь бѣжати ѡт грмдоущаго гнѣва** 11б; **они же даша емоу рыбы печены часть и ѡт бчелъ сѡт** 186б–187.

Недапасаваныя азначэнні выражаны ўскоснымі склонамі назоўнікаў без прыназоўнікаў і з прыназоўнікамі: **їсус же быв^s^шоу въ виѳанїи, въ домоу симона прокаженаго** 61; **бѣ же андрѣа брат сїмона петра** 194; **блсвенъ плѡд чрѣва твоего** 123. У ролі недапасаваных азначэнняў актыўна выкарыстоўваюцца асабовыя займеннікі 3-й асобы ў форме роднага склону без прыназоўнікаў: **Прїидошм оубо братїа и мти его** 82; **възыгра см младенец въ чрѣвѣ ем** 123.

У якасці дапаўненняў, прызначаных называць асобу, прадмет ці з'яву, у дачыненні да якіх ажыццяўляецца дзеянне або праяўляецца прыкмета, у тэксце адзначаны ва ўскосных склонах

назоўнікі: **покаите см, и вѣроуите въ евглїе** 77; **И обращь см къ оучнкѡм^s^ рече** 150; субстантываваныя прыметнікі: **оубо бысте осоуждали неповин^s^ных** 29; **тъи въста ѡт мрътвых** 88; **ꙗко оутаил есї сїм ѡт прѣмдрыхъ и разоумных** 150; займеннікі: **чтѡ глеши ѡ тебѣ самѡм** 193; **възлюбїши ближнмго своего ꙗко сам себе** 104б; **оставї ю огнь** 78; субстантываваныя парадкавыя лічэбнікі: **Сътвори волю ѡчю, глаша емоу пръвыи** 50б; субстантываваныя поўныя дзеепрыметнікі залежнага і незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу: **ѡтвѣт^s^ дамы пославшїим^s^ ны** 193; **слежаше мнѡж^s^ство слѣпых. хромыхь, соухих, чающїих движенїа водѣ** 201; колькасна-іменныя спалучэнні: **ниж^s^ помните, пмть хлѣбы пмтим^s^ тысоущам** 39б; **обѣ рыбѣ раздѣли въсѣм^s^** 89б.

Дапаўненні, якія залежаць ад дзеяслова-выказніка, адносяцца да прамых і ўскосных. Прамыя дапаўненні выражаюцца пералічанымі часцінамі мовы (і іх спалучэннямі) у вінавальным склоне без прыназоўнікаў: **прѣшедъ мало ѡттоудоу, ȣзрѣ їакова зеведеова, и їоан^s^на брата его** 77; **обмза строупы его** 151; **егда оузрите облакь въсходмщь ѡт запада** 158б, а таксама ў родным склоне, калі пры дзеяслове-выказніку ёсць адмоўе **не** і калі дзеянне ахоплівае не ўвесь прадмет, а толькі яго частку: **видиши соучець, иже есть въ ѡчеси брата твоего. бръвна же еже ес въ очеси твоем^s^ не чюеши** 137б; **оучнци бо его ѡтшли бѣхж въ град^s^ да брашна коупмт^s^** 198б.

Ускосныя дапаўненні прадстаўлены пералічанымі вышэй часцінамі мовы ў родным склоне: **спсеть люди своа ѡт грѣх ихь** 9; **ѡ въскршенїи же мрътвых нѣсте ли чьли** 59б; давальным склоне: **прїиде бо к вам^s^**

**їωан крстль поутемь правед$^{s}$ным** 50б; **пришедши въ нарωдѣ съзади, прикъсноу сѧ ризѣ его** 86; **первомꙋ оубо пребиша голени, и дроугомꙋ распѧтомоу с ними**$^{s}$ 235б; вінавальным склоне з прыназоўнікам: **ї҃съ же рече им, за невѣрьствїе ваше, аминь бо г҃лю вам**$^{s}$ 42; **възложивши на ню роуце** 159б; творным склоне: **иже насади виноград, и оплътωм его огради** 50б; **бїахѫ его по главѣ тростїю** 112б; месным склоне: **ω с҃нѣ вдовичи** 11б; **рече имь въ притчахъ г҃лѧ** 51.

Сярод акалічнасцей, адзначаных у разглядаемым тэксце, вылучаюцца акалічнасці месца, прадстаўленыя: назоўнікамі ў месным склоне з прыназоўнікамі: **и оустръми сѧ стадо по брѣгоу въ море** 85б; **быс глад крѣпокъ на странѣ** 164; назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікамі: **въсадив**$^{s}$ **же его на свои скотъ, приведе его в**$^{s}$ **гостин**$^{s}$**ницоу** 151; прыслоўямі месца: **ставши при ногоу егω съзади** 140б; **м҃ти твоѧ и братїѧ твоѧ. вънѣ стоѧть** 142б;

акалічнасці часу, выражаныя: назоўнікамі ў вінавальным склоне з прыназоўнікамі **въ, на: Въ то врѣмѧ иде ї҃у въ соуботы сквозѣ сѣанїа** 28б; **ωтиде на лѣта многа** 174б; **възложїти нань роуцѣ въ тои час** 175; прыслоўямі часу: **г҃ла емоу петръ, г҃и, по что не могоу н҃нѣ по тобѣ ити** 224б; **наоутрїа изъшед**$^{s}$ 151;

акалічнасці спосабу дзеяння, выражаныя назоўнікамі ў творным склоне без прыназоўнікаў: **оучаше их притчами много** 82б; **камениемь побиваа посланыѩ къ немоу** 161; прыслоўямі спосабу дзеяння: **ѩко моудре сътвори** 165б; **наидет на вы вънезаапꙋ д҃нь тъи** 178;

акалічнасці меры і ступені, прадстаўленыя канструкцыямі, якія складаюцца з колькасных лічэбнікаў і назоўнікаў у родным склоне множнага ліку: **дасть пѧт**$^{s}$ **талантъ, овомоу же два, ωвомоуж**$^{s}$ **единъ** 59; прыслоўямі меры і ступені: **они же рѣша, сед**$^{s}$**мь, и мало рыбиць** 39; **и аще покает сѧ, остави емоу, и аще седмищи на д҃нь съгрѣшить к тобѣ, и седмищи на д҃нь обратит сѧ, г҃лѧ, каю сѧ, остави емꙋ** 167б.

**Канструкцыі з “давальным самастойным”.** Як і ў большасці царкоўнаславянскіх тэкстаў, у Слуцкім Евангеллі шырока прадстаўлены канструкцыі з “давальным самастойным”, у склад якога ўваходзіў назоўнік (займеннік) у форме давальнага склону і дапасаваны да яго дзеепрыметнік. М.Л. Рамнёва называе гэту канструкцыю “сінтаксічным царкоўнаславянізмам” [205, 100]. Лічыцца, што “давальны самастойны” сваімі вытокамі ўзыходзіць да роднага самастойнага – тыповай рысы сінтаксісу грэчаскай мовы. Назіранні вучоных над перакладнымі тэкстамі і грэчаскімі арыгіналамі паказалі, што “грэчаскі родны самастойны заўсёды перакладаўся давальным самастойным, але не заўсёды, нават у самых ранніх творах, давальнаму самастойнаму адпавядае ў грэчаскай мове

родны самастойны” [205, 100]. Аднак самым яркім адрозненнем царкоўнаславянскага “давальнага самастойнага” з’яўляецца тое, што ён сапраўды выступаў як незалежная канструкцыя: у якасці самастойнага сказа, галоўнага сказа складаназалежнага сказа [205, 101]. Гэты зварот выражаў адносна закончаную думку і паказваў на акалічнасць ажыццяўлення дзеяння – час дзеяння ці яго прычыну: **не имоущоу же емоу въздати, повелѣ его гь҃ его продати и женоу его, и чада** 44; **исходѧщоу емоу ѡт ерихона, по нем҃ иде народ многь** 48; **Бывьшоу же часоу шестомоу, тма быс по всеи земли, до часа девѧтаго, и въ час девѧтыи, възпи іс҃ъ гласѡм велием** 113.

**Сказы з простай мовай** складаюць адметнасць сінтаксічнай арганізацыі тэксту Слуцкага Евангелля. Простая мова звычайна ўводзіцца ў кантэкст пры дапамозе слоў аўтара, якія паказваюць, каму яна належыць, або паведамляюць пра абставіны, пры якіх вядзецца размова. Як правіла, словы аўтара ўтрымліваюць дзеясловы маўлення **рещи** і **глаголати**: **тъгда гл҃а расслабленомоу, въстани, възми свои одръ, ї иди въ домъ твои** 22б; **іс҃ъ же реч емоу, иди, вѣра твоѧ спс҃е тѧ** 209.

**Спосабы выражэння адмаўлення.** Да асноўных спосабаў выражэння адмаўлення ў тэксце Слуцкага Евангелля адносяцца:

– наяўнасць адмоўнай часціцы **не**, пераважна ў пазіцыі перад дзеясловам-выказнікам: **ꙗко оуже трї дни присѣдѧт҃ мнѣ, и не имоуть чьсо ꙗсти** 92б; **и рече еи, не плачи. и пристоупль късноу сѧ въ ѡдръ** 139;

– спалучэнне часціцы **не** з асабовымі формамі дзеяслова **быти** ў цяперашнім часе. Пры гэтым два галосныя гукі, якія аказваюцца побач, зліваюцца ў адзін гук, напрыклад, **не есмь – нѣсмь, не еси – нѣси, не есть – нѣсть, несь, не есте – нѣсте: исповѣда, ꙗко нѣсмь азъ хс҃** 193; **аще ты нѣси хс҃, ни илїа, ни прорк҃ъ** 193; **и гл҃ахоу, не сьи ли есть іс҃ъ сн҃ъ їѡсифовь** 205б; **ѡт плоти же нѣсть пльзы никѡꙗже** 206б; **нъ вы не вѣроуете. нѣсте бо ѡт овець моих, ꙗкож҃ рѣх вам** 216б. Адмоўная часціца **не** ўжыта перад дзеепрыметнікам у складзе перфекта, калі ўвага акцэнтавалася на выражаным ім дзеянні: **чтѡ есмь еще не докончалъ** 46; **рече емоу, единаго еси не докон҃чалъ, идї елика имаши продаждь, и даждь нищим** 99;

– выкарыстанне адмоўных займеннікаў і прыслоўяў тыпу **никтоже, ничьсоже, николиже** і пад.: **никтож҃ свѣтилника вжег** 142; **никѡмоуж҃ възвѣстиша въ тыи дни ничьсож҃ ѡт тѣх ꙗже видѣша** 147б; **никтѡж҃ възложь роукоу свою на рало** 149; **никогѡж҃ на поути цѣлꙋите** 149; **и нїкомоуж работахѡм николиже. како ты гл҃еши** 211б.

Пры наяўнасці ў канструкцыях падобных слоў з адмоўным значэннем пры выказніку адмоўе **не** не фіксуецца;

– выкарыстанне часціцы **ни**, якая ўзмацняла адмаўленне, выражанае спалучэннем часціцы **не** з дзеясловам. У радзе аднародных членаў сказа, якія былі ўжыты пасля дзеяслова з адмоўем **не**, часціца **ни** зафіксавана, як правіла, перад другім аднародным членам: **имже нѣс съкровища, ни житница. и бъ питаеть ихъ** 156б; **не зови дроугъ своих, ни братїа твоа, ни рожденїа твоего, ни съсѣды богаты** 161б–162.

## Слоўнікавы склад Слуцкага Евангелля

Аснову слоўнікавага саставу Слуцкага Евангелля складае лексіка індаеўрапейскага і праславянскага (агульнаславянскага) паходжання: **бити, богъ, бранити, брань, братъ, брегъ, бѣжати, вервь, вино, вода, волъ, вѣкъ, вѣра, вѣрныи, вѣровати, вѣтръ, година, гѡдъ, голоубь, гора, горети, гость, грѣхъ, гоумно, дати, день, добрыи, домъ, единъ, езеро, жена, жити, звати, земла, зима, злато, зръно, има, ити, класъ, колѣно, копати, кровь, лактъ, лоно, любити, лѣто, масло, младенецъ, месацъ, море, моудръ, моужь, небо, новыи, нога, нощь, огонь, око, орелъ, ѡтець, писати, пити, плакати, помнити, пшеница, радость, рало, родити, родъ, роука, свѣкры, сестра, слѣпъ, спати, страхъ, соухъ, съмьрть, сынъ, сръпъ, тѣлець, тесть, тма, трава, трость, оубити, оубогъ, оуста, оухо, оучити, чадо, часъ, человѣкъ, чрѣво, чрѣсла, чьсть, ꙗзва, ꙗзыкъ** і інш.

Вялікая колькасць слоў праславянскага паходжання ўжыта ў тэксце ў царкоўнаславянскім фанетыка-марфалагічным абліччы, на што ўказваюць

– няпоўнагалоссе: **владыка, власть, вранъ, глава, гладъ, златица, сребреникъ, храмина, чрѣсла**;

– пачатковыя спалучэнні **ра, ла**: **равныи, разоумныи, расти, по ланитама**;

– перавага напісанняў **ръ, лъ, рь, ль** у сярэдзіне слова паміж зычнымі ў спалучэннях **trъt*, **trьt*, **tlъt*, **tlьt*: **влъна, връхъ, длъжникъ, трьнїа**;

– перадача спалучэнняў **tj*, **kt*, **gt* праз літару **щ**: **ѡбращете, ѿвѣщати, просвѣщати; рещи; мощи**, спалучэння **dj* – праз **жд**: **заблоуждьшее, осоуждենїе, рожденїе, стражда, тоуждїи, хожденїи**;

– перадача пачатковага спалучэння **je* праз **е**: **единородныи, единыи на десате**;

– пачатковае **а**: **агнецъ, азъ**;

– ужыванне літары д пасля канцавога [з] прыставак перад наступным плаўным [р]: раздроушеніе, раздрѣшено;

– суфіксы -иј-, -знь, -аніі(е), -ıаніі(е), -еніі(е), -ыни, -тель: распѧтіе, неприазнь, въстаніе, дѣланіе, достоıаніе, покаıаніе, знаменіе, искоушеніе, милостыни, рабыни, дѣлатель, тѧжатель;

– складаныя словы: богоносецъ, дльготрьпѣніе, дѣтотворити, жестосрьдіе, законооучитель, лихоимство, лъжесвѣдѣтельствовати, любодѣıаніе, многоцѣнныи, стоудодѣıаніе, тридесѧтолѣтенъ, четвероличныи.

Сярод запазычанняў перавагу маюць лексемы грэчаскага паходжання: аггелъ, акрида, алавастръ, алекторъ, аминь, анепьсеи, апостолъ, ароматъ, ар͆хаггелъ, ар͆хиепископъ, ар͆хіерѣи, архисѵнагогъ, вѵс͆сонь, власфиміа, геен͆на, діаволъ, діаконъ, динаріи, драхма, евангеліе, елеи, ел͆ліньскіи, епископъ, еретикъ, іерархъ, іерѣи, іматисма, катапетазма, кѵминь, легеонъ, лентионъ, литоргіѧ, литра, ман͆на, мѵро, ѡктонхъ, порфира, псалъмъ, синаксарь, скорпіи, стихъ, талантъ, хероувимъ, хитонь і інш.

Лацінізмы прадстаўлены словамі априль, генварь, іоунь, іоуль, коустодиѧ, ноемвріи, ѡктѧврь, ѡлтарь, ѡцетъ, прѣторъ, спекоулаторъ, февроуарь і інш., цюркізмамі з'яўляюцца словы бисеръ, ковчегъ, ковчежецъ, книгочіи і інш., габраізмамі – месіа, пасха, рав͆ви, сатана і інш.

Выкарыстаныя ў Слуцкім Евангеллі лексемы як намінацыі асоб, рэалій, прадметаў, дзеянняў і паняццяў навакольнай рэчаіснасці ў залежнасці ад наяўнасці агульнай семантычнай прыкметы, што з'яўляецца абавязковай для ўсіх слоў, адносяцца да наступных груп: 1 – лексіка са значэннем прадметнасці, 2 – лексіка са значэннем прыкметы, 3 – лексіка са значэннем дзеяння. Першая прадстаўлена назвамі, выражанымі галоўным чынам назоўнікамі і субстантываванымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, другая – прыметнікамі і прыслоўямі, трэцяя – дзеясловамі.

**Лексіка са значэннем прадметнасці.** У групе прадметнай, або дэнататыўнай, лексікі ў колькасных адносінах дамінуюць асабовыя найменні, сярод якіх вылучаюцца

агульныя назвы асоб: жена 'жанчына', моужь 'мужчына', человѣкъ: жена же оубоıав͆ши сѧ и трепещоущи ... припаде къ немоу 86б; и всѧкь слышаи словеса моѧ си и не творѧ их, оуподобит сѧ моужоу оуродивоу 20; и се чл҃къ нѣкы" имыи водныи троудъ бѣ прѣд нимь 161. Для абазначэння сукупнасці людзей выкарыстаны лексемы людіе,

**народъ і ꙗзыкъ: сїи людїє оустнами мѧ чтꙋть** 91; **поємь єго ѡт народа єдинаго, въложи пръсты своѧ въ оуши єго** 92б; **и на имѧ єго ꙗзыци оуповають** 29б;

назвы асоб па роднасці і сваяцтву: **братъ**, **варь** ‘сын’, **дщи** ‘дачка’, **жена** ‘жонка’, **мати**, **моужь** ‘муж’, **невѣста** ‘нявестка’, **ѡтець**, **пръвѣнецъ** ‘першы сын’, **родитель**, **рожденїє** ‘радня’, **свѣкры**, **сестра**, **сынъ**, **тещa**, **ꙋець** ‘пляменнік’, **южика** ‘сваяк, сваячка’ і інш.: **ꙋзрѣ їакова зеведеова, и їоан$^{s}$на брата єго** 77; **блженъ еси симонъ варь їона** 40; **аще жена поустить моужа** 98б; **прїидѡх$^{s}$ бо разлоучїти чл҃ка на ѿца своєг, и дщерь на мт҃рь свою, и невѣстоу на свекьровъ свою** 26б; **дондеж$^{s}$ роди сн҃ъ свои пръвѣнецъ, и нарече имѧ ємоу їс҃** 9б; **не зови дроугъ своих, ни братїа твоѧ, ни рожденїа твоего** 161б–162; **не възненавидить ѿца своего, и мт҃ре, и женоу, и чѧд, и братїю, и сестръ** 162б; **ꙗко никтож$^{s}$ єсть иже ѡставить дѡм, или родителѧ** ... **црствїа ради бж҃їꙗ** 170б–171; **пришед їс҃ въ домь петровъ, видѣ тещоу, єго лежащоу** 21; **сеѧ оубо саломїа сн҃ъ бѣ їоан сьи. обрѣтает сѧ оубо гъ, ꙋець ємоу сын** 189; **и се єлїсавеѳ южика твоѧ** 123; **гл҃а єдинь ѡт рабь ар$^{s}$хїерѣовѣх, южика сьи** 232б;

назвы асоб па ўзросту: **дѣвица** ‘дзяўчына’, **дѣти**, **дѣтищь** ‘дзіця’, **младенець** ‘немаўля’, **отроковица** ‘дзяўчынка-падлетак’, **отрокъ** ‘хлопчык-падлетак’, **отрочищь** ‘хлопчык, дзіця’, **отрочѧ** ‘дзіця’, **чадо** ‘дзіця’, **юноша**: **двце, тебѣ гл҃ю, въстани** 87; **Тъгда приведоша къ немоу дѣти, да роуцѣ възложить на нѧ** 45б; **пѡдобень єсть дѣтищем$^{s}$ сѣдѧщїим$^{s}$ на тръжищих** 27б; **приношахꙋ къ їсꙋ младенца** 170; **отроковица нѣс оумръла, нъ спить** 87; **И въздвиже рогь спсенїа нам въ домоу двдѣ отрока своего** 124б; **єс отрочищь здѣ єдїнь иже имат пѧт хлѣбь ꙗчненъ и двѣ рыбѣ** 204; **придоша обрѣзати отрочѧ, и нарицаахоу є именем$^{s}$ ѿца єго захарїа** 124; **ꙗко аще комоу брат$^{s}$ оумрет, и оставит женоу, а чад не оставит** 104; **слышав$^{s}$ же юноша слово, ѿтиде скръбѧ** 40;

назвы асоб па роду заняткаў: **ар$^{s}$хитриклїнъ** ‘распарадчык бяседы’, **винарь** ‘той, хто апрацоўвае вінаград’, **воинъ**, **дверникъ** ‘брамнік’, **дѣлатель** ‘той, хто апрацоўвае зямлю’, **жатель** ‘жнец’, **наемникь** ‘наёмны работнік’, **пастырь** ‘пастух’, **приставникъ** ‘той, хто кіруе’, **пѣнѧжьникъ** ‘той, хто мяняе грошы’, **разъбоиникъ**, **рыбарь** ‘рыбак’, **сопецъ** ‘музыка, які грае на трубе, жалейцы’, **спекоулаторъ** ‘кат’, **сътникъ** ‘кіраўнік атрада, у які ўваходзіла сто воінаў’, **тать** ‘злодзей, грабежнік’, **тысоущникъ** ‘кіраўнік атрада, у які ўваходзіла тысяча воінаў’, **тѧжатель** ‘работнік’ і інш.: **почръпѣте нн҃ѣ и прїнесѣте ар$^{s}$хитриклїнови** 195; **рече же къ винареви, се третїє лѣто ѿнелѣже прихождоу ища плода на**

смоковници сьи 159; тек[s] же единъ ѡт воинь и наплънивь гоубж оц[s]та 113б; в[s]ходми двер[s]ми, пастырь ес овцам, семѹ дверникъ ѡтвръзаеть 215; о нанмтых дѣлателех 2б; рекоу жателемь, съберѣте пръвіе плѣвелы 33б; наемникь бѣжит ꙗко наемникь ес, и нерадить ѡ овцах 215б; гл҃а гсднъ винограда къ приставникоу своемоу, призови дѣлателѣ и даждь имь мьздж начень ѡт послѣдних, до пръвыхь 47; обрѣте въ црк҃ви продающаа овца и волы и голоубы и пѣнмжьникы сѣдмща 195б; и съ німь распмша два разъбоиника 113; виде два брата, симона нарицаемаго петра, и андрѣа брата его, въмѣтающа мрежоу въ море, бѣста бо рыбарѣ 13; и прішед іс҃ въ дом кнмжь, и видѣ сопцм и народ млъвмщь 23б; и абіе пославь цр҃ь спекоулатора, повелѣ принести главу его 88б; ѡтвѣщавъ сътникъ, рече емоу, гн҃и, нѣсмь достоинъ да пѡд кровъ мои вънидеши 20б; тать не приходит, нъ да оукрадет и оубиеть и погоубит 215б; егда їродъ рождествоу своемѹ вечерю твормше, кн҃埋земъ своим и тысоущнікѡм и старѣишинам[s] галілѣіскам[s] 88б; пріидет и погоубит[s] тмжателм, и дас виноград инѣм 103б;

назвы асоб па сацыяльнаму становішчу: владыка ‘правіцель’, господинъ, господь ‘пан, гаспадар’, кесарь ‘цар’, кнмзь, рабъ ‘нявольнік, слуга’, рабыни ‘нявольніца, служанка’, старѣишина, царь, челмдь і інш.: ведоми къ цр҃емь и влдкамь їмени моего ради 177; никтоже можеть двѣма господинома работати, либо єдінаго възлюбить, а дрѹгаго възненавидить 18; никыиж[s] бо рабъ может[s] двѣма господ[s]ма работати, либо единаго възненавидить, а дрѹгаго възлюбить 166; достоит[s] ли нам кесареви дань даати 175; вечерю твормше, кн҃земъ своим и тысоущнікѡм и старѣишинам 88б; и соущж петрови въ дворѣ низоу, пріиде едина ѡт рабынь архіерѣовѣх 111; печалень быс царь, клмтвы же ради и за възлежащіихъ с нимъ, повелѣ дати еи 35б; егоже поставит[s] гь҃. над челмдію своею 157б;

назвы асоб па месцы жыхарства: галилѣанинъ, израильтмнинъ, назармнінъ, самармнинъ і інш.: и ты съ назармнінѡм їсомь бѣ, ибо галилѣанинь еси 111б; и гл҃а о нем, се въ истиноу їилътмнинъ 194б; самармнин[s] же нѣкто грмдыи, прідѣ над нимь 151. Агульным найменнем з’яўляецца лексема житель: шед прилѣпи см единомоу ѡт житель том страны 164.

Шматлікую групу ўтвараюць асабовыя намінацыі, прадстаўленыя субстантываванымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі, якія ў такім выпадку не ўказваюць на атрыбутыўную характарыстыку асобы, а называюць яе. Субстантываваныя прыметнікі і дзеепрыметнікі з’яўляюцца назвамі носьбітаў 1) станоўчых якасцей: кроткіи ‘лагодны, рахманы’,

моудрыи; прѣмоудрыи, разоумныи: бл҃жени плачоущеи, ıако тїи оутѣшат сѧ, бл҃жни кротцїи, ıак тїи наслѣдѧть землю 13б; моудрыıа же приıаша елеи въ съсоудѣх 58б; ıако оутаил еси сїа ѡт прѣмдрыхь и разоумных 28б; 2) адмоўных якасцей, фізічных і псіхічных недахопаў: болѧщїи 'хворы', бѣсныи 'шалёны', глоухїи, кленоущїи, недоужныи 'хворы', ненавидѧщїи, ѡслабленыи 'знямоглы', прокаженыи, расслабленыи 'знямоглы', слѣпыи, хромыи і інш.: и ѡтвѣщавъ ӏс҃ь реч к нимь. не трѣбоують здравїи врачѧ. нъ болѧщїи 134б; егда захождааше сл҃нце, приносшаахоу къ немоу вьсѧ недоужныѧ ї бѣсныѧ 78; добро творите ненавидѧщїимь вас, блсвїте кленоущаа вы 16; слѣпїи прозирають, и хромїи ходѧть, прокаженїи очищают сѧ, и глоусїи слышать мрътвїи въстають, и нищїи бл҃говѣстоуют 27; рече ѡслабленомоу, дръзаи чадо 22б; тъгда гл҃а расслабленомоу, въстани 22б; 3) выканаўцаў дзеянняў, носьбітаў рознага стану: имоущїи 'той, хто валодае чым-небудзь', плачоущїи, пославшїи, просѧщїи, слышащїи, сѣющїи, чающїи 'той, хто спадзяецца' і інш.: реч, възмѣте ѡт него мнась, и дадите имоущемоу десѧт мнась 172б; бл҃жени плачоущеи 136б; ѡтвѣт дамы пославшїим ны 193; рече гь просѧщемоу оу тебе даи 16; мьноѕи слышащеи дивлѧхоу сѧ, и мазахоу маслѡм многы 87б; вы же оуслышите притчю сѣющаго 32б; въ тѣхже слежаше множство болѧщих, слѣпых, хромыхь, соухих, чающїих движенїа водѣ 201.

У групу назваў частак цела чалавека ўваходзяць лексемы выѧ 'шыя', глава, десница 'правая рука', колѣно, лице, нога, плѣще 'плячо', прьсть 'палец', ребро, роука, съсецъ 'грудзі, сасок', тѣло, оуста 'вусны', оутроба 'ўлонне (маці)', оуши, чрѣво 'ўлонне (маці)', чрѣсло 'паясніца, сцягно', шоуица 'левая рука', ıазыкъ: и текъ нападе на выю и облобыза его 164б; пославь цр҃ь спекоулатора повелѣ принести главоу его 88б; и на колѣноу падаа пред нимь и гл҃а емоу 78; лице твое оумыи 17б; пришедши припаде къ ногама его 92; и възлагають на плѣща чл҃чьска, прьстѡм же своимь не хотѧть двигноути их 53б; нъ единъ ѡт воинъ копиом ребра емоу прободѣ 235б; и емъ за роукѫ отроковїцѫ гл҃а еи 87; и съсца ıаж еси съсалъ 153б; все тѣло твое свѣтло боудеть 18; ѡтверзоша же сѧ оуста его авїе, и ıазыкъ его 124; горе же имоущимь въ оутробѣ 177б; аще кто имат оуши слышати, да слышїть 83б; обрѣте бо бл҃годать ѡт бг҃а, и се зачьнеши въ чрѣвѣ, и родиши сн҃а 122б; їѡаннь имѣаше ризоу свою ѡт власъ велбоуждь, поıасъ оусмѣнь о чрѣслѣхь своих 11; да не чоуеть шоуица твоѧ что творить десница твоѧ 16б.

Дастаткова поўна прадстаўлены ў тэксце назвы жывёл: алекторъ 'певень', бчела 'пчала', вранъ 'воран', голоубь, ждрѣбѧ 'жарабя', ѕмїѧ,

козлищь 'казляня', кокошь 'курыца, квахтуха', овца, орелъ, осла, песъ, птенецъ, птица, пателъ 'певень', скорпїи 'скарпіён', тѣлець 'цяля' і інш.: ї изыде вонъ на прѣддворїе, и алекторъ възгласи, ї рабыни видѣвши его пакы, начатъ глатї предстоящим 11б; они же даша емоу рыбы печены часть и ѿ бчелъ сѡт 187; смотрите вранъ, яко не сѣють, ни жноуть 156б; ѡбращета осла привязано и ждреба съ нимь 48б; моѵси възнесъ ѕмїю въ поустынї 196б; якоже пастырь разлоучаеть овца ѿ козлищь, и поставить овца ѡдесноую себе, а козлища ѡшоую 60; якѡж[s] събираеть кокошь птенца, своя пѡд крылѣ 55б; идеже бо аще боудеть троупъ. тоу събероут ся орли 57; ѡво, паде на поутї, и прїидоша птица и позобаша е 82б; ѱи ядять ѿ кроупиць падоующих ѿ трапезы господїи своих 92; яко прѣжде даждь пателъ не възг[s]ласить, три краты ѿвер[s]жеши ся мене 65; Се даю вам[s] власть, настоупати на ѕмию и на скорпїю 150; приведше тѣлець оупитѣн[s]ныи заколите 164б. Сукупнасць жывёл абазначана лексемай стадо: и авїе оустреми ся стадо все по брегоу въ море 85б.

Група фларыстычных назваў прадстаўлена лексічнымі адзінкамі виноградъ, древо, класъ 'колас', копръ 'кроп', кринъ 'лілея', кѵминь 'кмен', листвїе 'лісце', мятва 'мята', плѣвелъ 'пустазелле', пшеница, смоковница, трава, хлѣби 'злакі', ягодичина 'дзікая смакоўніца' і інш.: насади виноград, и оплътѡм его огради, ї ископа въ нем точилѡ 50б; оуже бѡ и секира при коренї древа лежить 128б; ї въстергахѹ оучнци его класы 135; смотрите крины како растоут[s] 157; ничьсѡж[s] обрѣте на неи, тъкмо листвїе едино 49б; Горе вам[s] книжнїци и фарисѣе лицемѣри, яко ѡдесятьствоуете, мятвоу и копръ, и кѵминь 54б; събереть пшеницоу свою въ житницоу, плѣвелы же съж[s]жеть ѡгнемь негасимым 11б; оузрѣвъ смоковницоу единоу прї поути 49б; бо земля плодїть, прѣжде травоу, потѡм класъ 84; рече, коликоу наемникъ оца моего изъобилоую т хлѣби, аз[s] же гладѡм гыблю 164; възлѣзе на ягодичиноу, да видить его 171б.

Для абазначэння тэрытарыяльных адзінак і частак свету выступаюць лексемы весь 'вёска', вселеная, въстокъ, градъ 'горад', западъ, ѡчьствїе 'бацькаўшчына, радзіма', прѣдѣлъ 'мяжа', поусьтыни, северъ, село, царство 'дзяржава', югъ і інш.: да шед въ веси окрестныа и села, витають. и обрящоут[s] брашно 145б–146; и проповѣсть ся сие и еѵглїе црствїа бжїя. по вьсѣ" вселенѣи въ свѣдтельство вьсѣм[s] языкомь 56; се вльсви ѿ въстокъ прїидоша въ їерслмъ 9б; и слышав[s]ше народи. по нем идоша пѣши ѿ градовъ 35б; якоже бо млънїи исходить ѿ въстокъ, и явлает ся до запад 57; И пришед въ ѡчьствїе свое оучаше ихь на сън[s]мищих ихъ 35; пославь. из[s]би вся

дѣти. соущаа въ виөлеемѣ. и въ всѣх предѣлехь ею. ѡт двою лѣтоу. и ниж^s^ше 10б; Тъгда ї҃у възведень быс дх҃омь въ поустыню 12; и прїидоут^s ѡт въстокъ, и запад^s, и севера, ї юга 160б; въстанет бо ꙗзыкь на ꙗзыкь, и цр҃ство на црство 56. Дадзеная група назваў папаўняецца за кошт тапонімаў, па структуры універбальных і бівербальных, апорнымі словамі ў якіх з'яўляюцца лексемы земля, прѣдѣлъ, страна: прїидоша въ землю генисаретьскоую 36б; и ты виөлеемь земле їюдова. ничим^s^же мен^s^ши еси въ влдкахь їоудовах 9б; тъгда исхождаше к немоу, їерслима, и вся їоудѣа, и вься страна їорданьскаа, и крщахоу ся въ їоръдани ѡт него 11; ї҃съ отиде въ страны тѵрьскыа и сидоньскыа, прїиде въ предѣлы магьдалыньскы 39; Слышав же ї҃у, ꙗко їоаннь предань быс отиде въ галилею, и оставль назареө 12б і пад.

Назвамі збудаванняў і памяшканняў у тэксце з'яўляюцца словы горница 'верхняе памяшканне', гоумно, домъ, житница 'свіран, клець', кровъ 'шацёр', преторъ 'палац', сѣнь 'шацёр', темница 'турма', церковь, храмина 'дом', храмъ 'дом; царква' і інш.: и тъи вама покажет^s горницȣ велїю 179; и потрѣбить гоумнѡ своє; и съберетъ пьшеницю свою въ житницю свою 129б; тъи кн҃зь сън^s^мищоу бѣ. и падь при ногоу ї҃своу. моляше его вънити въ домъ свои 144; добро єс намь здѣ быти, и сътворим^s кровы трї, тебѣ єдинъ, и мѡѷсѣови єдинъ, и їлїи єдинъ 95; егда же слыша пилат^s се слово, пач оубоꙗ ся, вънide въ преторъ пакы, и гл҃а ї҃сви, ѡткоудȣ єси ты 234; сътворимь зде три сѣни, тебѣ єдиноу и мѡѷсеови єдиноу, и єдиноу илїи 41; и затвори їѡана въ темници 129; изшед ї҃съ. идѣаше ѡт цр҃кве 55б; ꙗко възлежит^s въ храминѣ фарисѣовѣ 140б; срѣте его моужь нѣкыи ѡт града. иже имѣаше бѣсы ѡт лѣт многь. и въ ризоу не облачаше ся. и въ храмѣ не живяше. нъ въ гробѣх 143; до крове захарїа, погыбшаго между ѡлтарем^s и храмѡм^s 155.

Як назвы прадметаў быту, гаспадарчых прылад, прылад працы функцыянуюць лексічныя адзінкі алавастръ 'пасудзіна з алебастру', блюдо, водоносъ 'пасудзіна для вады', катапетазма 'завеса', котелъ, кошница 'кош', лопата, мрѣжа 'рыбалоўная сетка', одръ 'пасцель', рало 'плуг', свѣтилникъ 'каганец; свяцільня', свѣщнїца 'падсвечнік', секира, скоуделница 'гліняны збан', солило 'блюда, талерка', сръпъ 'серп', стькляница 'шкляная чаша для піцця', съсоудъ 'пасудзіна; начынне, рэчы', сѣдалище 'стул, крэсла', точило 'прылада для перапрацоўкі вінаграду', ч^s^ванъ 'пасудзіна' і інш.: принесши алавастръ мѵра ... начат мочити нозѣ 140б; реч же гь҃ къ немоу, нн҃ѣ вы фарисѣе, вънешнее стькляници и блюдж очищаете 154; гл҃а им ї҃съ наплъните водоносы

воды 195; прїаша дръжати погроуженїа стькланицамь, и ч^sваномъ и кот^sлωм, и ωдромъ 90б; катапетазма црковнаа, раздра сѧ на двое 184; колико кошниць исплъненїѧ оукроух възасте; они же рѣшѧ седмь 93б; емоуже лопата въ роукѹ его потребить гоумнω свое 129; видѣ сїмона и андрѣѧ брата того симона вьмѣтающа мрѣжа въ море 77; гла ωслабленомоу, тебѣ глю, въстанї, ї въз^sми одръ твои, ї иди въ домъ твои 79; никтωж^s възложь роукоу свою на рало 149; ни въжагают^s свѣтилника и поставлѧють его под спoудомъ. нъ на свѣщнїцѣ и свѣтить всѣмь иже въ храминѣ соут 14; дадите нам^s ωт масла вашего, ꙗко свѣтилници наши оугасають 58б; оуже бо и секира при корѣни древа лежить 11б; срѧщет вы чл҃кь въ скоуделницѣ водоу носѧ 178б; егда же съзрѣеть плωд, абїе послеть сръпъ ꙗко наста жатва 84; моудрыꙗ же приꙗша елеи въ съсоудѣх 58б; или како можеть кто в^sнити въ дωм крѣпкаго. и съсоуды его расхитити 30; и трапезы тръж^sникωмь испроврьже, и сѣдалища продающихь голоуби 49; виноград насадї чл҃кь, и ωгради оплотом, и ископа точило 103. Агульнай назвай маёмасці выступае лексема имѣнїе: тако оубо всѧкь ωт вас, иже не ωтречет сѧ всего своего имѣнїа, не может быти мои оученикь 168.

Намінацыямі ежы і напояў з’яўляюцца словы вино, вода, квасъ, пища ‘ежа, харчы’, рыба, рыбица, сїкеръ ‘хмельны напой’ і інш.: и даахѫ емѹ пити, есмѵ̈рнисмено вино, ωн^s же не прїꙗтъ 112б; иже бо аще напоить вы чашоу воды въ имѧ мое 97; блюдѣте сѧ, ωт к^sваса фарисѣиска, и ωт кваса иродова 93б; егωж^s поставить гсднъ его над домωм^s своимь, еже даати им^s пищоу 58; иже имат пѧт хлѣбь ꙗчненъ и двѣ рыбѣ 204; и гла им ї҃съ, колико хлѣбы имате они же рѣша, сед^sмь, и мало рыбиць 39; вина и сїкера не имать пити 121б. Лексема хлѣбъ ужыта для абазначэння 1) хлеба, 2) лусты хлеба і 3) ежы ўвогуле: И быс егда вънити емѹ въ дωм нѣкоего кнзѧ фарисѣиска въ соуботоу хлѣба ꙗсти 161; тъи ес емѹже азь омочивь хлѣбъ подам, и омочь хлѣбь дасть їоудѣ симоновоу искариωтскомоу 224; писано бо есть ꙗко не ω хлѣбѣ единωм^s живъ боудеть чловекь нъ ω всѧкомъ глѣ бжїи 130.

У групу назваў адзення, абутку, матэрыялаў, аксесуараў уваходзяць лексічныя адзінкі вѵс^sсонь ‘тонкае палатно’, їматисма ‘адзенне’, одежда, одѣанїе, плащаница ‘палатно’, порфира ‘пурпур, багатае адзенне пурпурнага колеру’, поꙗсъ, пръстень ‘пярсцёнак’, риза ‘верхняе адзенне’, сапогъ ‘бот’, срачица ‘кашуля’, оуброусъ ‘хустка’ і інш.: Чл҃къ же нѣкыи бѣ богат^s, и облачаше сѧ въ порфироу и вѵс^sсонь веселѧ сѧ на всѧкь днь свѣт^sло 166б; раздѣлиша ризы моѧ собѣ, и о їматисмѣ

моеї меташа ждрѣбїа 235; видѣша юношѫ сѣдѧща въ десныҳ одеꙗнь въ одеждоу бѣлоу и оужасоша сѧ 114; видѣ тоу ч҃лка не ѡблъчена въ одѣанїе брачˢное 51б; коупивь плащаницѫ, и снемˢ его ѡбьвитъ плащаницею, и въложи егͤ въ гробъ 114; дадите прьстень на роукоу его и сапогы на нозѣ егͤ 164б; тъи же їѡанˢнь имѣаше ризоу свою ѡт власъ велˢбоуждь, и поꙗсъ оусмѣнь о чрѣслѣхь своиҳ 11; ѡт възимающаго тї ризоу и срачицю не възˢбрани 137; и лице его оуброусѡм обѧзано 219.

Як назвы часавых паняццяў, дзён тыдня функцыянуюць лексемы вѣкъ 'час', врѣмѧ 'час, перыяд; зручны момант, належны тэрмін', година 'час', гѡдъ 'час', день, зима, лѣто 'год', нощь, часъ 'пара; адзінка вымярэння часу': иже речеть на д҃ха ст҃го не ѡтпоустит сѧ емоу ни въ сїи вѣкъ, ни въ боудоущїи 30; Въ то врѣмѧ иде і҃ꙋ въ соуботы сквозѣ сѣанїа 28б; егда же приближи сѧ врѣмѧ плодѡмˢ, посла рабы своа къ дѣлателемˢ прїати плоды его 50б; пристоупиша к немоу оуч҃нци его, г҃лще, поусто ес мѣсто се, и година оуже миноу 36; жена егда раждаеть печаль иматˢ ꙗко приде гѡд еѧ, егдажˢ родит ѡтроча, к томꙋ не помнит скръби за радос 229; Быша же тъгда ѻ҃щенїа въ їерслимѣхь, и зима бѣ 216; еже ѡт марка ст҃ѡе еѵг҃лїе, издасть сѧ по лѣтѣҳ десѧтиҳ, х҃ва възнесенїа 115; ꙗкожˢ бо бѣ їона въ чревѣ кі҃тове три д҃ни и три нощи 31; И възыскашѧ архїерѣе и книжˢници, възложїти нань роуцѣ въ тои час 175; ї изшед въ третїи чѧс, видѣ ины стоѧща на тръжищи праздны 46б. Назвы месяцаў і дзён тыдня адзначаюцца пераважна не ў самім тэксце Слуцкага Евангелля, а ва ўказаннях часу чытання таго ці іншага ўрыўка: сеж, и генварѧ, к҃г. 28б; втрок, а҃, нед, въ врѣм ѡн, по і҃сѣ идоша народи 13б; срѣд, д҃і, нед, реч г҃ь, ижˢ поуститˢ женоу свою 98б; соуб, г҃і, във ѡн, вˢниде і҃съ въ дѡм нѣкоего кн҃зѧ 161. У самім жа тэксце зафіксаваны лексемы пѧтокъ 'пятніца' і соубота: бѣ же пѧтокъ пасцѣ 234б; Въ то врѣмѧ иде і҃ꙋ въ соуботы сквозѣ сѣанїа 28б.

У якасці назваў грашовых адзінак выступаюць словы динарїи, драхма, златица 'залатая манета', кондранˢтъ 'рымская манета', лѣпˢта, мнасъ, мѣдница, пѣнѧзь, сребреникъ 'сярэбраная манета', сребро 'сярэбраныя манеты', цата 'дробная манета': единь бѣ длъженъ пѧтїю сѡтˢ динарїи 140б; или каа жена имоущи десѧт драхмь, аще погоубит драхмꙋ единоу, не вˢжизает ли свѣтилника 163б; что мѧ искоушаете лицемѣри, покажите ми златицоу кинˢсоньноую 52; пришедши едина въдовица оубога, въверˢже лѣпˢтѣ двѣ, еже ес кодранˢтъ 105б; прїиде вторыи, г҃лѧ, г҃и, мнасъ твоѧ, сътвори пѧтˢ мнась 172б; г҃лю тобѣ, не изыдеши ѡттоудоу, дондежˢ послѣднюю мѣдницꙋ въздаси 159; не

**пѧтⷭ҃ ли птиць цѣнит сѧ пѣнѧзема двѣма** 155б; **они же поставиша емоу три десѧте сребреники** 61б; **реч, пригласити рабы тыї, имⷭ҃же дасть сребро** 172; **реч къ нимь, что мѧ искоушаетѣ, покажите ми цатоу** 175.

Групу назваў хвароб, фізічных і псіхічных заган, недахопаў, дрэнных учынкаў утвараюць лексемы **безоумїе, безоумъство, гръдыни** 'фанабэрыстасць, напышлівасць', **лихоимство** 'карысталюбства', **лоукавьствїе** 'хітрасць', **любодѣѩнїе** 'распуста, разбэшчанасць', **льсть** 'хітрасць', **недоугъ** 'немач, хвароба', **обида, проказа, прѣлюбодѣанїе** 'пралюбадзейства', **рана, строупъ** 'рана, язва', **стоудодѣѩнїе** 'ганебная, саромная справа', **татⷭ҃ба** 'зладзейства', **оубїиство, хоула** 'паклёп, абвінавачванне', **ѩзва** 'рана' і інш.: **ѡни же исплънїша сѧ безоумїа и глаҳоу дроугь къ дроугоу** 135б; **прѣлюбодѣанїѧ, любодѣѩнїѧ, оубїиство, татⷭ҃бы, лихоимⷭ҃ства, обиды, лоукавьствїа, льсть, стоудодѣѩнїе, око лоукаво, хоула, гръдыни, безоумъство, въсѧ си ѕлаа. изъжтрь исходѧть, и скврънѧть чл҃ка** 91б; **вси елицы имѧхоу болѧщаа недоугы различными. привождахоу иҳ къ немоу** 132; **реч. хощоу ѡчисти сѧ. ї авїе проказа ѿтиде ѿ него** 133б; **въ тъи же час. исцѣли многы ѿ недоугь и ранъ, и доуҳь ѕлыҳь** 139б; **обѧза строупы его, възливаа масло и вино** 151; **вложю пръста моеⷢ҇ въ ѩзвоу гвоздиньноую** 237б.

**Рэлігійная лексіка Слуцкага Евангелля.** Значны лексічны пласт Слуцкага Евангелля складае рэлігійная лексіка, да якой адносяцца словы і спалучэнні слоў, што называюць асноўныя хрысціянскія паняцці, святых, багасловаў, рэлігійныя абрады і святы, культавыя збудаванні, рэлігійную атрыбутыку, і іншыя найменні, звязаныя з царкоўным жыццём і рэлігіяй.

Вылучаны наступныя найбольш частотныя тэматычныя групы рэлігійнай лексікі: найменні Вярхоўнай Істоты, Божай Маці і боскіх істот; назвы асоб па адносінах да Царквы і рэлігіі; найменні істот, якія ўвасабляюць зло; найменні прасторавых паняццяў, звязаных з рэлігійнымі ўяўленнямі; назвы збудаванняў культавага і абрадавага прызначэння і іх частак; найменні рэлігійных свят, абрадаў і царкоўных служб; назвы рэлігійных тэкстаў і іх частак.

Група найменняў Вярхоўнай Істоты, Божай Маці і боскіх істот аб'ядноўвае назвы Святой Тройцы, Божай Маці і "светлых" чыноў нябеснай іерархіі.

Асноўнымі найменнямі Вярхоўнага Пачатку, Стварыцеля, з'яўляюцца лексемы **богъ** і **господь**: **Быⷭ҇ чл҃къ посланъ ѿ бг҃а, имѧ емоу їоань** 192; **да събоудеⷮ҇ сѧ реченое ѿ г҃а прⷪ҇ркѡⷨ҇** 9. Часта гэтыя

найменні ўжываюцца разам: гь бъ вашь, гь єдінъ єс, и възлюбиши га ба твоего всѣм срдцем твоим 104б.

Першаснае значэнне слова господь – 'пан, гаспадар'. У гэтым значэнні яно прадстаўлена, напрыклад, у Астраміравым Евангеллі (XI ст.): Добрыи рабе въниди въ радость господи своѥго [216, I, 565]. У Слуцкім Евангеллі адзначана ўжыванне слова господь у значэнні 'пан, гаспадар' побач з лексемай господинъ: и пси ꙗдать ѡт кроупиць падоующих ѡт трапезы господіи своих 38; тъгда призвавъ его госьподинъ его, гла ємоу, рабе лоукавыи 44б.

Для намінацыі Бога ў пэўным кантэксце выкарыстоўваецца лексема ѡтець: ѡць с нбсе дасть дхъ стъ просащіимь оу него 152. У радзе спалучэнняў значэнне данай лексемы дыферэнцыруецца залежнымі прыметнікамі і займеннікамі: 1) па прыналежнасці: азь пред ѡ цемь моим иже на нбсехь 26б; боудете оубо мдръди. ꙗкоже и ѡць вашь мдрдъ єсть 137; 2) па месцазнаходжанні: тако и оць мои нбсныи сътворить вам 44б. Адзінкавую фіксацыю мае спалучэнне безначалныи ѡтець: Ги іу хе сне єдинорѡдны безначалнаго ти ѡца 1. Найменнямі Бога з'яўляюцца таксама лексемы владыка і сватыи: слава длъготръпѣнію ти гн. слава длъготръпѣнію ти вдкѡ; слава длъготрьпѣнию ти стыи 250б.

Высокай частотнасцю ўжывання характарызуюцца ўласныя назвы Сына Божага: Бѣ же ісъ въ дне въ црькви оуча 178; аще ты єси хс рьци намь 181б; да вѣроу имѣте ꙗко ісъ єс хс снъ бжіи 238; блгдть же и истина, ісу хмь быс 192б. У пэўным кантэксце Сын Божы таксама называецца богъ і господь: и обращь са гь, възрѣ на петра, и помянѫ петръ слово гне 181б; и ѡтвѣща ѳома, и рече ємоу, гь мои и бъ мои 237б–238; повѣдаи, єлика сътвори ти бъ. і иде по всемоу градоу; проповѣда єлика сътвори ємꙋ ісъ 144. Маюць месца спалучэнні христосъ богъ, христосъ господь, господь ісоусъ: обновленіе стго въскрсніа, ха ба 240; рѡди са вам днес спасъ, иже єс хс гь 125б, не ѡбрѣтоша тѣлесе га іса 185.

У залежнасці ад кантэксту для наймення Ісуса Хрыста выкарыстоўваюцца ўстойлівыя спалучэнні сынъ божіи і сынъ человѣчьскіи: ꙗко не вѣрова въ има єдінороднаго сна бжіа 196б; ѡтселѣ оузрите нбо ѡтвръсто, і аггльі бжіа въсходаща, и нисходаща над сна члчьскаго 194б.

Найменнямі Сына Божага з'яўляюцца лексемы спасъ, месіа, наставникъ, равви, оучитель: ꙗко сьи єсть въистиноу спсъ мироу хс 200; обрѣтѡхом месію єже єс сказаємо хс 194; іоаннь реч. Наставъниче, видѣхѡм нѣкоего ѡ имени твоем изгонаща бѣсы 148;

**ѡна же рѣста емоу, рав<sup></sup>ви, еж<sup></sup> глет сѧ сказаемѡ, оучтлю, гдѣ живеши** 193б; **вы глашаете мѧ оучтлѧ и га, и добрѣ глете, есмь во, аще оубо азь оумыχ ваши нозѣ гь и оучитель** 223б.

Адзначана выкарыстанне для абазначэння Бога і Сына Божага субстантываваных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў: **вышнїи, пославшїи, грѧдыи**: **сьи боудеть велїи, и снъ вышнѧго наречт сѧ** 122б; **видѧи мѧ видить пославшаго мѧ** 222б; **грѧдыи же по мнѣ, крѣпьлїи мене ес** 11б.

Трэцяя Асоба Святой Тройцы – Дух Святы, для намінацыі якога служаць слова **доухъ** і аналітычныя назвы **доухъ божїи, доухъ господень, доухъ свѧтъ**: **видѣ разводѧща сѧ нбса, и дхъ ꙗко голоубъ съходѧщ<sup></sup> нань** 76б; **видѣ дхъ бжїи съходѧщь ꙗко голоубь** 12; **ѡбрѣте мѣсто идеже бѣ написано дхъ гнь на мнѣ** 131; **ѡць с<sup></sup> нбсе дасть дхъ стъ просѧщїимь оу него** 152б.

Сярод найменняў Божай Маці адзначаюцца лексемы **богородица, пречистаѧ**, а таксама спалучэнні **мати їсоусова, пресвѧтаѧ богородица, пресвѧтаѧ владычица**: **сеж<sup></sup> и на иныѧ праздникы бци** 123; **иѡсиѳъ иже прчстѣї ѡброучникь** 189б; **бѣ мти їсва тоу** 194б; **прѣс бци** 151б; **Въведенїе въ црковь прстыѧ влдчцѧ нашеѧ бца** 241б.

У складзе назваў “светлых” чыноў нябеснай іерархіі вылучаюцца: **аггелъ** ‘анёл’, **ар<sup></sup>хаггелъ, ар<sup></sup>хистратигъ** ‘старшы над анёльскім войскам’, **бесплътныи** ‘анёлы’, **вои небесныѧ** ‘анёлы’, **χероувимъ**: **никтож вѣсть, ни аггли нбеснїи, тъкмо ѡць мо" єдинъ** 57б; **ѡтселѣ оузрите нбо ѡтвръсто, ї аггլы бжїа въсходѧща, и нисходѧща над сна члчьскаго** 194б; **аггелъ бо гнь на всѧ лѣта съхождаше въ коупель** 201; **ар<sup></sup>хаггломь михаилѡм** 240; **съборъ ар<sup></sup>хистратига михаила, и прочїиχ бесплътныχ** 241б; **вънезаапꙋ быс съ агглѡм мнѡж<sup></sup>ство вои нбсныχ χвалѧщїиχ ба** 125б; **ибо χероувими четыри лица їмꙋт** 1.

Назвы асоб па адносінах да Царквы і рэлігіі падзяляюцца на некалькі тэматычных падгруп:

– найменні лікаў святых (значная колькасць такіх намінацый прадстаўлена ў месяцаслове [“**Съборникъ...**”]): **апостолъ** ‘вучань Ісуса Хрыста, прапаведнік яго вучэння’, **благѡвѣстникъ, богопрїимецъ** ‘той, хто прыняў Выратавальніка на рукі’, **великомоученикъ, великомоученица, евангелистъ, исповѣдникъ** ‘святы, які зведаў вялікія пакуты за Хрыста, але застаўся жывым’, **креститель** ‘найменне, дадзенае Царквой Прадцечы Іаану, які хрысціў Ісуса’, **моученикъ** ‘пакутнік за веру, кананізаваны Царквой’, **моученица, предтеча** ‘той, хто ідзе наперадзе: найменне, дадзенае Царквой Іаану Хрысціцелю’, **преподобномоученикъ** ‘той, хто прыняў пакутніцкую смерць у манаскім званні’, **преподобныи** ‘святы ўгоднік’, **преподобныи ѡтець, пророкъ, пръвомоученикъ** ‘першы з пакутнікаў, якія пацярпелі за Хрыста’, **пръвомоученица, свѧтыи**

‘чалавек, які правёў жыццё ў служэнні Богу і Царкве або пацярпеў за хрысціянскую веру і таму прызнаны Царквой нябесным заступнікам вернікаў’, **свѧщенномоученикъ** ‘пакутнік за веру, кананізаваны Царквой, які меў свяшчэнна-іерархічны сан’ і інш.: **ст҃го апсла филіп҃па** 241; **Сеж҃ и сѵ҃меоноу бг҃опріим҃цѹ** 12б; **единь бл҃гѡвѣстникъ** 5–5б; **ст҃го великомч҃нка никиты** 240б; **ст҃ыѧ великомч҃нца варвары** 242; **ст҃го апсла ї еѵг҃лїста лоукы** 241; **прпдбнаго ѡц҃а нш҃его и исповѣдника, харитона** 240б; **ст҃го мч҃нка полѷекта** 243; **ст҃ым҃ мч҃нцамъ** 247б; **на рѡж҃, чстнаг҃ прдтча и кр҃стлѧ, їѡанна** 121; **се же и прпдобнымъ** 13б; **прпдобныѧ ѳеѡдоры** 240; **прпдбнаго ѡц҃а нш҃ег фешѳана** 241; **ст҃го пръвомч҃нка, и архїдїакона, стефана** 242б; **Ст҃ыа пръвомч҃нцѣ, феклы** 240б; **зачатїе ст҃ыѧ ан҃ны** 242; **с҃щнномч҃нком. еѵг҃е, лоук, глв, к҃д, и, н҃в, и, ѯ҃з, и, о҃з. и прпдбномч҃нкѡм** 247б;

– найменні служыцеляў рэлігійнага культу, чыноў царкоўнай іерархіі: **архїдїаконъ**, **ар҃хиепископъ**, **ар҃хїерѣи** ‘першасвяшчэннік’, **архисѷнагогъ** ‘старэйшына, галава сінагогі’, **дїаконъ**, **епископъ**, **їерѣи** ‘святар’, **въевода церковныи** ‘начальнік варты пры храме’, **инокъ** ‘манах’, **кнѧѕь сън҃мищоу** ‘старэйшына, галава сінагогі’, **левитъ** ‘свяшчэннаслужыцель ніжэйшага рангу’, **папа римьскїи**, **пръвосвѧщенникъ** ‘першасвяшчэннік’, **свѧтитель** ‘архірэй’, **свѧщенникь** ‘святар’ і інш.: **ст҃го пръвомч҃нка, и архїдїакона, стефана** 242б; **Ѳеѡѳилакта ар҃хиепскпа блъгарьскаго прѣдисловие** 3б; **рече же ї҃съ к҃ пришедшимь нань ар҃хїерѣѡм, и въеводам цр҃квным, и старцем҃** 181; **гл҃а архисѷнагогови, не бои сѧ, тък҃мо вѣроуи** 86б; **ст҃го апсла филїп҃па едїнаго ѿ седмь дїаконъ** 241; **епскпа нїкѣискаг** 241; **къ їереѡмъ бо писаше** 5; **сеж҃. и въ ѡбразъ инокѫ** 146б; **тъи кн҃ѕь сън҃мищоу бѣ** 144; **егда послаша жидовѣ ѿ їерслма їерѣѧ и левиты** 192б; **ст҃го ѡц҃а селивестра, папы римьскаго** 242б; **ст҃го пр҃рка захарьи, ѡц҃а, прдтчева** 240; **и събравь всѧ пръвос҃щнники и книжникы людськыа, въпрошааше ѿ них** 9б; **в тоиж ден, праздноуем, трем҃ ст҃лемь, василїю великомѹ, григорїю бг҃ословѹ, їѡан҃нѹ злат҃ѹстѫ** 243 б; **по слоучаюж҃ с҃щнникь нѣкыи съхождаше поутемь тѣм҃** 151;

– найменні асоб па іх адносінах да рэлігійнага вучэння: **богоносецъ** ‘той, хто верыць у Бога, натхнёны Богам, носіць Бога ў сваім сэрцы’, **вѣроующїи** ‘вернік’, **грѣшникъ**, **грѣшьныи**, **еретикъ**, **невѣроующїи**, **неправеденъ**, **праведенъ**, **праведникъ** ‘праведны чалавек, які выконвае запаведзі Божыя’, **православныи** ‘той, хто вызнае сапраўдную веру’, **сад҃доукѣи** ‘прадстаўнік іудзейскай секты’, **фарисѣи** ‘прадстаўнік іудзейскай секты’, **ѩзычникъ**: **сеж҃, и ст҃моу, игнатїю бг҃оносцѫ** 96б; **ѡбразѡм ѡгнѧ очищаеть и погоублѧеть съгрѣшенїа вѣроующїхъ** 1б;

**не прїидωх, призвати праведники, нъ грѣшникы** 79б; **не прїидохь призвати правед<sup>s</sup>ных, нъ грѣшьныꙗ** 134б; **ꙗкоже ꙗвльшим сѧ нѣкым еретикωм въ днех онѣх** 189; **вѣдꙗше бо искони ис҃ъ кто соут невѣроующеи, и кто ес прѣдаꙗи его** 206б; **ꙗко сл҃нце свое сїаеть на ѕлыꙗ и бл҃гыа, и дъждить на праведны, и на неправедны** 16–16б; **ꙗк молиша его православнїи** 18; **пристоупиша к немѹ фарисѣе и саддоукѣе искоушающе** 39; **послаша фарисѣе ї ар<sup>s</sup>хїерѣе слоугы, да имоут его** 208б; **аще же и о цр҃кви нерадити начнеть, боуди ти ꙗкоже ꙗзычникъ** 43б.

З найменняў істот, якія ўвасабляюць зло, адзначым словы і спалучэнні: **бѣсъ** 'злы, нячысты дух', **дїаволъ** 'д'ябал', **искоуситель** 'д'ябал', **лоукавыи** 'д'ябал', **неприазнь** 'д'ябал', **сатана**, **доухъ ѕлыи**, **доухъ нечистыи**, **кнѧѕь бѣсовъскїи**: **твоимь именемь бѣсы из<sup>s</sup>гонихωм** 20; **тогда ωставль его дїаволъ, и се агг҃ли пристоупиша и слоужаахоу емоу** 12б; **и пристоупль к немѹ искоуситель, рече, аще сн҃ъ еси бж҃їи, рци** 12; **нъ избави нас ωт лоукаваго** 152; **не молю да възмеши ихь ωт мира, нъ да съблюдеши их ωт неприазни** 230б; **вънидє же сатана въ їоудѫ нарицаемаго иськариωт** 178б; **исцѣли многы ωт недоугь и ранъ, и доухь ѕлыхь** 139б; **повелѣ оубо доухови нечистомоу изыти ωт чл҃ка** 143; **ω веельзевоулѣ кнѧѕи бѣсовъстѣм** 30.

Сярод назваў прасторавых паняццяў, звязаных з рэлігійнымі ўяўленнямі, вылучаюцца намінацыі: **врата адова**, **вышнѧꙗ** 'нябёсы, месца, дзе знаходзяцца Бог і анёлы', **геен<sup>s</sup>на огн<sup>s</sup>наꙗ** 'месца вечных пакут', **небо (небеса)** 'месца, дзе знаходзяцца Бог і анёлы', **тьма кромѣшнаꙗ** 'месца, пазбаўленае света, пекла', **царство небесное** 'рай': **на сем<sup>s</sup> каменї съѕиждоу цр҃квь мою, и врата адова не оудолѣють еи** 40; **слава въ вышних бо҃у, и на земли миръ** 125б; **не вьсе тѣло твое въвръжено боудеть въ геен<sup>s</sup>ноу огн<sup>s</sup>ноую** 15б; **не клѧтис всѧко, ни нб҃омь, ꙗк прстолъ ес бж҃їи, ни землею, ꙗко пωдножїе ес ногама его** 15б; **да боудете сн҃ове ωц҃а вашего иже ес на нб҃сѣх** 16; **сынове же црствїа изгнанї боудоуть въ тьмоу кромѣшнюю, тоу бѹдеть плачь и скрежетъ зоубωм<sup>s</sup>** 21; **не в<sup>s</sup>нидѣте въ црство нбсное** 42б.

Назвы збудаванняў культавага і абрадавага прызначэння і іх частак прадстаўлены невялікай колькасцю адзінак: **зданїе церковное** 'царкоўны будынак, пабудова', **крило церковное** 'дах царквы', **олтарь** 'ахвярнік' **сънмище** 'сінагога', **храмъ** 'храм', **церковь**: **И изшед ис҃ъ, идѣаше ωт цр҃кве, и пристоупїша къ немоу оучн҃ци ег, показати емоу зданїа цр҃ков<sup>s</sup>наа** 55б; **постави его на крилѣ цр҃квнѣмь** 12б; **до крове захарїа сн҃а варахїина, егωж<sup>s</sup> оубисте междоу цр҃квїю и олтарем** 55–55б; **азь всегда оучих на сънмищи ї въ цр҃кви** 232б; **до крове захарїа,**

погыбшаго между ѡлтарем҄ и храмѡм҄ 155; и въшедъ і҃съ въ цр҃квъ, начат҄ из҄гонити продающаа и коупжющаа въ цькви 101б. Для абазначэння храма ўжыты аналітычныя спалучэнні домъ божїи, храмъ божїи, церковь божїѧ: како въниде въ храмь б҃жїи 29; како въниде въ домъ б҃жїи 135; въниде въ цр҃ковъ б҃жїю, и изгна всѧ продающаа и коупоующаа въ цр҃кви 49.

Вялікую групу складаюць найменні рэлігійных свят, абрадаў і царкоўных служб, якія прадстаўлены галоўным чынам ва ўказаннях чытанняў Евангелля і ў месяцаслове: благовѣщенїе, въздвиженїе, день опрѣснокъ 'Вялікдзень', литоргїѧ 'літургія', навечерїе 'пярэдадне свята', недела цветнаѧ 'Вербная нядзеля', пасха, постъ, потченїе кѹщь, празьдникь опрѣснокь 'Вялікдзень', преображенїе господне, рождество христово 'Нараджэнне Божае', съборъ, оутренѧ і інш.: на бл҃говѣщенїе, на ѹт҄ 123; коц, нед, прѣд въздвиженнием 197; Прїиде же д҃нь опрѣснокь вън҄же пѡдобно бѣ врѣмѧ жрѣти пасхоу 178б; на литоргїи 251; в навечрїе рѡж҄ хв҃а 125; в нед, цвѣт, на ѹт҄ 48б; не поет сѧ литоргїѧ, ст҃го ради поста 245б; бѣ же близъ праздникь їоудѣискь, пот҄ченїе кѹщь 207; прибьлижаше же сѧ празьдникь опрѣснокь, нарицаемыи пасха 178б; на преображ҄нїе г҃не, на литоргїи 40б; съборъ ар҄хистратига михаила, и прочїих бесплътных 241б; на бл҃говѣщенїе, на ѹт҄ 123.

З назваў рэлігійных тэкстаў і іх частак адзначым наступныя: апостолъ, законъ господень, законъ моѵсѣовъ, книга, книги ѱалѡмскїе, ѡктоихъ, писанїе, пророки, псалмы, синаксарь 'збор гістарычных звестак пра свята або пра якога-небудзь святога': чти общее еѵг҃лїе, и апс҃лъ 248б; ꙗкоже ес писано въ законѣ г҃нї 126, сам бо дв҃дъ г҃лет въ книгах ѱалѡмскых 176; въ ѡх, глас, д҃, 252; тъгда ѡтврьзе им оумь разоумѣти писанїѧ 187; какоже оубо събоудоут сѧ пїсанїа 63б; г҃лахъ вам еще сыи с вами, ꙗко пѡдобаеть ськоньчати сѧ всѣм напїсан҄ным в законѣ моѵсѣовѣ и прорцѣхъ, и псалмѣх о мнѣ 187; ѡбрѣт҄ в синаксари 248б. Лексема евангелїе мае ў помніку некалькі значэнняў: 1) 'вучэнне Ісуса Хрыста пра Царства Божае': и прохождааше всю галилею і҃ѹ оуча на сънмищих ихь, и проповѣдаѧ еѵг҃лїе цр҃ствиѧ 13б; 2) 'кніга, якая распавядае пра жыццё, учынкі і вучэнне Ісуса Хрыста': еже ѡт матѳеа ст҃агѡ еѵг҃лїа 3б; предасть нам четверовбразное еѵг҃лїе 73; 3) 'артыкул або глава з Евангелля, якая чытаецца на літургіі і ў іншых выпадках': еѵг҃лїе, г҃, въскр҃сно 114б. Сінонімамі лексемы евангелїе ў другім значэнні з'яўляюцца намінацыі благовѣстїе і благовѣствованїе:

**Четыри жъ бл҃говѣстїа дасть нам** 4; **ѿ марка ст҃ое бл҃говѣствованиє** 76.

Адзначым, што словы, якія ўваходзяць у склад рэлігійнай лексікі, пераважна адназначныя. Кожнае паняцце перадаецца ў большасці выпадкаў адным словам, якое не мае словаўтваральных варыянтаў.

Рэлігійная лексіка звязана са значнай колькасцю слоў, характэрных для высокага стылю, часта яны або "ўтвораны ад спецыяльных слоў, або спалучаюцца ва ўжыванні са спецыяльнай лексікай" [203, 136]: **богоносныи, боголюбивыи, свѧщенныи, свѧщенномоученикъ.**

Можна пагадзіцца з меркаваннем В.Р. Порахавай, што "пэўнасць значэнняў слоў рэлігійнай… лексікі і выразнасць іх размежавання ва ўжыванні са словамі агульнай мовы тлумачацца тым, што… у сувязі з асаблівасцямі кола паняццяў, якія ёю абазначаліся і якія мелі цалкам дакладнае размежаванне з бытавымі паняццямі, яна дастаткова пэўна ўсведамлялася як прыналежнасць асобай сферы маўлення" [203, 137–138].

**Лексіка са значэннем прыкметы.** Асноўную семантычную нагрузку ў групе лексікі са значэннем прыкметы нясуць прыметнікі і прыслоўі.

Назвы, выражаныя прыметнікамі, служаць для перадачы атрыбутыўнай характарыстыкі слоў з дэнататыўным значэннем. Паводле лексічнага значэння кароткія і поўныя прыметнікі, ужытыя ў Слуцкім Евангеллі, падзяляюцца на якасныя, адносныя, прыналежныя. Значэнне прыкметы, ацэнкі ахоплівае шырокае кола якасцей, уласцівасцей, адносін, характэрных для асоб, прадметаў, з'яў.

Пашыранасцю вызначаюцца якасныя прыметнікі, якія абазначаюць станоўчыя і адмоўныя рысы характару чалавека: **благочестивь** 'набожны', **благыи** 'добры', **вѣрныи, добрыи, кротокъ** 'лагодны, рахманы', **мѹдръ, праведенъ** 'справядлівы, праведны', **простъ** 'шчыры'; **лоукавыи, лѣнивыи, ꙗръ** 'злосны': **бл҃гыи чл҃къ, ѿ бл҃гаго съкровїща, износить бл҃гаа** 30б; **чл҃къ сьи праведенъ и бл҃гочстивь** 126б; **добрыи рабѣ бл҃гыи и вѣрныи** 59; **люблѧше же сѧ паче всѣх оучн҃къ їωанⷭнь гм҃ь, ꙗко простъ же и кротокъ, и бл҃гонравⷭнѣишїи, и ꙗко чстъ срдцемь** 189б; **пѧтⷭ же бѣ ѿ них мѹдры, и пѧт жродивы** 58; **ѿ оустъ твоих соуждѹ ти лоукавыи рабѣ** 172б; **рече емоу лоукавыи рабѣ и лѣнивыи** 59б; **чл҃къ ꙗръ еси** 172б.

Фізічныя заганы і недахопы чалавека перадаюць лексемы **бѣснъ, глоухъ, гноинъ** 'пакрыты язвамі', **гоугнивыи** 'коснаязыкі', **дрѧхлъ** 'сумны, журботны', **неискоусенъ** 'безразважны, шалёны', **неистовь** 'шалёны', **неплоды** 'бяздзетная', **нѣмъ, прокаженъ, слоукъ** 'згорблены',

слѣпъ, оуродивъ 'неразумны, бязглузды; юродзівы' і інш.: се приведоша кˢ немоу, чл҃ка, нѣма, бѣсна 24; Нищь же бѣ нѣкто именем лазарь, иже лежаше прѣдъ враты его гноинъ 166б; ѡн же дрѧхлъ бывь о словеси, ѡтиде скръбѧ 99; понеже тъи възрастъ съвръшеныи въ немъ чл҃къ ес. или иськоусень, или неискоусенъ 118; гл҃хоужˢ многи ѡт нихъ, бѣсъ имат, и неистовь ес 216; и не бѣ има чада, понеже елисавеѳ бѣ неплоды 121б; и сеи прокаженъ, пришед кланѧше сѧ емоу гл҃ѧ 20б; и се жена бѣ имоущи дѹхь недоужень, лѣтˢ, ӣі, ї бѣ слоука 159б; видѣ чл҃ка слѣпа ѡт рождьства 213; всѧкь слышаи словеса моѧ си и не творѧ их, оупѡдобит сѧ моужоу оуродивоу 20.

Паводле ўзросту характарызуюць чалавека прыметнікі мнїи 'малодшы', старѣи 'старэйшы', юнѣишїи 'меншы, маладзейшы': събравь все мнїи сн҃ъ 164; бѣ же сн҃ъ его старѣи на селѣ 164б; чл҃къ нѣкыи имѣ два сн҃а, и реч юнѣишїи сынъ ею ѡц҃ѹ 164.

Нешматлікую фіксацыю маюць прыметнікі, якія характарызуюць чалавека з пункту гледжання яго маёмаснага становішча: богатъ, нищь 'бедны', оубогъ 'вельмі бедны': Чл҃къ же нѣкыи бѣ богатˢ, и облачаше сѧ въ порфироу и вӱсˢсонь 165; Нищь же бѣ нѣкто именем лазарь, иже лежаше прѣдъ враты его гноинъ 166б; пришедши едина въдовица оубога 105б.

У тэксце Слуцкага Евангелля таксама прадстаўлены прыметнікі, якія абазначаюць

разнастайныя якасці і ўласцівасці прадметаў, з'яў, рэчаў: богатыи, великъ, ветˢхъ 'стары', высокъ, глоубокь, золъ 'дрэнны', крѣпокъ 'моцны', мѧкокъ 'мяккі', новыи, чистыи і інш.: видѣвь мѣтающаа въ храмˢ на бдѧщїа имѣнїа дары своѧ богатыѧ 176; боудетˢ бѣда велика на земли 177б; и никтоже приложенїа плата небѣлена пришиваеть къ ризѣ ветˢсѣ 80; възведе их на гороу высокѫ 95; стоуденець ес глоубокь 198б; ѕло древо, плоды злы творить 19б; видѣ же вѣтръ крѣпокъ 36б; чл҃ка ли въ мѧкьки ризы облъчена 27б; ѡбвитъ е плащаницею чистою, и положи е въ новѣмь своемь гробѣ 67б;

колер: бѣлъ, багрѧнъ 'пурпурны', плавъ 'залацісты', чръвленыи 'чырвоны', чрьнъ 'чорны': одѣꙗнїе его бѣло ꙗко снѣгъ 68б; и в ризоу багрѧноу облѣкоша его 233б; възведѣте очи ваши и видете нивы ꙗко плавы соутˢ къ жатвѣ оуже 200; ѡдѣаша его хламидою чръвленѡю 66б; ꙗко не можеши власа единаго бѣла или чрьна сътворитї 15б;

прасторавыя паняцці: ближьнїи 'які знаходзіцца недалёка', окрестныи 'навакольны', прѣмнїи 'супрацьлеглы': идемˢ въ ближьнꙗꙗ веси и грады 78; шедше въ окрстныа веси и села 145б–146; идѣте въ прѣмнюѫ весь 173.

Вышэйшую ступень праяўлення станоўчых і адмоўных якасцей прэзентуюць прыметнікі ў форме вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання: **ꙗко простъ же и кротокъ, и бл҃гонрав$^{s}$нѣишіи, и ꙗко чстъ срдцемь** 189б; **мните ли ꙗко галілеане сіи, грѣшнѣиши пач всѣх галилѣанъ бѣаша** 156; **кол$^{s}$ми паче вы есте лоучьши птиць** 156б; **тъгда идеть и поимет$^{s}$ съ собою седмь инѣхь доуховъ лютѣишихь** 31; **моудрѣиши паче сн҃овъ свѣта въ родѣ сьвоемь соут$^{s}$** 165б.

Прыналежныя прыметнікі абазначаюць індывідуальную прыналежнасць прадмета або асобы пэўнай асобе: **архиереовъ, кнѧжь, саддоукѣискъ, фарисѣискъ, царскыи** і інш.: **оударі раба архиереова, и оурѣза емоу ѹхо** 63б; **и прішед іс҃ въ дом кнѧжь** 23б; **вънемліте ѡт кваса фарисѣиска и саддоукѣиска** 155б; **въ домѡх црскыхь соут** 27б. Трэба заўважыць, што ўтварэнне пасесіваў адлюстроўвае залежнасць ад экстралінгвістычных фактараў: падобныя лексемы паходзілі ад назваў асоб, надзеленых уладай (свецкай або царкоўнай), асобы, пазбаўленыя гэтай улады, даволі рэдка атрыбутаваліся з гэтага пункту гледжання.

Другую групу ўтвараюць шматлікія прыметнікі, матываваныя антрапонімамі, якія ў аснове сваёй з’яўляюцца імёнамі мужчын, напрыклад, **амосовъ, їѡсифовъ, наоумовъ, симонѡвъ** і інш.: **възыде же ї ѡсиѳъ ѡт галілѣѧ из$^{s}$ града назареѳа въ їюдѣю въ град двдвь, иже нарицает сѧ виѳлеѡм** 125; **быс гл҃ъ бж҃іи къ їѡанꙋоу захаріиноу сн҃оу въ поустыни** 128; **Тъгда пристоупиша къ немоу оуч҃нци їоан$^{s}$нови гл҃юще** 23; **сн҃ъ їѡсифовъ, иліевъ, мат$^{s}$фановъ, левіинъ, мелхіинъ, иаинаевъ. їѡсифовъ, мат$^{s}$тафіевъ, амосовъ, наоумовъ, елимовъ** 129б; **на моӱсеовѣ сѣдалищи, сѣдоша книж$^{s}$ници и фарисѣе** 53б; **въ врѣм ѡн пріиде іс҃. въ дѡм петров** 21; **Въниде въ дом симонѡв** 132; **и бѣ ан$^{s}$на пророчица д$^{s}$щи фаноуилева** 127. Асобна стаіць пасесіў **маріинъ**, які ўзыходзіць да жаночага імені **Маріѧ**: **оуслыша елисаве҄ѳ цѣлование мр҃іинѡ** 123. Вядома, што ў стараславянскіх тэкстах, акрамя гэтага прыметніка, існавалі яшчэ два пасесівы, якія мелі адносіны да жанчыны, **матерьнь** ‘матчын’ і **вдовичь** [120, 76], апошні з іх зафіксаваны ў тэксце Слуцкага Евангелля: **ѡ сн҃ѣ вдовичи** 116. Т.І. Вендзіна адзначае, што “гэта гаворыць не толькі пра своеасаблівую “мужчынскацэнтрычнасць” стараславянскай мовы, але і аб тым, што стараславянская мова адмаўляла жанчыне ў яе “самасці”, што ўвогуле знаходзілася ў адпаведнасці з дактрынай праваслаўнага хрысціянства” [120, 76].

Адносныя прыметнікі, зафіксаваныя ў Слуцкім Евангеллі, абазначаюць колькасна нязменныя прыкметы прадметаў не прама, а праз іх адносіны

да матэрыялу, рэчыва і пад., з якіх зроблены (прыгатаваны) прадмет:

желѣзнъ 'жалезны', швчїи 'авечы', хлѣбныи 'хлебны', ıачненъ 'ячменны' і інш.: вꙗзахѹ его оужы желѣзны 143б; приходꙗть к вамъ въ одѣждахъ швчахъ 19б; ıако не реч хранити сꙗ ѿ кваса хлѣбнагѡ 39б; ес отрочищь здѣ едїнь иже имат пꙗт хлѣбь ıачненъ и двѣ рыбѣ 36;

да прыналежнасці прадмета другому прадмету: горꙗшиченъ, гороушенъ 'гарчычны', жръновныи 'жорнаў', лозныи 'вінаградны', пшениченъ, церковныи: зръно горꙗшично, еже егда въсѣано боудеть на земли, мнѣе въсѣх сѣменъ есть земныих 84; Пѡдобно есть зръноу гороушноу, еже приемь чл҃кь 160; оунѣе емоу бы было, аще бы камень жръновныи възложень на выю его 167–167б; не имам пити оуже ѿ сего плъда лознаго, до дн҃е тогѡ, егда и пїꙗ съ вами ново въ црствїи ѡц҃а моег 62; аминь, гл҃ю вам, аще зръно пшенично пад на земли не оумреть 221; и веде его въ їерслмь. и постави его на крилѣ црквнѣмь 130б;

да месцазнаходжання прадмета: земныи, морьскои, небесныи, селныи 'палявы, лугавы': мнѣе въсѣх сѣменъ есть земныих 84; да ѡбѣсит сꙗ жръновъ ѡсельскыи на выи егѡ, и потонеть въ поучинѣ морьстеи 42б; придоша птица нбсныа 32; съмотрите кринь селных 18;

да тэрыторыі знаходжання прадмета: галилеискыи, генисаретьскыи, елеоньскъ, їероусалимьскыи, їоудеискыи, самарꙗнскъ і пад.: къ нисхожденїю горѣ елеоньстѣи 48б; прїидоша въ землю генисаретьскоую 36б; пришли ѿ всꙗкоꙗ веси галилеискыꙗ и їоудеискыа. и ѿ їерслмьскыа 133б; И съниде въ капернаоумъ въ град галилеискъ 131б; град галїлѣискыи емоуже имꙗ назареѳ 122б; изшедше, вънидоша въ весь самарꙗнскоу 148б;

да прызначэння прадмета: брачныи 'прызначаны для вяселля'; закон^sныи, кин^sсоньныи 'прызначаны для аплаты падатку': видѣ тоу чл҃ка не ѡблъчена въ одѣанїе брачное 51б; егда въведоста рѡдителѣ отрочꙗ іс҃а сътворити има, по обычаю закон^sномоу о немь, и тъи прием его на роукꙗ своею и блсви бг҃а 126б; покажите ми златицоу кин^sсоньноую 52;

да часавых паняццяў: врѣмененъ, днеш^sнїи, нощныи 'начны', соуботнїи, оутрѣи 'заўтрашні': и показа емоу всꙗ црствїа вселеныꙗ въ часѣ врѣмен^sнѣ 130; прѣбыли оубо быша до днеш^sнꙗго дн҃е 28; стрегоуще страждоу. нощноую о стадѣ своемъ и вънидe по ѡбычаю своемоу. въ дн҃ь въ сѡнмище 130б; Въ вечеръ же соуботныи свитающи въ единоу ѿ соуботъ, прїиде мр҃їа магдалыни, и дроугаа мр҃їꙗ, видѣти гробъ 68б; Въ оутрѣи же дн҃ь иж^s есть по пꙗт^sцѣ, събрашꙗ сꙗ архїерее и фарисее къ пилатоу 68.

Выкарыстанне лексем, выражаных прыслоўямі, накіравана на ўсебаковае раскрыццё прыкмет рознага кшталту дзеянняў і стану. У тэксце частотнасцю ўжывання вылучаюцца

прыслоўі часу: **авїє** 'адразу', **вынѫ** 'заўсёды, пастаянна', **єгда** 'калі', **днесь** 'сёння', **доселѣ** 'да гэтага часу', **древлє** 'раней, некалі', **дъндеже** 'пакуль', **заоутра** 'на другі дзень раніцай', **издѣтьска** 'з дзяцінства, з дзіцячых гадоў', **наоутрїа** 'назаўтра', **нынѣ** 'сёння', **паки** 'зноў', **полоуноци** 'апоўначы', **послѣдъ** 'пазней, потым', **рано** 'рана', **оутро** 'раніцай' і інш.: **кр҃стив ся ї҃у, възыде авїє ѿт воды** 12; **бѣахꙋ вынѫ въ цр҃кви** 187; **азъ єгда възвращоу ся въздам ти** 151; **ꙗко ты днес въ нощь сїю, прѣжде даждь вторїцею пѧтелъ не възгласит, три краты ѿтвръжеши ся мене** 109; **Ѿц҃ь мои доселѣ дѣлаєть, и азъ дѣлаю** 202; **древлє оубо въ врѣтищи и пепелѣ сѣдѧще покаали ся бышѧ** 149б; **дъндеж три краты ѿтвръжеши ся мене** 180; **заоутраж пакы прїиде въ цр҃квь, и вси людїє, идѧхѫ к немоу** 209б; **въпроси ѿц҃а его, колико лѣт єс ѿтнелиже се быс ємоу, он же рече издѣтьска** 96; **наоутрїа изъшед** 151; **гл҃а ємоу петръ, г҃и, по что не могоу нн҃ѣ по тобѣ ити** 224б; **ꙗви же ся ємоу агг҃лъ, и паки чти здѣ** 62б; **їдеть къ немоу полоуноци, и речть ємоу, дроуже даждь ми възаимы, три хлѣбы** 152; **послѣд же рече в себѣ** 169б; **ѕѣло рано, прїидоша на гробь** 184б; **оутро мимоходѧще, видѣша смоковнїцꙋ исъхшѫ ис коренїѧ** 102;

прыслоўі месца: **вънѣ** 'звонку', **вънꙋтрьоудѫ** 'ўнутры', **вънѣоудоу** 'звонку, па-за чым-небудзь', **въсоудѣ** 'паўсюль', **далече** 'далёка', **здѣ** 'тут', **издалече** 'здалёк', **камо** 'куды', **одесноую** 'з правага боку', **ондѣ** 'там', **ѿтоудѫ**, **ѿселѣ** 'адсюль', **ѿсѫдоу** 'адсюль', **ѿтоудоу** 'адтуль', **ошоую** 'з левага боку', **съзади**, **сѣмо** 'сюды', **тамо** 'там' і інш.: **се м҃ти твоѧ и братїѧ твоѧ. вънѣ стоѧть** 31б; **пѡдобите ся гробѡм поваплєнѡм, иже вънѣоудоу ꙋбо ꙗвьлѧют ся красни, вънꙋтрьоудѫ же плъни соут костїи мрътвых, и вьсѧкоѧ нечистоты** 54б–55; **исцѣлѧюще въсоудѣ** 145б; **ѿтиде на страноу далече** 164; **реч петръ къ їсус. наставниче добро єс нам здѣ быти** 147; **оузрѣ авраама издалече** 166б; **нъ не вѣси ѿткоудѫ приходит, и камо идеть** 196б; **еже сѣстї одесноую мене, и ошоую мене, нѣс моє дати, нъ имже оуготова ся ѿт оц҃а моего** 48; **и рекоут вам, се здѣ, се ондѣ х҃с** 168б; **ѿселѣ бѫдеть сн҃ъ чл҃чскыи сѣдѧ ѡдѣсноую силы бж҃їѧ** 181б; **хотѧщеи прѣити ѿсѫдоу къ вам** 167; **преиде ѿтоудоу оуч҃ти и проповѣдати** 27; **боуди тамо дондеже рекоу ти** 10б; **ставши при ногоу єгѡ съзади** 140б; **приведи ми сн҃а твоего сѣмо** 147б;

прыслоўі спосабу дзеяння: **вторицею** 'ў другі раз, паўторна', **въистиноу**, **въкоупѣ** 'разам', **вънезаапꙋ** 'нечакана', **излиха** 'праз меру,

занадта', како 'як, якім чынам', моудре 'мудра', прїлѣжно 'прылежна', сторицею 'шматкратна', таи 'тайна', тако 'так, такім чынам', тоуне 'дарам': пакы вторицею шед, помоли сѧ, гл҃ѧ, оч҃е мои, аще не можеть сїа чаша мимоити ѡт мене, аще не пию еѧ, боуди волѧ твоѧ 63; поути бж҃їю въистиноу оучиши 52; боудетѣ двѣ въкоупѣ мелющи 169; наидет на вы вънезаапꙋ дн҃ь тъи 178; игемѡн же реч, что бо ѕлѡ сътвори, они же излиха въпїахоу гл҃юще. да пропѧтъ боудеть 66; или како можеть кто внити въ дѡм крѣпкаго, и съсоуды его расхитити 30; и похвали гд҃ь домоу строителѧ неправеднаго ꙗко моудре сътвори 165; прїлѣжно вадѧще нань 182б; дроугое же паде на земли блазѣ, и прозѧбь. сътвори плѡд сторицею 141б; и не хотѧ еѧ обличити. въсхотѣ таи поустити ю 9; тако и реч имь, ꙗко тако писано ес, и тако пѡдобаше пострадати хв҃оу, и въскрсноути ѡт мрътвых третїи дн҃ь 187; тоуне прiꙗсте, тоуне дадите 25;

прыслоўі меры і ступені: вѧще 'больш', едва 'ледзь', ѕѣло 'вельмі', мало 'мала', пѡлма 'папалам', седмищи 'сем разоў', толико 'столькі', оунѣе 'лепш' і інш.: мню ꙗко емоуже вѧще ѡтда 141; нъ и писаниемь изложити тѣмь ꙗже о хв҃ѣ коуплѧ, едва оубо повиноувъ сѧ съписа 72б; бѣ бо богат ѕѣло 170б; они же рѣша, седмь, и мало рыбиць 39; и аще седмищи на дн҃ь съгрѣшить к тобѣ, и седмищи на дн҃ь обратит сѧ, гл҃ѧ, каю сѧ, остави емꙋ 167б; протешеть его пѡлма, и часть его съ невѣрными положить, тоу боудеть плачь, и скрежеть ѕоубѡм 58; толико он же ѡтвѣщавь рече ѡц҃оу, се толико лѣт работаю тебѣ, и николиж заповѣди твоѧ прѣсьтоупих 165; оунѣе емоу бы было, аще бы камень жрьновныи възложень на выю его 167–167б.

**Лексіка са значэннем дзеяння.** У тэксце Слуцкага Евангелля шырока прадстаўлена група перцэптыўных дзеясловаў, якія характарызуюць здольнасць чалавека ўспрымаць навакольны свет органамі пачуццяў.

Да дзеясловаў зроку адносяцца лексемы видѣти, възрѣти 'паглядзець', глѧдати 'глядзець', зрѣти 'бачыць', обьглѧдати 'аглядаць', призрѣти 'паглядзець', съзирати сѧ 'пераглядацца, глядзець адзін на аднаго', съмотрѣти, оузрѣти 'ўбачыць': оутро мимоходѧще, видѣша смоковнїцꙋ исъхшѫ ис коренїѧ 102; възрѣ на петра, и помѧнѫ петръ слово гн҃е 181б; Тъгда приведоша к немоу бѣсноующа сѧ слѣпа и нѣма, ї исцѣли его, ꙗко слѣпомꙋ и нѣмомоу гл҃ати, и глѧдати 29б–30; и не на лица зрїшї нъ воистинноу пѫти бж҃їю оучиши 175; и гл҃ши кто сѧ прикосноу мнѣ. и обьглѧдааше видѣти сътвѡршжю се 86б; оучителю молю ти сѧ, призри на сн҃а моего 147б; съзирахоу же сѧ

междоу собою ꙋчнци не домыслаще са ѡ кѡм глет 224; съмотрите кринь селных како растуть, не троуждают са, ни прадоуть 18б–19; їзъшедшѫ же емоу къ вратѡм, оузрѣ его дроугаа, и гла имь 64б.

Сярод дзеясловаў слыху вызначаюцца словы вънимати 'слухаць', послоушати, слышати, оуслышати, чѫти: Вънемлѣте млстынѧ ваша, не творити прѣд члкы, да видимї боудете ими 16б; ї иже аще не прїиметь вас, ниже послоушаеть словесъ ваших 25; имѣаи оуши слышати, да сьлышить 34; марфаж егда оуслыша ꙗко їсъ градет, срѣте его 218; въшед въ дѡм, никогоже хотѣаше дабы его чѫлъ, и не може оутаити са 92.

Сярод дзеясловаў, якія характарызуюць фізіялагічны стан чалавека, адрозніваюцца дзеясловы, а) семантыка якіх адлюстроўвае патрэбу чалавека ў ежы і піцці і задавольванне гэтай патрэбы: въжаждати са 'адчуць смагу', възалкати са 'выгаладацца', напитати 'накарміць', напоити, насытити са, пити, ꙗсти 'есці': всакь пьаи ѡт воды сеа въжаждет са 198б; оучнци же его възалкаша са, и начаша въстръзати класы и ꙗсти 28б; когда та видѣхѡм алчюща, и напитахѡм, или жаждоуща, и напоихом 60; дасть оучнкѡм хлѣбы, оучнци же народомъ. и ꙗдоша вьси и насытиша са 36; ꙗко к томоу не имам пити ѡт плъда лознаго до дне того 109; б) дзеясловы, якія абазначаюць хваравіты стан чалавека: изнемогати 'знемагаць', ослабѣти, проужати са 'біцца ў канвульсіі, мучыцца': изнемогоша члци 3б; аще ѡтпоущѫ ихь не ꙗдша въ домы своа, ослабѣють на поути 92б; оучителю молю ти са, призри на сна моего. ꙗко единороден ми есть. и се доухь емлеть его. и вънезапоу въпїеть, и проужает са съ пѣнами 147б; сюды ж адносіцца словазлучэнне имати въ недꙋзѣ 'хварэць': ꙗко многа лѣта оуже имѣаше в недꙋзѣ 201–201б. Дзеясловы исцѣлѣти 'вылечыцца', исцѣлати са 'вылечвацца', прозирати 'станавіцца відушчым', очищати са 'пазбаўляцца ад чаго-небудзь шкоднага' абазначаюць працэс выздараўлення: нъ токмо рци слово, ї исцѣлѣеть ѡтрокъ мои 20б; и стражадоуще" ѡт доухь нечистыхъ, исцѣлахоу са 136; ꙗко слышита и видита слѣпїи прозирають, и хромїи ходать, прокаженїи очищают са 27.

Да дзеясловаў, якія абазначаюць дрэнныя ўчынкі, дзеянні, адносяцца ѕлословити 'праклінаць', красти, лъжесвѣдѣтельствовати 'ілжыва сведчыць', обидѣти, погоубити, предати 'здрадзіць', прѣльстити 'падмануць', съблазнити са 'спакусіцца', скврънити 'брыдкасловіць', оубити, оукрасти, оумертвити 'ўмярцвіць' і інш.: иже ѕлословить оца или мтре, смртию да оумрет 91; идеже татие подкопавають и крадꙋт 17б; мьноѕи бо лъжесвѣдѣтельствовахѫ нань 110б; мноѕи бо прїидѫть

въ имѧ мое глюще, ꙗко азъ есмь, и многы прѣльстѧть 10б; и тъгда съблазнѧт сѧ мнози, и дроугъ дроуга предадѧть, и възненавідить дроугъ дроуга 5б; не въходѧщее въ оуста, скврънить человѣка, исходѧщее изъ оустъ то ськвръни‍ть чл҃ка 37б; не оуби, не оукради, не лъжесвѣдѣтельствоуи, не обиди, чьти ѡц҃а твоего и мт҃ре 99; тать не приходит, нъ да оукрадет и оубиеть и погоубит 215б; искааху на іс҃а свѣдтельства да оумрътвѧть его 110б. Дзеяслоўна-іменныя спалучэнні прѣлюбы дѣѧти, прѣлюбы творити, прѣлюбы сътворити, ѕло сътворити дапаўняюць гэту групу назваў: всѧкь поущаѧи женоу свою и приводѧ иноу, прѣлюбы дѣеть, и женѧи сѧ поущеною ѡт моужа, прѣлюбы творить 166б; іс҃ъ же рече, еже не оубїеши, не прѣлюбы сътвориши, не оукрадеши, не лъжесвѣдѣтельствоуеши, чти ѡц҃а и мт҃ре 45б; он же третїю реч к ним, что бо ѕло сътворилъ сьи 183.

Дзеясловы маўлення ў тэксце Слуцкага Евангелля размяркоўваюцца на некалькі падгруп. У першай аб'яднаны дзеясловы, якія абазначаюць маўленчы акт, указваюць на сам факт вымаўлення ў працэсе моўных зносін: възвѣстити 'паведаміць, расказаць', възглаголати 'загаварыць', възгласити 'ўсклікнуць', възъпити 'ўсклікнуць', глаголати 'гаварыць', глашати 'зваць', звати, повѣдѣти 'паведаміць, расказаць', призвати, прорещи 'прагаварыць', просити, рещи 'гаварыць', сказати: възвѣстишѧ вся си единомоу на і, и всѣм прочимь 185; егда же повѣдоут вы прѣдающе, не прѣжде пецѣти сѧ чтѡ възглете 10б; дъндеж възгласиша родителѣ того прозрѣвшаго, и въпросиша 214б; ѡ девѧтем же часѣ, възъпи іс҃ъ гласѡм велїемь глѧ 67–67б; начатъ іоу народѡм глати ѡ їоанн҃ѣ 27б; оучтель прїиде, и глашает тѧ 218б; начат звати и глати, сн҃е двдвь іс҃е помилоуи мѧ 100б; посла рабы своѧ призвати званыѧ на бракы 51б; до їѡанна прорекоша 27б; рече цр҃ь двци, проси оу мене еже аще хощеши, и дам ти 88б; приидоста въ град, и обрѣтоста ꙗкоже рече има, і оуготоваста пасхоу 108б; ꙗко вся ꙗж слышах ѡт оц҃а моего, сказах вамь 227б. Дзеясловы въпросити 'спытаць' і ѡтвѣщати 'адказваць' у шэрагу выпадкаў выступаюць арганічным элементам сказаў з простай мовай – аднаго з найбольш ужывальных кампанентаў сінтаксічнай арганізацыі тэксту ў Слуцкім Евангеллі: и въпросиша его оучнци его, глюще, равви, кто съгрѣши, сьи ли, или родителѣ его, да слѣпъ роди сѧ. ѡтвѣща іс҃ъ, ни сїи съгрѣши, ни родитѣлѣ его 213.

Другую падгрупу ўтвараюць дзеясловы волевыяўлення, або дзеясловы са значэннем імператыўнасці, гэта значыць маўленчага ўздзеяння на адрасата, якое патрабуе ад яго фізічнай ці псіхічнай рэакцыі: бранити 'забараняць', задѣти 'прымусіць', заповѣдѣти 'загадаць',

запрѣтити 'загадаць', повелѣти 'загадаць', поноудити 'прымусіць', сказати 'загадаць': іс҃ъ же призвавь их гл҃а, не дѣите дѣтїи приходити къ мнѣ, и не браните им 170; обрѣтоша чл҃ка кѵринеиска именемь, симона, и семоу задѣша понести крстъ егѡ 66б; заповѣда имь іс҃ъ гл҃а, никомоуже повѣдите видѣнїа, дъндеже сн҃ъ чл҃чьскыи из мрътвых въскрснет 41; и запрѣти им, да нікомоуж повѣдат ꙗже видѣша 95; повелѣ народѡм възлещи на земли 39; поноуди іс҃ъ оуч҃нкы своꙗ вълѣсти въ корабль 36; кьто сказа вамь бѣжати ѡт грꙗдоущаго гнѣва 11б.

Адна з самых прадстаўнічых груп дзеяслоўнай лексікі – дзеясловы руху. Т.І. Вендзіна, зрабіўшы назіранні над тэкстамі старaславянскай мовы, адзначыла: "Самае яркае адрозненне дзеяслова ад імені звязана, відаць, з тым, што чалавек як фізічная істота паўстае перад намі не столькі ў статыцы, колькі ў дынаміцы, паколькі самую вялікую групу лексем (каля двухсот дзеясловаў), якія характарызуюць чалавека як істоту фізічную, утвараюць дзеясловы руху" [120, 100]. У гэтай групе вызначаюцца лексемы ити і ходити, звязаныя з перамяшчэннем у прасторы пехатой, а таксама шматлікія вытворныя ад іх, у якіх з дапамогай дэрывацыйных сродкаў дэталізуецца напрамак руху:

ити – възыти, вънити 'ўвайсці, уступіць', изыти 'выйсці', обыти 'абысці', отити 'адысці, пайсці', прїити, сънити 'сысці ўніз, спусціцца': ѡтвѣща емȣ сїмонъ петръ, г҃и, къ комоу идем 207; и гл҃а емоу по мнѣ грꙗди, и въставь по нем иде 22б; хождаахꙗ по немь и слоужаахоу емоу, ї ины многыꙗ, ꙗже възыдоша съ ним въ їерслим 113б; како вънидє въ храмь бж҃їи 29; и оставль ихь изыдє вънъ изъ града въ виѳанїю 49б; и хождаше іс҃ъ въ црк҃ви, въ притворѣ соломони. обыдошаж їоудѣи, и гл҃хоу 216; іс҃ъ же отиде съ оуч҃нкы своими къ морю 81; тъ" єсть їлїа хотꙗи прїити 27б; и сънидє съ нима, и прїидє въ назареѳ 127б; ходити – въсходити 'ўзыходзіць', исходити 'выходзіць', ѡтходити, приходити, проходити, прѣхѡдити 'пераходзіць': и реч ѡслабленомоу тебѣ гл҃ю въстани и ходи 134; и реч имь, се въсходимь въ їерслмъ 47б; и вън же дом вънидѣте, тоу прѣбываите. и ѡттоудȣ исходите 145; ꙗкѡже бо чл҃къ нѣкыи ѡтходꙗ, призва своꙗ рабы 58б; вънемлѣтеж ѡт лъжихь прркъ, иже приходꙗть к вам въ одеждах ѡвчахъ 19б; прохождаше іс҃ъ грады вьсꙗ и веси, оучꙗ на сънмих ихь 24; прѣхѡдить сквозѣ безводнаа мѣста ища покоа 31.

Акрамя відавочнай канкрэтызацыі руху трэба падкрэсліць іх фазіснасць, імкненне зазначыць праз моўныя адзінкі пачатак і заканчэнне руху, параўн.: ити – прїити – обыти, ходити – въсходити – приходити. У

пэўных кантэкстах некаторыя дзеясловы выступаюць у пераносным значэнні. Напрыклад, у канструкцыі **изыде вѣсть си пw всеи земли тои** 24 дзеяслоў **изыде** рэалізуе значэнне 'распаўсюдзіцца'; у кантэксце **егда же нечисты" доухь изыдеть wт члка** 31 дзеяслоў мае значэнне 'пакінуць'.

Значэнне перамяшчэння ў прасторы перадаюць таксама дзеясловы **бѣгати, бѣжати, варити** 'ісці наперадзе', **водити, вълѣзти** 'ўвайсці', **вѣсти, грѧсти** 'ісці', **wтстоупити** 'адысці', **приближати сѧ, привести, пристоупити** 'прыблізіцца, падысці', **притещи** 'прыбегчы', **стоупати, тещи** 'бегчы' і інш.: **Тъгда соущеи въ їюдѣи да бѣгают на горы** 177б; **пасоущіи же свиніѧ, бѣжаша, и възвѣстиша въ градѣ и въ селѣх** 85б; **абїе поноуди їсъ оучнкы своѧ вълѣсти въ корабль, и варити его на wнwм полоу, дън деже wтпоустит, народы** 36; **еда можеть слѣпець слѣпца водити** 137б; **снидоша ѹчнци его на море, и вълѣзоша в корабль, идѧхоу на wнъ пол морѧ в капрънаум** 204б; **и егда пороугаша сѧ емоу, съвлекошѧ съ него багрѧницоу, и облекоша его въ ризы его, и вѣдоша его на пропѧтие** 66б; **азъ рѣх, по мнѣ грѧдеть моужь иже прѣд мною быс** 193б; **сам wтстоупи wт нихь** 180; **идѣже тать не приближает сѧ** 157; **приведоша къ немоу глоуха гоугнива** 92; **пристоупиша к немоу оучнци его** 35б; **И исходѧщоу емоу на поуть, притекь нѣкыи** 98б; **абїе текъ единъ wт них, и приемъ гѹбѹ, исплънивъ же оцта** 67б.

Сямейныя адносіны прэзентуюць дзеясловы **дѣтотворити, женити сѧ, зачѧти, оженити сѧ, посагьноути** 'выйсці замуж', **родити, съвокоупити сѧ** 'ўступіць у палавыя адносіны', а таксама дзеяслоўна-іменныя спалучэнні **знати моужа** 'быць у інтымных адносінах', **поѧти женоу** 'ажаніцца', **поустити женоу** 'развесціся', **поустити моужа** 'развесціся', **съпрѧжати сѧ женоу** 'жаніцца': **приведъ женоу его їаковъ, дѣтотворить wт неѧ** 118б; **аще тако ес вина члкоу съ женою, оунее ес не женити сѧ** 45; **и се елїсавеѳ южика твоѧ, и та зачѧт сна въ старости своеи** 123; **Єлисавеѳи же исплъни сѧ врѣмѧ рwдити еи, и роди сна** 124; **Прѣжде даждь не съвокоупити сѧ има** 9; **въпросишѧ его, речеж мрїамь къ агглоу, како боудеть се идеже моужа не знаю** 123; **поиметь брат егw женѫ его** 104; **аще достоить моужѫ женоу поустити** 98; **Иже аще поустить женоу свою, и wженит сѧ иною, прелюбы творить на ню, и аще жена поустить моужа, и посагьнеть за инъ, прелюбы творить** 98б; **аще кто оумреть бесчаденъ, семоу женоу съпрѧжати сѧ братоу его** 119.

Дзеясловы, якія абазначаюць эмацыянальны стан чалавека, размяркоўваюцца на дзве падгрупы: дзеясловы адчування, эмацыянальнага

стану і дзеясловы жадання. У першую падгрупу ўваходзяць дзеясловы блазнити сѧ ‘абурацца’, възлюбити ‘палюбіць’, възненавидѣти, възрадовати сѧ, гнѣвати сѧ ‘злавацца’, дивити сѧ, любити, ненавидѣти, радовати сѧ, разгнѣвати сѧ, раскаати сѧ ‘пакаяцца’, скрьбѣти, смоутити сѧ ‘засаромецца’, тоужити, оубоꙗти сѧ, оудивити сѧ, оутѣшити сѧ ‘супакоіцца’ і інш.: блажнѣхоу сѧ ѡ нѣмь 35; і҃съ же възрѣвь нань, възлюби его 99; ни҃нѣ же видѣша и възненавидѣша и мене, и ѡ҃ца моего 228; они же слышавꙿше възрадоваша сѧ, и ѡбѣщаша емоу сребьреникы дати 108; иродїа же гнѣваше сѧ нань, и хотѧше его оубїти, и не можааше 88; дивлѣхоу сѧ вьси нарѡди г҃люще 30; аще любите любѧщаа вы 137; и граждане ег, ненавидѧхѹ его, и послаша м҃лтвоу въслѣд его 172; вси людїе радовахѹ сѧ о всѣх славных бывающїихь ѿ него 160; слышавъ ц҃рь тъ, разгнѣва сѧ, и пославъ воѧ своѧ, погоуби оубиица ты 51б; вы же видѣвꙿше, не раскаасте сѧ 50б; оба с҃на зеведеѡва, начат скрьбѣти и тоужити 62б; слышавꙿ же їродъ ц҃рь, смоути сѧ, и всѣ їерслма с ним 9б; и хотѣаше его оубити, оубоꙗ сѧ народа 35; слышавꙿ же і҃ѹ, оудиви сѧ, и рече грѧдоущїимь по нем 21; рахиль плачѹщи сѧ чадъ своих, и не хотѧаше оутѣшити сѧ 10б.

Другая падгрупа прадстаўлена лексемамі волѣти ‘хацець’, въсхотѣти, желати, хотѣти: г҃лѧ, ѡ҃че, аще волиши, мимо неси чашоу сїю ѿ мене, обач не моѧ волѧ, нъ твоѧ да боудет 180б; нъ сътвориша о немь всѧ елика въсхотѣша 41б; желаше насытити чрево свое, ѿ рожець 164; рабь болѧ ѕлѣ хотѧше оумрѣти 138б.

Да дзеясловаў інтэлектуальнай дзейнасці адносяцца възнепꙿщевати ‘думаць, выказваць меркаванне’, вѣдѣти ‘ведаць’, знати, мнити ‘меркаваць, лічыць’, мыслити, наоучити сѧ, познати, помнити, помышлѧти ‘разважаць’, разсоуждати, разоумѣти, оучити сѧ і інш.: възнепꙿщоуют х҃а тъгда прьвїе въ бытїе прїити егда ѿ марїа роди сѧ, а не прѣвѣчно ѿ ѡ҃ца родити сѧ 189; Бдите оубо ꙗко не вѣсте въ кыи час г҃ь вашь прїидеть 57б; г҃лѧ, жено, не знаю его 181; ѿвѣщавъ і҃съ реч имь. мните ли ꙗко галїлеане сїи, грѣшнѣиши пач всѣх галилѣанъ бѣаша, ꙗко тако пострадаша 159; чтѡ мыслите въ себѣ маловѣри 39б; възмѣте иго мое на себѣ, и наоучите сѧ ѿ мене, ꙗко кротокъ есмь и смѣрень срьдꙿцемь, и обрѧщете покои д҃шамь вашим 28б; и познаша их мноѕи 89; помните слово еже рѣх вам 227б; начаша помышлѧти книжꙿници и фарисее г҃люще 134; оумѣете разсоудждати 39; тъгда разоумѣша оучн҃ци, ꙗко ѡ їоанꙿнѣ крстли рече имь 41б; прїиде ч҃лкь богат ѿ аримаѳеѧ, именем їосиѳъ, иже и тъ оучи сѧ ѹ і҃са 68.

Да дзеясловаў, якія абазначаюць іншыя віды дзейнасці, адносяцца **въжагати** 'запальваць', **въкопати**, **въмѣтати** 'закідваць', **въстръгноути** 'вырваць', **жати** 'жаць', **ископати** 'выкапаць', **исцѣлити** 'вылечыць', **насадити** 'пасадзіць', **наоучити**, **оградити** 'абгарадзіць', **пасти** 'пасвіць', **пискати** 'іграць на жалейцы', **плѧсати** 'танцаваць', **работати** 'служыць', **съжизати** 'спальваць', **създати** 'пабудаваць', **сѣѧти** 'сеяць', **оучити** і інш.: **ни въжагаютъ свѣтилника и поставлѧють его под споудомъ** 14; **шедъ въкопа его въ землю, и съкры сребро господина своего** 59; **ꙗкоже чл҃къ въмѣтаеть сѣмѧ въ землю** 84; **въстръгнете с ними и пшеницоу** 33; **смотрите вранъ, ꙗко не сѣють, ни жноуть** 156б; **виноград насадї чл҃кь, и ѡгради оплотом, и ископа точило, и създа стлъпъ** 103; **реч нѣкыи ѡт оученикь его къ немоу, гн҃, наоучи ны молити сѧ** 151б; **въ тъи же час. исцѣли многы ѡт недоугь и ранъ, и доухь ѕлыхь** 139б; **посла его на села своѧ пасьти свинїа** 164; **пискахомъ вам и не плѧсастѣ. рыдахѡм вамь, и не плакастѣ** 140; **никтоже можеть двѣма господинома работати** 18; **ꙗкѡж оубо събирають плѣвелы, и огнемь съжизают** 34; **иже създа храминоу свою на камени** 20; **вѣдаше ꙗкѡ жъноу идеже не сѣѧх** 59б; **начѧт на сън̾мищи оучити, и мьноѕи слышащеи дивлѧхоу сѧ** 87.

Характэрнай рысай лексікі Слуцкага Евангелля з'яўляецца наяўнасць сінонімаў: **алекторъ – пѧтелъ**, **моужь – человѣкъ**, **слово – глаголъ**, **доумати – размышлѧти**, **ѡтрочищь – дѣтищь** і інш.: **ї изыде вонъ на прѣддворїе, и алекторъ възгласи, ї рабыни видѣвши его пакы, начатъ гл҃атї предстоꙗщим** 11б – **ꙗко ты дн҃ес въ нощь сїю, прѣжде даждь вторїцею пѧтелъ не възгласит, три краты ѡтвръжеши сѧ мене** 109; **подобни сѹть ѡтрочищемь сѣдѧщїимь на тръжищих** 140 – **пѡдобень есть дѣтищем сѣдѧщїим на тръжищих** 27б; **въниде по ѡбычаю своемоу. въ дн҃ь соуботныи въ сѡнмище** 130б – **И быс же въ дроугоую соуботоу. вънити емоу въ сон̾мище и оучити** 135б; **Бѣ ї҃съ въ единѡм ѡт градовъ и се моуж исплънь прокаженїа. и видѣвь ї҃са паде ниць молѧ сѧ** 133 – **и обрѣтоша чл҃ка сѣдѧща, из негоже бѣси изыдоша** 143б; **да свѣдѣтельствоуеть о свѣтѣ, да вси вѣроу имоут емоу** 192 – **и приближи сѧ црствїе бж҃ие, покаите сѧ, и вѣроуите въ еѵг҃лїе** 77; **не прїидѡх, призвати праведникы, нъ грѣшникы** 79б – **не прїидохь призвати правед̾ных, нъ грѣшьныꙗ** 134б; **Быс їоан̾нь крстѧ въ поустынї и проповѣдаа кр҃щенїе покаанїѧ въ ѡтпоущенїе грѣховъ** 76 – **и прїиде въ всю странoу їор̾даньскоую, проповѣдаꙗ кр҃щенїе покаанїа, въ ѡставленїе грѣхѡвъ** 128; **имат сн҃ъ**

**ч҃лчьскыи на земли ѿпоущати грѣхы** 22б – **ктѡ можеть ѡставлѧти грѣхы, тъкмо єдинъ б҃ъ** 79.

Як паказалі назіранні, у сінанімічныя адносіны ўступаюць розныя па паходжанні словы (**алекторъ – пѧтелъ**), універбальныя і бівербальныя назвы (**имѣти вѣроу – вѣровати**), назоўнікі і субстантываваныя прыметнікі (**грѣшникъ – грѣшьныи**). Наяўнасць у Слуцкім Евангеллі, як і ў большасці перакладных кананічных тэкстаў, некалькіх сінонімаў для выражэння некаторых паняццяў ёсць з'ява заканамерная; яна з'яўляецца паказчыкам адбору і пошуку больш аптымальнай і дасканалай намінацыі для перадачы пэўнага паняцця, з'явы, прадмета, дзеяння, паколькі, як вядома, перакладчыкі першых кананічных тэкстаў "адно і тое ж грэчаскае слова перадавалі на славянскай мове рознымі словамі ў залежнасці ад таго, якое славянскае слова лепш і дакладней адпавядала адценню значэння слова, якое перакладаецца" [181, 9]. Разам з тым сінанімія выступае сведчаннем багацця і разнастайнасці лексічных сродкаў царкоўнаславянскай мовы для выражэння і абазначэння самых розных жыццёва важных рэалій.

Пры перавазе адназначных лексічных адзінак у манускрыпце маюць месца мнагазначныя словы: **врѣмѧ** 'час, перыяд; зручны момант, належны тэрмін', **господь** 'Бог, Гасподзь; пан, гаспадар', **евангеліє** 'вучэнне Ісуса Хрыста пра Царства Божае; кніга, якая распавядае пра жыццё, учынкі і вучэнне Ісуса Хрыста; артыкул або глава з Евангелля, якая чытаецца на літургіі і ў іншых выпадках', **жена** 'жанчына; жонка', **моужь** 'мужчына; муж', **расточити** 'раскідаць; растраціць', **страна** 'бок, край; краіна, мясцовасць', **хлѣбъ** 'хлеб; луста хлеба; ежа ўвогуле'; **часъ** 'пара; адзінка вымярэння часу', **ꙗзыкъ** 'мова; язык; народ' і інш. Напрыклад, **въ то врѣмѧ иде і҃ѵ въ соуботы сквозѣ сѣаніа** 28б – **и въ врѣмѧ жатвы, рекоу жателемь, съберѣте пръвіє плѣвелы, и свѧжите ѧ въ снѡпы, ꙗко съжещи ѧ** 33б; **въстанетъ бо ꙗзыкь на ꙗзыкь, и ц҃рьство на ц҃рство, троуси велици по мѣста, и глади, и мори боудоутъ** 177 – **о ѡсми лѣтехъ х҃ва възнесеніа. преложи же се іѡанъ. ѿ еврѣиска ꙗзыка на еллиньскыи** 4б – **въложи пръсты своѧ въ оуши его, и плюноувь, късноу его въ ꙗзыкь** 92б і інш. З'яўляючыся полісемічнымі, такія лексемы выступаюць адначасова як члены некалькіх лексічных груп. Так, напрыклад, лексема **жена** 'жанчына' ўваходзіць у групу адзінак, якія з'яўляюцца агульнымі назвамі асоб: **людіє, моужь, человѣкъ**; маючы ж значэнне 'жонка', яна выступае разам з адзінкамі **братъ, варь, дщи, мати, моужь, невѣста, ѡтець, пръвѣнецъ, родитель, рожденіє, свѣкры, сестра, сынъ, тещa, ѹець, ѫжика** ў групе назваў асоб па роднасці і сваяцтву.

***

У выніку даследавання ўстаноўлена, што моўная аснова помніка царкоўнаславянская. Аб гэтым сведчыць

наяўнасць няпоўнагалосных напісанняў: **бранити, вѣрвь, власы, градъ, гласъ, класъ, мрѣжа, сребро, чрѣво**;

ужыванне пачатковых спалучэнняў **ра, ла: рабъ, рабыни, равныи, разоумъ, расти, лакть**;

перавага напісанняў **ръ, лъ, рь, ль** у сярэдзіне слова паміж зычнымі ў спалучэннях **trъt*, **trьt*, **tlъt*, **tlьt*: **влъкъ, врьзи, исплънити, пръстъ, ѡтвръзостѣ**;

перадача спалучэнняў **tj*, **kt*, **gt* праз літару **щ**: **свѣщница, хощет; нощь, пѣщь; мощи**; спалучэння **dj* – праз **жд: ноуждоу, обиждоу, прѣжде, соуждѫ**;

адлюстраванне пачатковага спалучэння **je* праз **є: єдинъ, єзеро**;

наяўнасць пачатковага **а: агнецъ, азъ**;

ужыванне літары **д** пасля канцавога [*з*] прыставак перад наступным плаўным [*р*]: **въздрасть, раздрѣшено**;

зіянне галосных: **соущаа, страна їорданьскаа**;

наяўнасць у назоўніках і прыметніках з асновай на заднеязычны ў назоўным склоне множнага ліку свісцячых зычных: **врази, нѣции, глоусии, мнози**;

ужыванне ў прыметніках і займенніках з асновай на заднеязычны ў назоўным склоне адзіночнага ліку канчатка **-ыи: вѣтхыи, длъгыи, людскыи, нѣкыи**;

наяўнасць у родным склоне адзіночнага ліку канчатка **-ыѧ** ў прыметніках жаночага роду, канчатка **-аго** ў прыметніках, парадкавых лічэбніках, дзеепрыметніках мужчынскага роду: **добрыѧ, дх҃овнаго, въпїющаго, девѧтаго**;

функцыянаванне лічэбнікаў тыпу **два на десѧть, шесть на десѧть, три на десѧтыи**;

наяўнасць дзеясловаў у 2-ой асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу з канчаткам **-ши: можеши, хощеши**;

шырокае выкарыстанне форм прошлага часу – аорыста і імперфекта: **бѣжаша, възвѣстиша, пискахомъ**;

выражэнне загаднага ладу праз спалучэнне часціцы **да** і сэнсавага дзеяслова: **да творѧть вамъ ч҃лци**;

наяўнасць дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі **-ѫщ-**, **-ѧщ-**: **несѫще, хвалѧще**;

суфіксы -иј-, -знь, -анї(є), -ıанї(є), -енї(є), -ыни, -тель: бл҃говѣстие, болѣзнь, написанїе, прѣданїе, стоудодѣıанїе, чаıанїе, погроуженїе, оученїе, гръдыни, поустыни, жатель, оучитель;

складаныя словы: боголюбивъ, богопрїимецъ, житомѣренїе, заимодавецъ, ѕлословити, лъжепророкъ, лъжехристъ, любодѣицъ, многогл҃анїе, маловѣръ, четверооубразныи;

дапасаванне па сэнсу: град изыде въ стрѣтенїе ї҃сови, и видѣвше єго, молиша; сънидоша сѧ пакы нарѡд къ немоу;

ужыванне роднага раздзяляльнага: ѡтвѣщаша нѣцїи ѡт к<sup>s</sup>нижник и фарисѣи;

наяўнасць назоўнага прэдыкатыўнага: бѣ же оубо марко послѣдователь;

наяўнасць другога вінавальнага: сътворю вы ловца ч҃лком;

наяўнасць давальнага самастойнага: не имоущоу же ємоу въздати, повелѣ єго г҃ь єго продати и женоу єго, и чада; исходѧщоу ємоу ѡт єрихона, по нем<sup>s</sup> иде нарѡд многь;

функцыянаванне кароткіх прыметнікаў, дзеепрыметнікаў у складзе састаўнога іменнага выказніка: Ч҃лкъ же нѣкыи бѣ богат<sup>s</sup>; не вьсе тѣло твое въвръжено боудеть въ геенноу огн<sup>s</sup>ноую.

У тэксце адзначана некалькі прыкладаў, якія ілюструюць перадачу акання: паражоу, оутапаахоу, дана; двойчы зафіксавана напісанне ы пасля ж: оужы, л<sup>s</sup>жых; адзначана выкарыстанне канчатка -и ў назоўніках з былой асновай на *-ја* ў родным склоне адзіночнага ліку: вы єсте соль земли; канчатка -ихъ у лічэбніках пѧть – десѧть у месным склоне: о пѧтих хлѣбѣх, в недлѧх седмих; канчатка -имь у займенніку свои ў месным склоне адзіночнага ліку: ї҃съ же реч имь, нѣс прркъ без чьсти, тъкмо въ ѡчьствїи своимь, и въ домоу своемъ. Аднак гэтыя паказчыкі сведчаць пра беларускае паходжанне аўтара рукапісу і не ўплываюць на моўную аснову тэксту. Як адзначаюць даследчыкі, у найбольш распаўсюджаных у набажэнстве кнігах, да якіх адносіліся і евангеллі, напісанні з адлюстраваннем жывога вымаўлення спарадычныя, рэдкія, паколькі перапісчыкі старанна аберагалі як змест тэксту, так і яго форму, знешнюю абалонку.

Адметнай рысай мовы Слуцкага Евангелля з'яўляецца варыянтнасць. Так, на графічным узроўні адзначаны выпадкі варыянтных напісанняў з ıа і ѧ ў пачатку слова: ıазыкъ, ıазыкѡм<sup>s</sup> – ѧзыци, ѧзыкь, ıазвоу – ѧзвы, всѧкоу ıазю – ѧзѧми; є і є: єлои – єлѡї; ї і и: ар<sup>s</sup>хїиереи – ар<sup>s</sup>хиїереовь, татие – татїе, ї иоан<sup>s</sup>на – и їоан<sup>s</sup>на, ї҃съ – и҃са; оу і ȣ: оуч҃нкѡм<sup>s</sup> – ȣч҃нкѡм; ѕ і з: ѕло, ѕлословити, кнѧѕь – злодѣи, злѣ, кнѧз; ѳ і ф: матѳеови – ѡт матфѣѧ; ѱ і пс: ѱи ıадѧть ѡт кроупиць падоующих ѡт трапезы господїи своих – пси приходѧще, облизаахȣ гнои

его; ѱалѡмскых – псалмѣх; напісанні з вынаснымі літарамі або з літарамі пад цітлай і захаванне ўсіх літар у слове ў радку: оучнікь – оучнкъ – оученикъ, члвкъ – чловеком – прѣд человекы, мдръ – моудръ; вам – вамъ; перадача лікаў літарамі пад цітлай і словамі: Съзвавˢ же ѡба на .і. оучнка своꙗ 145 – созва ісъ оба на десꙗт ѹчнка 145.

У правапісе назіраецца змяшэнне літар ѣ і е пры напісанні аднаго слова (словаформ, аднакаранёвых слоў): мрѣжа – мрежоу, погрѣбение – погрѣбати – погребеніе, рѣкы – река, срѣтеніе – сретѣніе; перадача пачатковага спалучэння [ju] праз ю і оу (ꙗ): въ юзылищи – оузы, южемь желѣзномъ – ꙗжи; мена ь і ъ у сярэдзіне і на канцы слоў: връхоу – до врьха, влъци – вълкъ, ꙗзыкъ на ꙗзыкь, снь – снъ; пропуск рэдукаваных: всею – въсею, вниде – въниде; напісанні о, е на месцы ъ, ь: изъ сонмища – на сънмищих, сотникь – сътника, слезами – съ сльзами; ужыванне ъ, ь і о, е (адпаведна) пасля р, л паміж зычнымі (пры перавазе першых): на тръжищих – торˢжища; наяўнасць архаічных напісанняў гы, кы, хы побач з новымі ги, ки, хи: погыбнетˢ, пакы, расхытить – гиблющее, паки, расхитити; паралельнае ўжыванне пасля шыпячых літар а – ꙗ, оу – ю і пад.: моужоу, праведничоу, чашоу, имоущоу, житницоу – моужю, притчю, дшю, глющю, житницю; моужа, врача, написаша, съкровища, цатоу – възлежꙗ, ключꙗ, слышашꙗ лежащꙗ, вдовицꙗ; спарадычнае адлюстраванне асіміляцыі па глухасці: изшедъ, без сѣмене, въ корабль вълѣзˢти – исшед, бес плода, вълѣсти въ корабль.

На граматычным узроўні выяўлена ўжыванне назоўнікаў з асновай на зычны з архаічным канчаткам -е і новым -и: изыде бѣсъ изъ дˢщере твоеꙗ – се изношахоу ѹмршаго сна единородна мтри своеи; наяўнасць флексій -оу/-ю і -ови/-еви ў асабовых назоўніках мужчынскага роду ў давальным склоне адзіночнага ліку: ꙗко къ грѣшноу моужоу вниде – къ двѣ оброученѣ и моужеви емоуже имꙗ їосифъ, рече петрови – бѣ оубо съи марко, петроу оучнкъ; -и і -ѣ ў назоўніках мужчынскага і жаночага роду, асновы якіх заканчваюцца на ц, у месным склоне адзіночнага ліку: въ темници – на свѣщніцѣ, о слѣпци – о вартимїи слѣпцѣ; -оу і -ѣ ў назоўніку сынъ у месным склоне адзіночнага ліку: ѡ блоудномˢ сноу – ѡ снѣ вдовичи; зафіксавана паралельнае функцыянаванне варыянтаў асабовага займенніка ты і зваротнага займенніка ў давальным і месным склонах: гн, аще ты еси повели ми прїити кь тебѣ по водам – аминь глю тобѣ; чтѡ глеши ѡ тебѣ самѡм – азˢ же молих сꙗ ѡ тобѣ; чтѡ стѧзаете сꙗ къ себѣ – коупꙗт собѣ хлѣбы, не имоуть коренїа въ себѣ – глати въ собѣ; паралельнае функцыянаванне форм аорыста дзеяслова рещи: рѣх нѣсмь азь хс – рекѡх вамь и не вѣроуете,

**ѡтвѣщастаж имь родителѣ его и рѣста – си рекоста родителѣ его**; нясцягнутых і сцягнутых імперфектных форм: **желаше насытити чрево свое ѿ рожець – желааше насытити сѧ ѿ кроупиць падающихъ ѿ трапезы**; варыянтных канчаткаў у нетэматычных дзеясловах у 1-й асобе множнага ліку: **что ꙗмы, ли что пиемь**; наяўнасць прыназоўнікавых і беспрыназоўнікавых спалучэнняў: **припаде река храминѣ тъи – прїнесеши даръ твои къ олтарю**; наяўнасць/адсутнасць дзеяслова-звязкі ў складзе састаўнога іменнага выказніка: **Чл҃къ же нѣкыи бѣ богатѕ – дх҃ъ бо бъдръ, пьлотѕ же немощѕна.**

Неабходна падкрэсліць, што варыянтнасць у большай ступені праяўляецца на графічным узроўні тэксту, з'яўляецца яго паказальнай рысай. Так, паралельнае выкарыстанне дублетных графічных сродкаў назіраецца на кожным аркушы манускрыпта, напрыклад: **зѹбъ за зоубъ** 16; **їѡан҃ѕна – їоанѕна – їѡанѕна** 27б; **дасть пѧтѕ талантъ, овомоу же два, ѡвомоужѕ единъ** 59; **видиши соучець, иже есть въ ѡчеси брата твоего. бръвна же еже ес въ очеси твоемѕ не чюеши** 137б; **вонь – вѡн** 214б, **азь – азъ** 218, **вѣроуѧи въ мѧ – вѣроуꙗи въ мѧ** 218, **оумрѣт – омьрѣть** 218; **аминь – амин – амїнь** 223б; **иѡнинъ – иѡнинь – ионинь** 239. Невысокая ступень праяўлення варыянтнасці на граматычным і лексічным узроўнях сведчыць пра тое, што мова помніка не падвяргалася істотнай мадыфікацыі.

Прычыны варыянтнага выкарыстання моўных сродкаў можна абгрунтаваць дзеяннем фактару аналогіі, а таксама эвалюцыйнымі зменамі (важна мець на ўвазе, што як літаратурная царкоўнаславянская мова ў канцы XVI – пачатку XVII ст. функцыянавала не ў выглядзе застылага канона слоў і форм, а ў складаным адзінстве шматстайных арэальных і храналагічных варыяцый [129]). Шэраг графічных варыянтаў, магчыма, выкліканы зменамі, унесенымі ў тэкст пісцом, выпадкова ці ў адпаведнасці з індывідуальным, суб'ектыўным разуменнем ім правільнасці тэксту. “Перапісчыкі старых рукапісаў мелі свае прычыны, каб, на іх думку, паправіць мову ўжо мёртвую, якая захавалася толькі ў кнігах. Адны лічылі неабходным замяняць незразумелыя для іх словы ці канчаткі ўжывальнымі ў свой час і на іх дыялекце, каб быць зразумелымі для народа, сярод якога пісалі. Другія адвольнымі пераменамі думалі надаць правільнасць мове, якая ў кнігах, што перайшлі да іх, магчыма, была скажона невучонымі перапісчыкамі, або правільныя формы маглі падацца ім памылкамі перапісчыкаў, паколькі былі ў гэты час неўжывальнымі і да таго ж не адпавядалі правілам граматыкі грэчаскай або лацінскай моў” [181, 6]. Канчатковае тлумачэнне варыянтнасці ў Слуцкім Евангеллі будзе магчымым пасля выяўлення яго пратографа.

Падобныя комплексныя апісанні асобных тэкстаў, створаных на царкоўнаславянскай мове, складаюць падмурак даследаванням, прысвечаным развіццю і функцыянаванню царкоўнаславянскай мовы як на тэрыторыі старажытнай Беларусі, так і на тэрыторыі ўсяго славянскага рэгіёну, г.зн. у параўнальных даследаваннях. Такія распрацоўкі дазволяць паглыбіць веды аб граматычным, лексічным ладзе царкоўнаславянскай мовы, удакладніць яе ролю ў стварэнні, бытаванні, распаўсюджанні і перадачы інтэлектуальнай спадчыны праваслаўнага славянства.